# ДАВЕДНІК

## КАЛГАСНАГА БРЫГАДЗІРА СВІНАРА

ДВБ СЕЛЬГАССЕКТАР МЕНСК 1934

# ДАВЕДНІК КАЛГАСНАГА БРЫГАДЗІРА СВІНАРА

Пераклад з рускай мовы
І. К. Жыгара



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
СЕЛЬГАССЕКТАР
МЕНСК—1933

## ПРАДМОВА

Значэнне калгасных таварных свінаферм у вырашэнні мясной праблемы ў нашай краіне велізарнае. На I/IX 1932 г. на свінафермах сабрана 2700 тыс. галоў свіней, у тым ліку 732 тыс. свінаматак. Гэта стада дазваляе зрабіць калгасныя свінафермы ўжо ў бліжэйшы час важнейшай крыніцай снабжэння працоўных мясам.

У калгасных свінафермах у сучасны момант працуюць сотні тысяч калгаснікаў і дзесяткі тысяч брыгадзіраў-свінаводаў. Падвышэнне якасці работы ферм цесна звязана з аўладаннем тэхнікі і арганізацыі свінагадоўлі ўсімі работнікамі, якія працуюць на фермах.

Аўтарскі калектыў, створаны па прапанове калегіі НКЗему СССР, складаючы гэты даведнік, ставіў перад сабой задачу даць у даведніку веды па тэхніцы і арганізацыі свінагадоўлі ў такой форме, каб гэты даведнік зрабіўся настольнай кнігай кожнага брыгадзіра-свінавода ў калгасе і ў той-жа час замяняў сабой дапаможнік для калгасных гурткоў па аўладанні тэхнікай свінагадоўлі.

Аўтарскі калектыў лічыць, што як першы вопыт такой работы, даведнік не пазбаўлен рада недахопаў, устараніць якія можна толькі шляхам сумеснай работы прадстаўнікоў навуковай мыслі і ўсяго многатысячнага калектыву чытачоў—калгаснікаў-свінаводаў, да якіх мы зварочваемся з просьбай прысласць на імя Сельгаквыдату ўсе свае заўвагі аб даведніку.

У складанні і ў прапрацоўцы зместа даведніка прымалі ўдзел наступныя таварышы: Агапаў, праф. Багаеўскій Г. В., Братус І. Е., Валкоўскій М. Н., Гваздзецкій П. А., Краваль І. Л., Калінін Д. М., праф. Кузмін С. Л., Мальт А. Г., Несцераў П. І., Сідзельнікаў І. І., праф. Рэдзкін А. П.

Рэдагаванне зоотэхнічных раздзелаў даведніка зроблена праф. Паповым І. С.

Агульнае рэдагаванне належыць старшыні праўлення свінаводкалгасцэнтру СССР т. Скалыга Н. Ф.

---

# I

# РАЗВІЦЦЁ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ—ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

„Няма больш звароту да старога. Кулацтва асуджана і будзе ліквідавана. Астаўся толькі адзін шлях—шлях калгасаў. А шлях калгасаў не ёсць ужо шлях невядомы, невыпрабаваны. Ён выпрабаваны і праверана на тысячы ладоў самімі сялянскімі масамі.“

(Сталін).

На аснове арганізацыі саўгасаў і калгасаў, стварэння тысяч машына-трактарных станцый, аказання велізарнай матэрыяльнай дапамогі з боку пролетарскай дзяржавы соцыялістычнай с-г вытворчасці ў нашай краіне вырашана зерневая праблема, і дасягнуты рашучыя зрухі ў справе развіцця тэхнічных культур (бавоўна, лён, буракі).

Гэтых поспехаў мы дабіліся дзякуючы правільнай ленінскай лініі партыі, якая забяспечыла высокія тэмпы індустрыялізацыі нашай краіны, ахоп суцэльнай калектывізацыяй усіх асноўных раёнаў Совецкага саюза, ліквідацыі кулацтва, як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі і бязлітаснай барацьбы з правым ухілам як галоўнай небяспекай на даным этапе і з „левымі“ загібамі і прымірэнцтвам да іх. СССР стаў краінай самага буйнага ў свеце земляробства.

У Совецкім саюзе калгасы сталі асноўнымі вытворцамі збожжа, а калгаснае сялянства—цэнтральнай фігурай нашага земляробства. У нас створаны многія сотні буйных жывёлагадоўчых саўгасаў і дзесяткі тысяч таварных жывёлагадоўчых ферм у калгасах. Наша соцыялістычная жывёлагадоўля павінна задаволіць не толькі запатрабаванні працоўных у прадуктах харчавання (мяса, сала, малако), але і патрабаванні нашай прамысловасці ў жывёлагадоўчай сыравіне.

XVII партыйная канферэнцыя дала ўказанне аб тым, каб на працягу другой пяцігодкі павысіць узровень матэрыяльнага забеспячэння працоўных у 2—3 разы ў параўнанні з канцом першай пяцігодкі. У гэтай справе велізарную ролю павінна адыграць соцыялістычная жывёлагадоўля, якая дае выключна цэнную прадукцыю для харчавання і для выраба прадметаў шырокага спажывання (абутак, адзенне і г. д.)

Таму работа „па стварэнню і ўмацаванню соцыялістычнага сектара ў галіне жывёлагадоўлі саўгасаў і калгасных таварных ферм“ павінна стаць „цэнтральнай задачай бліжэйшага часу ў галіне сельскай гаспадаркі. 1931 і 1932 г.г. павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў галіне разгортвання жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гг. у справе арганізацыі соцыялістычнай зерневай гаспадаркі“ (з адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР „Аб разгортванні соцыялістычнай жывёлагадоўлі“ ад 30/VII 1931 г.).

На аснове ўказанняў партыі і ўрада ўжо праароблена велізарная работа па стварэнню і ўмацаванню соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Пад кіраўніцтвам партыі дзесяткі тысяч калгасаў стварылі таварныя жывёлагадоўчыя фермы і інкубатарна-птушкаводныя станцыі, у асобе якіх „знойдзена форма стварэння аграмаджанай жывёлагадоўлі і птушкаводства, найбольш адпавядаючая цяперашняй арцельнай стадыі развіцця калгаснай гаспадаркі і побач з саўгасамі найбольш хутка рашаючая задачу стварэння буйнай таварнай жывёлагадоўлі“ (адозва ЦК і СНК).

Саўгасы і калгасныя таварныя фермы павінны даць асноўную масу таварнай прадукцыі жывёлагадоўлі. Побач з гэтым трэба цвёрда праводзіць у жыццё ўказанні Цэнтральнага камітэта партыі ад 26/III 1932 г. „Неабходна дабіцца, каб у кожнага калгасніка была свая

карова, дробная жывёла і птушка, а далейшае расшырэнне калгасных ферм павінна ісці толькі шляхам вырошчвання маладняка або пакупкі жывёлы". Трэба рашуча пакончыць з практыкай прымусовага аграмаджання дробнай жывёлы; такое аграмаджанне могуць дапускаць „толькі ворагі калгасаў."

Наадварот, усе калгасы павінны дапамагчы сваім членам у пакупцы і вырошчванні маладняка для ўласнай патрэбы.

Пастановай СНК і ЦК УсеКП(б) ад 10/V 1932 г. дзяржаўны план жывёлазагатовак для сялянскага сектара зменшаны на астатнія 3 кварталы 1932 г. удвая. Адменены якія-б там не былі абмежаванні па забою буйнай рагатай і дробнай жывёлы як для ўласных патрэб сельскага насельніцтва, так і для продажа; калгасам, калгаснікам і аднаасобным працоўным сялянам, акуратна выконваючым план жывёлазагатовак, дана права прадаваць жывёлагадоўчую прадукцыю сваіх гаспадарак на рынках-базарах і праз калгасныя крамы; адменены ўсе падаткі на жывёлу калгасаў і калгаснікаў.

Каб хутчэй палепшыць снабжэнне працоўных СССР мясам, трэба ўзмоцнена заняцца развядзеннем скараспелай жывёлы—свіней, трусоў і інш.

За кароткі час сваёй работы калгасныя таварныя свінагадоўчыя фермы сабралі вялікае пагалоўе свіней. На 1/IX 1932 г. у 26 105 СТКФ лічыцца ўсяго пагалоўя 2 700 тыс. галоў,

у тым ліку дарослых свінаматак 732 тыс. галоў. Пры такім вялікім стадзе свінаматак калгасныя свінагадоўчыя фермы павінны выканаць заданне партыі і ўрада як па продажу таварнай прадукцыі, так і па расшырэнню свайго пагалоўя, па аказванню дапамогі калгаснікам у справе вырошчвання свіней для ўласных патрэб і для продажа на калгасных рынках.

Пагалоўе свінаферм павінна быць павялічана да канца 1932 г. да 3 млн. 150 тыс. галоў, у тым ліку дарослых свінаматак да 1 млн. 50 тыс. галоў.

Выключна вялікія задачы ставяцца перад калгаснай свінагадоўляй у другой пяцігодцы (1933—1937 гг.). Па першых намётках стада свіней на таварных свінафермах будзе даведзена ў 1937 г. да 20 млн. галоў, у тым ліку свінаматак—да $3^1/_2$ млн. галоў.

Выкананне заданняў па арганізацыі свінагадоўлі на таварных фермах паставіць СТКФ на адно з першых месц у вытворчасці мясной прадукцыі ў СССР, а таксама дасць магчымасць у найкарацейшы тэрмін паставіць СССР на адно з першых месц у свеце.

Пры выбары калгасаў для арганізацыі свінаферм няма патрэбы выстаўляць якія-небудзь асаблівыя патрабаваньні ў адносінах да гэтых калгасаў. Самае важнае тут заключаецца ў тым, што **свінаферма павінна быць забяспечана кармамі** (з зерня, зернявых і інш. адыходаў,

з ураджаю кораньплодаў) і травамі для летняга ўтрымання на пашы.

Не трэба ганяцца за стварэннем выключна буйных свінаферм з пагалоўем у 100—150 свінаматак. Вопыт паказаў, што буйныя свінафермы, якія дрэнна забяспечаны кармамі, працуюць горш дробных ферм з добрай кармовай базай. Новыя свінафермы трэба ствараць у строгай суадпаведнасці з кармавымі магчымасцямі калгаса, дапускаючы пры гэтым арганізацыю ферм з матачным стадам ад 5 галоў, калі у калгасе няма кармоў для ўтрымання большага пагалоўя.

Пабач са свінафермай любы калгас можа ствараць і іншыя жывёлагадоўчыя таварныя фермы—мяса-малочныя, фермы вырошчвання маладняка і т. д. Само сабой зразумела, што стварэнне некалькіх таварна-жывёлагадоўчых ферм у адным калгасе магчыма толькі пры наяўнасці ў гэтым калгасе добрай кармавой базы і пры згодзе саміх калгаснікаў на гэту справу, а таксама пры наяўнасці кадраў.

Пастановай СНК ад 7/V 1932 г. 2 200 тыс. га зернавых культур і бульбы ў калгасах, якія маюць свінафермы, вызвалены ад кантрактацыі, а ўраджай з гэтых плошчаў браніруецца за фермай. Гэтыя патрабаваньні павінны быць выкананы кожным калгасам безагаворачна.

Калі ўласныя кармы, якія вырашчаны на палёх калгаса, павінны быць асноўнай базай для свінафермы, то гэта зусім не значыць, што кал-

гасы не абавязаны павялічваць кармавыя запасы свінаферм за кошт мабілізацыі кармоў па-за калгасам. Вотрубі, макуха, адыходы бурачнацукровай, броварнай і крухмала-патачнай прамысловасці, адыходы боенскіх прадпрыемстваў і сталовых, абяззаражаныя трупы паўшых жывёл у сваіх гаспадарках шляхам перапрацоўкі іх у мяса-касцяную муку—усё гэта павінна пайсці на ўзмацненне кармавых запасаў ферм. Тут трэба кіравацца правілам—карміць і адкармліваць свіней па магчымасці **дзешавей**, з тым каб **эканоміць найбольш цэнныя зерневыя кармы.**

Шэсць умоў правадыра партыі т. Сталіна павінны быць пакладзены ў аснову работы кожнай свінафермы якраз таксама, як гэта робіцца на нашых лепшых фабрыках і заводах, у лепшых саўгасах і калгасах.

Усе фермы павінны як мага хутчэй увесці ў сябе новае палажэнне аб арганізацыі працы, зацверджанае Наркомземам СССР і Свінаводкалгасцэнтрам. Увядзенне гэтага палажэння павінна пакончыць з ураўнілаўкай і цякучасцю кадраў, бо здзельшчына па новаму палажэнню павышае матэрыяльную зацікаўленасць калгаснікаў-свінаводаў.

Павышэнне кваліфікацыі брыгадзіра з'яўляецца адной з важнейшых задач, таму што брыгадзір з'яўляецца кіраўніком і арганізатарам на ўчастку, замацаваным за яго брыгадай.

Вялікую ролю павінны адыграць у павышэнні ведаў свінаводаў, а таксама ў павышэнні зацікаўленасці ў рабоце і адказнасці за работу вытворчыя нарады на фермах. Вытворчыя нарады толькі тады адыграюць сваю карысную ролю, калі яны будуць склікацца рэгулярна, калі на гэтых нарадах будуць абмяркоўвацца ўсе пытанні, звязаныя з доглядам за свіннямі, за апаросамі, злучкай, кармленнем, адкормам і здачай таварнай прадукцыі. Работа вытворчых нарад павінна праходзіць на аснове жорсткай самакрытыкі, на аснове рашучага ўскрыцця ўсіх недахопаў у рабоце фермы. Чым глыбей будуць ускрыты хваробы фермы, тым хутчэй яны будуць вылечаны.

Дабіцца больш высокай якасці ў рабоце ферм, дабіцца павышэння тэхнічнай і палітычнай пісьменнасці ўсіх калгаснікаў-свінаводаў, дабіцца арганізацыі соцспаборніцтва і ўдарніцтва можна толькі шляхам пастаяннай масавай работы на ферме. Ферма ў калгасе павінна быць перадавіком ва ўсіх адносінах. Ні на мінуту нельга забываць таго, што рэшткі кулацтва напружваюць усе свае намаганні, каб сарваць умацаванне ферм, а значыць падарваць адну з лепшых крыніц дахода калгаса і справу снабжэння рабочых мясам. Будаўніцтва свінаферм—гэта адзін са спосабаў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, супроць якога так рашуча змагаецца кулацтва. Паралізаваць кулацкую падрыўную работу можна толькі шляхам

пастаяннай масавай работы, шляхам стварэння добра падрыхтаваных кадраў свінаводаў на фермах, шляхам павышэння зацікаўленасці ўсёй масы калгаснікаў у справах свінафермы і павышэння даходнасці свінаферм.

# II

## БУДОВА І АБСТАЛЯВАННЕ ФЕРМЫ

### Выбар месца для свінарнікаў

Свінарнікі трэба будаваць не бліжэй паўкілометра і не далей кілометра ад сяла. Месца для свінарніка павінна быць узвышанае і сухое; глеба лёгка правікальная для вады—пясчаністая або дробна-камяністая.

Размяшчаць свінарнікі неабходна так, каб яны знаходзіліся пад аховай лесу ад пануючых вятроў. Калі лесу няма, раім зрабіць насаджэнні пладовых дрэў.

**ВАДА**. Паблізу свінарніка павінна быць вада—рака, ручэй, крыніца або багаты вадой просты шахтны ці артэзіянскі калодзеж.

### Пабудова фермы

На буйнай свінаводнай калгаснай ферме павінны быць наступныя пабудовы: свінарнікі, кухня, корань-клубняхавальнікі, хавальнікі для

концэнтраваных кармоў, сілосная вежа, канюшня, склад для сена, жылы дом, ізалятар, гнояхавальнік і калодзеж.

**СВІНАРНІК** размяшчаюць у напрамку з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Адлегласць між канцамі свінарнікаў, якія павернуты да кухні, павінны быць 20 *м*, а ў працілеглым канцы—40 *м*, у палавінах свінарнікаў, размешчаных бліжэй да кухні, ставяцца станкі адкормачнага пагалоўя, а ў супроцьлеглых палавінах маткі, ад'ёмышы і інш.

**ІЗАЛЯТАР** разам са спецыяльнай для іх невялікай кухняй павінен будавацца на паўднёвы захад ад свінарнікаў на адлегласці ня менш 200—300 *м*. На поўнач ад свінарнікаў памяшчаецца жылы дом.

**КАРАНЬПЛОДАХАВАЛЬНІК І СІЛОСНЫЯ ВЕЖЫ, ЯМЫ І ТРАНШЭІ** размяшчаюцца на адлегласці 10 і 40 *м* ад кухні.

**КАЛОДЗЕЖЫ** трэба рабіць блізка да свінарнікаў і жылых памяшканняў, аднак на такой адлегласці, каб у іх не магла прасочвацца жыжка з свінарнікаў і прыбіральні.

На вялікіх фермах памяшканне для кухні і **кормапрыгатовачнай** будуецца **асоба** на поўнач ад свінарнікаў на адлегласці 30 *м*, а таксама будуецца зусім самастойнае памяшканне для кормахавальнікаў.

**МАТЭРЫЯЛЫ.** Свінарнікі трэба будаваць з мясцовых матэрыялаў: гліны, самана,

цэглы, хмызняка, дзікага каменю, мясцовага лесу, са старых будынкаў і т. д. Укрыццё таксама робіцца мясцовымі матэрыяламі: саломай, глінасаломай, чарапіцай і інш.

З цэнтралізаваных фондаў для будаўніцтва свінарнікаў адпускаецца толькі шкло і цвікі, ды і то ў вельмі абмежаванай колькасці.

Трэба гэтыя матэрыялы адшукаць на месцы за кошт старых і непатрэбных калгасам будынкаў на былых індывідуальных дварох калгаснікаў.

## Як будуюцца свінарнікі

Пры новай форме арганізацыі працы на СТКФ размер кожнага свінарніка павінен забяспечыць поўны абарот стада з 21 маткай, 1 кныром і ўсім іх прыплодам. У наступныя гады той жа свінарнік, пабудаваны з запасам плошчы, можа абслужыць матачнае стада да 27 галоў з прыплодам.

Праўленне Свінаводкалгасцэнтра зацвердзіла для кіравання па ўсёй сістэме тыповы праект свінарніка, размер якога ўнутры 64,2 $\times$ 7,2 *м*. Свінарнік папярочным праездам шырынёй у 2,3 *м* падзяляецца на дзве няроўныя часткі— паўднёвую і паўночную; указаныя часткі аддзяляюцца ад папярочнага праезду дзвюма капітальнымі сценамі, якія маюць у сярэдзіне вароты размерам у 1,8 *м*.

Генеральны план сядзібы СТКФ




1. Свінарнікі
2. Кухня
3. Кораньклубня-
хавальнік
4. Канцкармы
5. Сілосная вежа
6. Канюшня
7. Склад для сена
8. Жылы дом
9. Іаалятар
10. Гнояхавальнік
11. Калодзеж

У паўднёвай частцы размяшчаюцца супаросныя, тыя, якія паросяцца, падсосныя і халастыя маткі, кныры і ад'ёмышы, а таксама памяшчаюцца манеж для злучак і сталовая, прызначаная для абслугоўвання пагалоўя, якое знаходзіцца ў паўднёвай частцы.

У паўночнай частцы размяшчаюцца адкормачны маладняк ад 4 да 9 месяцаў і сталовая для яго.

На невялікіх фермах кухня прыбудоўваецца да свінарніка.

Калі ў будучым матачнае пагалоўе мяркуецца мець не звыш 100—110 свінаматак, усе свінарнікі павінны будавацца у адным месцы, складаючы адну агульную свінаферму пад кіраўніцтвам аднаго загадчыка фермай; у тых выпадках, калі кармовыя ўмовы калгаса дазваляюць развіць свінагадоўлю ў калгасе звыш 120—150 матак, лепш арганізоўваць другую самастойную ферму з асобным загадчыкам гэтай свінафермай.

**РАЗМЕРЫ ПАМЯШКАННЯЎ** для розных груп свіней на таварных фермах рэкамендуюцца наступныя:

| Назва ўзросных груп свіней | Нормы на галаву | |
|---|---|---|
| | Плошчы ў *кв. м* | Кубаметраў |
| Маткі падсосныя . . . | 7,5 | 22,5—27 |
| Маткі халастыя . . . . | 1,30 | 3,75—4,50 |
| Кныры-вытворнікі . . . | 8,25 | 17,21 |

| Назва ўзросных груп свіней | Нормы на галаву | |
|---|---|---|
| | Плошчы ў *кв. м* | Кубаметраў |
| Парасяты ад'ёмныя 2—4 м. | 0,50 | 1,50— 1,75 |
| Падсвінкі „ 4—6 „ | 0,75 | 2,10— 2,60 |
| „ „ 6—8 „ і старэй . . . . . | 1,0 | 3 — 3,60 |

Станкі і памяшканні ў паўднёвай частцы размяшчаюцца наступным парадкам: у самага папярочнага праезда будуецца сталовая размерам 3,4 × 7,2 *м*, якая аддзяляецца ад астатняй часткі свінарніка капітальнай сцяной з варотамі размерам у 1,8 *м* шырыні; каля сталовай размяшчаюцца адзін-два станкі для кныроў размерам 2,5 × 2,5 *м* кожны; побач з гэтым станком па аднаму з кожнага боку будуюцца станкі для ад'ёмышаў размерам 6 × 2,5 *м* кожны.

У астатняй частцы паўднёвай палавіны свінарніка на адным баку размяшчаецца 11 матачных станкоў шырынёй у 2,1 *м* і даўжынёй у 2,5 *м*; у гэтай-жа палавіне каля ўваходу ў свінарнік ставіцца печ, топка якой выходзіць ў карыдор; печ неабходна ставіць не каля капітальнай сцяны, а бліжэй да перагародак станкоў.

На другім баку гэтай-жа палавіны свінарніка робяцца 10 матачных станкоў і ў самага ўвахода ў свінарнік манеж—размерам 4,5 × 2,5 *м*.

Па сярэдзіне свінарніка, удоўж яго, пакідаецца карыдор шырынёй у 1,8 *м*.

Станкі і памяшканні ў паўночнай частцы свінарніка размяшчаюцца наступным чынам: каля сярэдняга праезду таксама, як і ў паўднёвай частцы, робіцца сталовая размерам 7,2×4 *м*, якая адгароджваецца ад астатняй часткі памяшкання капітальнай сцяной. Па абодвум бакам свінарніка размяшчаецца па 3 станкі, а ўсяго 6 станкоў размерам 2 5×6 *м* кожны. Прадоўжны карыдор таксама, як і ў паўднёвай частцы, робіцца шырынёй у 1,8 *м* (у размеры станкоў і памяшканняў не ўваходзіць таўшчыня сцен і перагародак).

Для зручнасці манэўравання ў свінарніку ў адносінах выкарыстання станкоў без перапланавання і перабудовы іх перагародкі паміж станкамі неабходна рабіць так, каб іх можна было здымаць.

Перагародкі станкоў для кныроў робяцца не рашотчатымі, а глухімі, стаўні-ж манежа робяцца глухімі да столі і магчыма гуканепранікальнымі.

Для скарыстання свабодных станкоў як падкормачных памяшканняў для парасят-сысуноў па абодва бакі ў перагародках робяцца каля знадворных сценак асобыя ходы для парасят.

У час утрымання падсосных матак паміж кожнай парай маточных станкоў адзін станок пакідаецца для падкормкі парасят.

Тыповы праект свінарніка для калгасных свінаферм на 21 матку з прыплодам і 2 кныры, з кухняй.





1. Станок для матак
2. Станок для ад'ёмышаў
3. Станок для кныра
4. Сталовая
5. Манеж
6. Праход
7. Сталовая
8. Станкі для адкормачнікаў
9. Засекі
10. Памяшканне для дзяжурнага
11. Кухня

У абодвух уваходаў у свінарнік робяцца тамбуры раѕмерам кожны 5,4×2,5 *м.* Апрача звычайнай вентыляцыі (у дымавых трубах печак) абавязкова будаваць вентыляцыйныя каналы, якія павінны мець каля падлогі ўваходную адтуліну; такая вентыляцыя служыць для выдалення цяжкіх газаў.

## Кухня

У тых выпадках, калі на ферме мяркуецца будаваць не больш трох свінарнікаў, кухня з кормапрыгатовачнай будуецца пры кожным свінарніку, складаючы з апошнім адно цэлае, і пры адным абслугоўванні свінароў. Пры большай колькасці свінарнікаў кухня робіцца адна для ўсіх свінарнікаў.

Памяшканне кухні прымыкае з боку аднаго праезду свінарнікаў.

Унутраны размер кухні роўны 7,5×6 *м.* У гэтым памяшканні павінна знаходзіцца з боку паўночнай часткі свінарніка печ з катлом для варкі кармоў і пакоем для дзяжурнага свінавода размерам 2,5×3 *м.* Гэты пакой павінен знаходзіцца непасрэдна ля сцяны свінарніка і мець вакно, выходзячае ў свінарнік, для наглядання за свінарнікам. Пакой дзяжурнага брыгадзіра асобай печы не мае і ацяпляецца зробленым шчытком з дымавым калодцам варачнай печы. У гэтай-жа палавіне адводзіцца плошча

для кормапрыгатаўлення. У другой палавіне робяцца тры засекі для канцэнтрыраваных кармоў агульнай ёмістасцю каля 10 *т*.

Загрузка засекаў павінна рабіцца праз асобыя люкі ў знадворнай сцены памяшкання, да якіх прыладжваюцца пляцоўка і лесніца. Выгрузка кармоў з гэтых засекаў робіцца праз ніжнія люкі, якія выходзяць у праход кухні. Падлогу ў засеках неабходна рабіць з невялікім нахілам у бок разборачных люкаў, каб палегчыць разгрузку кармоў. Размеры кожнага засека 2 *м*. Верхнія люкі робяцца адкіднымі на петлях з бартамі, з тым каб замяняць сабой варонкі для прыёмкі кармоў.

# III

## ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ АБ КАРМОХ І КАРМЛЕННІ СВІНЕЙ, У ЯКІХ ПАЖЫЎНЫХ МАТЭРЫЯХ АДЧУВАЮЦЬ ПАТРЭБУ СВІННІ, ШТО ТАКОЕ ПРАВІЛЬНАЕ КАРМЛЕННЕ.

Малады падсвінак расце за кошт росту касцей і мускулаў. З узростам пры багатым кармленні свіння пачынае тлусцець—накапліваць у сваім целе тлушч-сала.

**БЯЛОК.** Мускулы (мяса) і ўнутраныя органы свінні складаюцца галоўным чынам з бялка. Бялкі цела могуць утварыцца толькі з бял-

коў корму. Таму для нарошчвання мяса свіння патрабуе бялковых матэрый корма.

Не ўсе кармы аднолькава багаты на бялковыя матэрыі, але найбольшую колькасць бялка змяшчае мясная і рыбная мука—да 80 проц.; многа бялка ў макусе—да 38 проц., у зернях бабовых раслін да 20 — 25 проц., зерні збожжавых злакаў змяшчаюць 8—12 проц. бялка, сена бабовых траў 6,0—10,0 проц., каранькдубняплоды 0,4—1,0 проц. Для растучага маладняка—парасят і падсвінкаў—асабліва цэнныя бялкі кармоў жывёліннага паходжання (малако, мяса, касцяная мука, рыбная мука і інш). у такіх кармох бялкі называюць „поўнацэннымі".

**ТЛУШЧ**. Добра адкормленыя свінні даюць тушу, у якой да 45 проц. і больш складае сала. Некаторую частку гэтага сала свіння вытварае з тлушчу корма. Большасць кармоў, якія вытвараюцца ў гаспадарцы—каранькдубняплоды, сена, сілос,—вельмі бедныя тлушчам (ад 0,1 да 0,2 проц.); з зерневых кармоў найбольшую колькасць тлушчу змяшчаюць кукуруза і авёс—5—6 проц., вельмі багата тлушчам насенне маслянічных раслін—лён, сонечнік і інш.—30—45 проц.

Аднак вялікія колькасці тлушчу ў корме для свіней не толькі не абавязковы, але нават і залішні. Вялікая колькасць тлушчу

ў кармох пры беконным адкорме выклікае адкладанне дрэннай якасці мяса і сала; апрача таго пры вялікіх дачах у корме тлушчу, калі яго прыходзіцца больш 70—100 *г* на 100 *кг* жывой вагі, свіння траціць апетыт.

**КРУХМАЛ І ЦУКАР.** Галоўным матэрыялам, з якога свінні вытвараюць сала, з'яўляюцца **крухмал і цукар.** Крухмалам багаты зерні кукурузы, ячменю, жыта і інш. збожжавых раслін—да 60 проц., а таксама клубні бульбы—да 25 проц. Найбольшую колькасць цукру мы маем у каранёх цукровых і паўцукровых буракоў—да 20 проц., морквы, сорго (чаротавы цукар).

**МІНЕРАЛЬНЫЯ МАТЭРЫІ.** Здаровыя, добра развітыя і хутка растучыя свінні павінны мець добры моцны касцяк. Толькі на такім касцяку можа пасняхова ісці нарошчванне мускулаў мяса. Для пабудовы касцяка свінні маюць патрэбу ў мінеральных солях і, галоўным чынам, у солях кальцыя (вапна) і фосфара.

Без гэтых матэрый у корме нельга атрымаць хуткага роста парасят і падсвінкаў, нармальнай пладавітасці матак, нармальнага развіцця зародышаў у супароснай маткі. Недахоп у мінеральных солях павялічвае процант захворвання і гібелі маладняка і асабліва процант гібелі парасят.

**Кармы, багатыя на кальцый і фосфарную кіслату**

Сена люцэрны ў часе цвіцення
Сена канюшыны
Сена вікі
Сена эспорцэта
Сена лугавое добрае
Рыбная мука
Піўная драбіна сухая
Малако цэльнае
Малако знятае
Мука мясная
Сушаная кроў

Апрача таго ў сутачны рацыён свіней павінны ўваходзіць спажыўная соль 10—40 *г* на галаву (у залежнасці ад вагі свіней), крэйда або гашаная вапна—20—40 *г* на галаву і дрэўны вугаль у такой-жа колькасці. Пры зялёным корме з бабовых траў вугаль і вапну ўводзіць не трэба.

Пры наяўнасці ў СТКФ кармоў жывёліннага паходжання неабходна для падсосных матак, парасят-сысуноў, рамонтнага маладняка ўключыць у рацыён і гэтыя кармы.

**КАРМАВАЯ АДЗІНКА.** Розныя кармы маюць розную пажыўнасць. Каб правільна ацаніць кармы, неабходна мець агульную меру для вымярэння іх пажыўнасці.

Пажыўнасць усіх кармоў добра вымяраць параўнаннем іх з пажыўнасцю ўсім добра вядомага корму; такім кормам у нас у СССР прынят авёс, у Даніі і Швецыі—

ячмень. 1 *кг* аўса ў нас у СССР лічаць за адну кармовую адзінку, у Даніі і Швецыі за адну кармавую адзінку лічаць 1 *кг* ячменю.

Спецыяльнымі доследамі знойдзена, якая колькасць розных кармоў роўна па пажыўнасці 1 *кг* аўса. Гэтыя даныя прыводзяцца ў наступнай табліцы.

## Што такое кармавыя нормы для свіней

Сутачная патрэбнасць свіней у пажыўных матэрыях корма розная і залежыць ад жывой вагі свіней, узроста, ад таго стану, у якім яны знаходзяцца, і інш. Так, падсосная матка, якая павінна падтрымаць сваё жыццё і ўтварыць многа тлустага малака для сваіх парасят, патрабуе корму ў некалькі разоў больш, чым матка халастая такой-жа вагі. Маладая матка, якая расце, патрабуе для свайго развіцця і роста пажыўных матэрый корма больш, чым такой-жа вагі старая матка, якая закончыла свой рост.

Доследамі і нагляданнямі ўстаноўлена, якая колькасць пажыўных матэрый у розны час жыцця патрабуецца даць свінням, каб поўнасцю задаволіць усе патрэбнасці. Гэтую колькасць пажыўных матэрый завуць „кармавой нормай“.

**КАРМАВЫ РАЦЫЁН.** Пры правільным кармленні свінней трэба падабраць такія сумесі розных кармоў, каб у іх было столькі

## КОЛЬКАСЦЬ ВІТАМІНАЎ У КАРМОХ

| Назва корму | Вітаміны | | | |
|---|---|---|---|---|
| | A | B | C | D |
| **I. Зялёны корм** | | | | |
| 1) Трава сярэдняй пашы, кукуруза, жыта, сорго цукровае . . . . | +++ | ++ | ++++ | +++ |
| 2) Канюшына чырвоная у часе цвіцення, канюшына чырвоная да цвіцення, люцэрна ў часе цвіцен., люцэрна да цвіцення, гарох у пачатку цвіцення, віка-аўсяная сумесь, жыта эспарцэт | +++ | +++ | ++++ | +++ |
| 3) Націнне морквы, бацвінне цукровых буракоў . . . . . . | +++ | ++ | +++ | +++ |
| **II. Грубы корм** | | | | |
| 4) Сена канюшынавае, сена люцэрнавае, эспарцэта, вікі-аўса, гароха з аўсом і соі . . . | +++ | ++ | ++ | +++ |

| Назва корму | Вітаміны | | | |
|---|---|---|---|---|
| | A | B | C | D |
| 5) Лугавое вельмі добрае. | ++ | ++ | ++ | ++ |
| 6) Мякіна гарохавая і вікавая чачавіца, аўса, грэчкі і сої . . . | + | + | + | + |
| **III. Сакавітыя кармы** | | | | |
| 7) Буракі цукровыя . . | +++ | + | + | — |
| „ паўцукровыя. | ++ | + | + | — |
| „ кармавыя . . | + | + | + | — |
| 8) Морква. . . . . | +++ | ++ | ++ | + |
| 9) Гарбузы сталовыя . | ++ | ++ | ++ | + |
| „ кармавыя . | ++ | ++ | ++ | — |
| 10) Бульба, земляная груша, бручка, турнепс . . . . . | + | +++ | +++ | + |
| **IV. Сілос.** | | | | |
| 11) Кукурузны, сонечнікавы, люцэрнавы, канюшынавы і інш. . . | ++ | ++ | +++ | ++ |

| Назва корму | Вітаміны | | | |
|---|---|---|---|---|
| | A | B | C | D |
| **V. Зерневы корм.** | | | | |
| 12) Авёс, ячмень і жыта. | + | ++ | — | — |
| 13) Кукуруза жоўтая . | ++ | ++ | + | — |
| 14) Гарох, віка, чачавіца, соя, бабы . . . . | + | ++ | ++ | — |
| 15) Проса . . . . . | + | ++ | — | — |
| 16) Грэчка. . . . . | — | — | — | — |
| 17) Пшаніца . . . . | ++ | +++ | — | — |
| **VI. Прадукты млыноў і заводаў** | | | | |
| 18) Вотрубі пшанічныя, жытнія і ячменныя . | ++ | +++ | — | — |
| 19) Млынавыпыл. . . | — | — | — | — |

| Назва корму | Вітаміны | | | |
|---|---|---|---|---|
| | A | B | C | D |
| 20) Макуха ільняная, сонечнікавая і соевая, рыжыкавая. . . . | + | ++ | — | — |
| 21) Макуха канапляная. | + | + | + | — |
| 22) Шрот . . . . . | — | — | — | — |
| 23) Брага . . . . . . | — | — | — | — |
| 24) Зерневыя адыходы. | + | ++ | ++ | — |
| **VII. Кармы жывёлінага паходжання** | | | | |
| 25) Мяса-касцяная мука, мясная мука, сушаная мука, малако кароўе . | — | — | — | — |
| 26) Малако кароўе цэльнае | +++ | ++ | ++ | + |
| „ „ знятае . | + | ++ | + | + |
| Масьлёнка і сыроватка . . . . . . . | + | ++ | + | — |

матэрый, колькі паказваюць кармавыя нормы. Гэтыя „кармавыя пайкі“ называюць кармавымі дачамі, або кармавымі рацыёнамі.

Кармавы рацыён абавязкова павінен быць складзен з сумесі рознастайных кармоў.

Чым рознастайней сумесь, тым больш гарантыі ў тым, што свіней мы здаволім у патрэбных ім пажыўных матэрыях.

## Што павінен мець брыгадзір, каб скласці рацыён для свіней

Перш за ўсё брыгадзір павінен ведаць **жывую вагу** свіней, для якіх трэба скласці рацыён; затым **стан гэтых** свіней (адкорм, супаросныя маткі, падсосныя маткі і інш.), кармы, якія ён мае, і табліцы састава кармоў.

Дапусцім, што нам трэба скласці рацыён для 10 падсвінкаў беконнага адкорма ў першую палавіну іх адкорма. Жывая вага падсвінкаў у сярэднім на адну галаву ў групе складае 37,5 *кг*.

У СТКФ маюцца кармы—кукурузная дзерць, прасяная дзерць, макуха ільняная, вотрубі пшанічныя і гарбузы кармавыя.

Па табліцы мы знаходзім, што падсвінкам, жывая вага якіх 37,5 *кг*, трэба даць на галаву ў дзень 2,2 *кг* кармавых адзінак корму; у першай палавіне адкорма трэба даць на кожны кілограм кармавых адзінак корма не менш 100 *г*ператраўнага бялка.

Такім чынам нашым 10 падсвінкам трэба даць 22 *кг* кармавых адзінак корма ў дзень з 2200 *г* пэратраўнага бялка.

Запасы гарбузоў, якія маюцца ў СТКФ, даюць магчымасць увесці ў рацыён як пажыўны корм пры беконным адкорме ў колькасці 5 *кг* у дзень на галаву, або 50 *кг* на ўсю групу. Гэтыя 50 *кг* гарбузоў роўны 6 *кг* кармавых адзінак і змяшчаюць 200 *г* пэратраўнага бялка.

Цяпер 16 *кг* кармавых адзінак корма, якіх нехапае, мы павінны даць у выглядзе сумесі з канцэнтратаў, якія маюцца на ферме, прычым гэтую сумесь трэба так скласці, каб яна мела ня менш 125 *г* пэратраўнага бялка на 1 *кг* кармовай адзінкі (2000 *г* бялка, падзяліўшы на 16 кармавых адзінак, атрымаем 125 *г*).

Для сумесі возмем на 1 *кг* кукурузнай дзерці, пшанічных вотрубяй і ільнянай макухі.

Паглядзім, колькі кармавых адзінак і бялка змяшчае гэта сумесь.

| | |
|---|---|
| 1 *кг* кукурузнай дзерці роўны 1,4 *кг* кармавых адзінак і змяшчае. . . . . . . . | 70 *г* бялка |
| 1 *кг* пшанічных вотрубяй роўны 0,8 *кг* кармавых адзінак і змяшчае . . . . . . . | 100 „ „ |
| 1 *кг* прасянай дзерці роўны 1,0 *кг* кармавых адзінак і змяшчае. . . . . . . . . | 70 „ „ |
| 1 *кг* ільнянай макухі роўны 1,2 *кг* кармавых адзінак і змяшчае . . . . . . . . . | 270 „ „ |

Усяго сумесь корма у 4 *кг* змяшчае 4,4 *кг* кармавой адзінкі і 520 *г* бялка, а 1 *кг* сумесі змяшчае 1,1 *кг* кармавой адзінкі ў 130 *г* бялка.

Калі мы дамо 15,0 *кг* гэтай сумесі (16 нехапаючых у рацыёне кармавых падзелім на 1,1 *кг* атрымаем 14,5), то ў ёй дамо 1950 *г* ператраўнага бялка. Такім чынам сутачны рацыён падсвінкаў у 50 *кг* гарбузоў і 16 *кг* зерневай сумесі будзе змяшчаць 2,2 *кг* кармовых адзінак корма і 150 *г* ператраўнага бялка.

**ВІТАМІНЫ**. Для нармальнага развіцця і здароўя як парасят, так і дарослых свіней неабходна, каб у сутачным рацыёне іх апрача бялкоў, вугляводаў і мінеральных матэрый былі асобыя матэрыі, якія завуцца вітамінамі. Вітаміны ў жыцці чалавека і жывёл адыгрываюць вельмі вялікую ролю. Недахоп іх, а тым больш атсутнасць іх у корме заўсёды прыводзіць да дрэннага роста маладых жывёл, розных захворванняў і масавай гібелі парасят. У сучасны момант выдзелена 5 груп вітамінаў, названых літарамі, а іменна вітаміны групы *A*, *B*, *C*, *D* і *E*. Недахоп вітаміна *A* выклікае затрымку ў жывёл у росце, захворванне вачэй і лёгкую ўспрыймальнасць да захворвання лёгкіх.

Недахоп вітаміна *B* вядзе да парушэння роста і захворванняў.

Вітаміны ў чыстым выглядзе яшчэ не атрыманы, а таму колькасць таго і другога вітаміна ў корме прынята абазначаць у табліцах умоўнымі знакамі: прысутнасць знакам +

а адсутнасць знакам —. Так, калі ў табліцы супроць корма стаіць знак —, то гэта азначае, што ў гэтым корме вітаміна няма, калі стаіць знак +, то гэта гаворыць за тое, што вітаміна вельмі мала. ++ вітамінаў малавата, трэба даць 50 проц. гэтага корма ў рацыёне, каб задаволіць патрэбнасць організма ў гэтым вітаміне. Калі стаіць знак +++, вітаміна парадкам, трэба даць 20 проц. гэтага корма ў рацыёне для задавальнення жывёлы ў гэтым вітаміне, пры гэтым другія кармы рацыёна могуць гэтага вітаміна ўжо і не змяшчаць. Калі стаіць знак ++++, вітаміну многа — 5 проц. дачы гэтага корма ў рацыёне задаволяць патрэбнасць свінні ў гэтым вітаміне, +++++ вітаміна вельмі многа.

# IV

## ЯК АРГАНІЗАВАЦЬ КАРМАВУЮ БАЗУ СВІНАФЕРМ, АДКУЛЬ ФЕРМА ЗДАБЫВАЕ КАРМЫ

Свінагадоўчыя таварныя фермы павінны забяспечваць ўсё сваё стада ўсімі відамі кармоў за кошт уласных кармавых сродкаў калгасаў.

На завоз кармоў з дзяржаўных загатовак фермы не павінны разлічваць.

Кармавыя сродкі для СТКФ у калгасах складаюцца з наступных крыніц:

1. Ураджая пасеваў зерневых, сакавітых і грубых кармоў з плошчаў, замацаваных за свінафермай.

2. Адыходаў і адкідаў палявой гаспадаркі, садоўніцтва, гародніцтва і малочнай гаспадаркі.

3. Адыходаў с.-г. прадпрыемстваў—млыноў, крупарушак, броварных, бурачна-цукровых, крухмальных і іншых заводаў.

4 Адыходаў боенскіх прадпрыемстваў і сталовых.

5. Ураджая жалудоў, арэхаў, каштанаў, дзікіх фруктаў і клубняплодаў.

6. Апрача таго вясной, летам і ўвосень свінагадоўчая ферма павінна арганізаваць утрыманне свіней на выпасах з падкормам пры гэтым канцэнтрыраваным кормам.

Асноўная і найбольш пэўная крыніца кармовых сродкаў для свінаферм—гэта ўласныя пасевы калгасаў.

Згодна пастановы СНК Саюзу ССР ад 29 студзеня 1932 г. **„калгасы, якія маюць свінагадоўчыя таварныя калгасныя фермы, замацоўваюць за гэтымі фермамі спецыяльныя плошчы кармавых культур,** якія-б поўнасцю забяспечылі свіное стада ферм канцэнтрыраванымі і сакавітымі кармамі“.

## Кармы для свіней і іх характарыстыка

Свіння—жывёла, якая есць усё, яна ахвотна паядае сакавітыя кармы, карэнні, далікатную сакавітую траву, рознага рода зерне, рыючыся ў зямлі, прагна пажырае лічынкі, чарвякоў і інш.

Але не ўсе кармы свінні аднолькава добра ператраўліваюць і скарыстоўваюць для вытвара мяса і сала. Свінні дрэнна ператраўліваюць грубыя кармы і тым горш, чым мацней яны адзеравянелі, чым больш у гэтых кармох клятчаткі. Далікатнае сена, скошанае да цвіцення, сакавітую траву свінні ператраўліваюць даволі добра і асабліва добра, амаль поўнасцю, ператраўліваюць багатыя крухмалам зерневыя кармы (кукуруза, ячмень і інш.) і каранеклубняплоды.

## Грубы корм

Лепшымі кармамі ў гэтай групе лічаць маладое сена бабовых траў—люцэрны, канюшыны, вікі, гароха, соі, эспарцэта і серадэлы; значна уступае бабоваму сену сена лугавое, і на апошнім месцы стаяць розныя мякіны—канюшынавая, грэчневая, аўсяная і інш.

**ЗНАЧЭННЕ ГРУБОГА КОРМА Ў РАЦЫЁНЕ СВІНЕЙ.** У добрым сене, у асаблівасці ў сене бабовых траў (люцэрна, канюшына), свінні атрымліваюць патрэбныя ім мінеральныя солі, галоўным чынам солі кальцыя, потым

вітаміны групы $D$, а таксама бялок. Сена бабовых траў павінна абавязкова ўваходзіць у рацыён свіней і ў зімовы час таму, што без яго кармамі сваёй гаспадарк нельга забяспечыць патрэбнасць свіней у вітаміне $D$ і солях кальцыя. !

**С Е Н А** для свіней павінна быць скошана і загатоўлена ў добрае сухое надвор'е, у сонечныя дні, прычым трава павінна быць скошана абавязкова да пачатку цвіцення.

## У ЯКІХ КОЛЬКАСЦЯХ СЕНА БАБОВЫХ ТРАЎ МОЖА БЫЦЬ УВЕДЗЕНА Ў РАЦЫЁН СВІНЕЙ.

| | У суткі |
|---|---|
| 1. Маткам халастым і супаросным у першай палавіне цяжарнасці іх пры жывой вазе ў 130—160 *кг* . | ад 1,5 да 1,8 *кг* |
| 2. Тое-ж для такіх-жа матак пры жывой вазе іх ад 160 да 200 *кг* . . | ад 1,8 да 2,0 *кг* |
| 3. Маткам супаросным у другой палавіне цяжарнасці: | |
| а) пры жывой вазе 130—160 *кг* . | ад 0,8 да 1,0 *кг* |
| б) „ „ „ 160—200 „ . | „ 1,0 „ 1,2 „ |
| 4. Маткам падсосным (10—12 проц. дачы): | |
| а) жывой вагі 130—160 *кг* . . . . | „ 0,6 „ 0,8 „ |
| б) „ „ 160—200 „ . . . . | „ 0,8 „ 1,0 „ |
| 5. Кнырам дарослым у залежнасці ад іх вагі. . . . . . . . . . . | „ 1,0 „ 2,0 „ |

| | |
|---|---|
| 6. Падсвінкам старэй 4 месяцаў і адкормачнікам пры мяса-беконным адкорме . . . . . . . . . . | У суткі ад 0,4 да 0,6 *кг* |
| 7. Дарослым адкормачным у першую палавіну адкорма ў залежнасці ад іх жывой вагі . . . . . . . . | „ 1,0 „ 2,0 „ |
| 8. Парасятам да 4-месячнага ўзроста | „ 0,1 „ 0,2 „ |

**МЯКІНУ** можна ўводзіць у рацыён усім свінням за выключэннем парасят да 4 месяцаў і тым, якія адкармліваюцца на бекон, у залежнасці ад якасці мякіны даваць прыкладна ўдвая менш, чым сена.

## У якім выглядзе трэба скармліваць свінням грубы корм

Сена бабовых траў для маладняку пажадана размалоць, перапрацаваць у муку буйнага памолу. У такім выглядзе яно лепш скарыстаецца свіннямі. Можна сена дробна парэзаць і на саломарэзцы. Сенную рэзку або муку трэба дабаўляць да канцэнтратаў і сакавітых кармоў. Дарослыя свінні ахвотна ядуць добрае сена ў цэльным выглядзе.

## Зялёны корм

Зялёны корм у летнім рацыёне свіней усіх узростаў павінен быць асноўным кормам. У ім асабліва ў траве бабовых раслін (люцэрна, ка-

ношына і інш.) свіння атрымлівае ўсе неабходныя ёй пажыўныя матэрыі—бялкі, мінеральныя солі, вітаміны—у добра ўсваяльнай форме.

**У якім выглядзе можа быць выкарыстан зялёны корм.**

Зялёны корм можа быць выкарыстан або ў выглядзе пашы або скармліваннем яго ў станках, на асобых кармавых пляцоўках і яслях у скошаным выглядзе.

**Якія вартасці мае скармліванне свінням зялёнага корма ў выглядзе пашы.**

1. Пры пашавым утрыманні свінні, карыстаючыся чыстым паветрам, сонцам, умацоўваюць свой арганізм, загартоўваюцца, робяцца больш стойкімі да рознага рода захворванняў, маткі даюць больш моцных вынослівых парасят, а кныры бадрэй і мацней у сваёй полавай дзейнасці і даўжэй яе захоўваюць.
2. Пры пашавым утрыманні значна палягчаюцца клопаты аб мінеральным жыўленні свіней таму, што недахоп у корме мінеральных саляй свінні самі папаўняюць выбарам адпавядаючых раслін, іх частак, паяданнем лічынак, чарвякоў і інш.
3. Пашавае ўтрыманне значна скарачае затраты па працы, догляду за свіннямі і на 25—30 проц. падзешаўляе вытвар свініны, што для СТКФ мае велізарнае значэнне.

### РАСХОД ЗЯЛЁНАЙ МАСЫ ПРЫ СКАРЫСТАННІ ЯЕ СВІННЯМ

| | У проц. ад пажыўнасці дачы | У кілаграмах у дзень |
|---|---|---|
| 1. Для матак халастых і супаросных у першыя 40—50 дзён цяжарнасці . . . . . . | ад 60 да 80 | ад 8 да 12 |
| 2. Для матак супаросных у апошнія 2 месяцы цяжарнасці іх і для матак з парасятамі | „ 25 „ 35 | „ 5 „ 8 |
| 3. Для дарослых кныроў . . . | „ 35 „ 50 | „ 5 „ 8 |
| 4. Для парасят ад 2 да 4 месяцаў . . . . . . . . . | „ 20 „ 30 | „ 2 „ 4 |
| 5. Для падсвінкаў ад 4 да 8 месяцаў . . . . . . . . . | „ 25 „ 35 | „ 4 „ 6 |
| 6. Для адкормачнікаў: | | |
| а) пры бэконным адкорме ў першыя 2 месяцы адкорма . | „ 25 „ 35 | „ 4 „ 6 |
| б) тое-ж у апошні месяц адкорма . . . . . . . . . | „ 15 „ 20 | „ 3 „ |
| в) старых бракованых матак | „ 20 „ 30 | „ 4 „ 10 |

## Як вызначыць прадукцыйнасць пашы

Арыентыровачна пры вызначэнні прадукцыйнасці пашы належыць выходзіць з наступных паказальнікаў — пры сярэднім травастоі 1 *га* штучнай пашы забяспечвае:

1. 2 000 кармавых галавадзён падсвінкаў, г. зн. 20 падсвінкаў на працягу 100 дзён.
2. 1 000 — 1 200 кармавых галавадзён для супаросных і халастых матак.
3. 700 — 800 кармавых галавадзён для падсосных матак з парасятамі.

## Якія расліны высяваюцца на пашы для свіней

**СОЯ**—новая ў нас аднагадовая расліна. Свінні ядуць маладую раслінасць соі з вялікай ахвотай і добра на ёй адкармліваюцца, калі даваць падкормку з канцэнтрыраваных кармоў. Соя ў зялёным стане якасці мяса і сала адкармліваемых свіней не паніжае, але з моманта ўтварэння бабоў пагаршае якасць мяса і сала. Сою лепш сеяць у сумесі з кукурузай або сорго.

**АЗІМАЕ ЖЫТА** дае самую раннюю пашу вясной. Жыта на пашу трэба сеяць рана ўвосень, каб яно да маразоў паспела добра раскусціцца. Чым лепш увосень раскусціцца жыта, тым раней увесну на яго можна выпускаць свіней.

Пасля страўлівання жытняга выпаса вясной поле можна засеяць яшчэ адной раслінай—аўсом, сорго, суданкай і т. д., каб атрымаць з аднаго поля два ўраджаі зялёнай масы. На выпас жыта выкарыстоўваецца ў часе маладога ўзроста да выхада ў трубку.

**АВЁС З ВІКАЙ** дае добрую пашу, паспяваючую для выпаса к тэрміну, калі азімае жыта бывае ўжо страўлена. Віка-аўсяная сумесь не адрастае пасля страўлівання і стаптвання, пагэтаму на адным гэктары віка-аўсянай сумесі ў працягу 3 месяцаў можна

выпасвіць 30 галоў падсвінкаў пры падкармліванні зернавымі кармамі.

**ЛЮЦЭРНА**—самая лепшая трава па поўдні і паўднёвым усходзе на выпас для свіней. Яна мірыцца з засушлівым кліматам. На люцэрнавай пашы можна выпасваць свіней усіх узростаў і груп, але асабліва добра люцэрна для маладняка.

Люцэрна ў першы год пасля пасева слаба ўкараняецца, а таму выпаса на ёй у гэты год утвараць не трэба.

К моманту поўнага цвіцення люцэрна пачынае ўжо грубець і паядаецца свіннямі з меншай ахвотай, чым маладая, таму скармліваюць яе ў больш маладым узросце, г. зн. калі поле вялікае і яго нельга стравіць цалкам да цвіцення люцэрны, то тую частку поля, якая асталася не страўленай, належыць скошваць на сена, каб адрасла атава, на якой ізноў будуць пасвіцца свінні. На 1 *га* люцэрны можна утрымліваць да 50 галоў маладняка.

**КАНЮШЫНА** дае такую-ж добрую пашу, але яна патрабуе шмат вільгаці і сеецца ў больш паўночных і вільготных раёнах. Нагрузка на гектар такая-ж, як на гектар люцэрны.

**СУДАНСКАЯ ТРАВА**—вельмі ўстойлівая супроць засухі расліна. Высяваецца позна ўвесну, таму што баіцца замаразкаў.

Для пашы бывае гатова ў другой палавіне лета. Пасля скошвання і страўлівання суданская трава можа адрастаць некалькі разоў. Расліна к часу цвіцення сільна грубее і робіцца для выпасвання свіней непрыгоднай, таму страўліванне і скошванне судаикі на зялёны корм трэба пачынаць да выкідвання лістоўкі.

**ПУСТАЗЕЛЛЕ**—крапіва, лебяда, шарыца—і іншыя травы ў маладым узросце ахвотна паядаюцца свіннямі ў скошаным выглядзе і на пашы. Свінавод павінен скарыстоўваць пустазелле для выпаса свіней у той час, калі сеяныя травы бываюць страўлены, а замена ім яшчэ не падаспела. Асабліва ахвотна з пустазелля свінні паядаюць маладую крапіву.

**БУРАКІ, БУЛЬБА, ГАРОДНІНА**—пасля ўборкі астаўляюць для выпасу свіней вялікую колькасць рэшткаў, на якіх можна выпасваць свіней позна ўвосень.

**ЗЕМЛЯНАЯ ІГРУША** (топінамбур) дае шмат пажыўнага і смачнага корма ў выглядзе клубняў, якія скармліваюцца ранняй вясной зараз-жа пасля адтайвання глебы.

## Як арганізаваць севаабароты для выпаснога і кармавога ўчастка

Выпасны ўчастак трэба дзяліць на кліны і засяваць шматгадовай і аднагадовай травой, а таксама корняклубняплодамі. Напрыклад 1-ы

клін канюшына 1-га года. 2-і клін—канюшына 2-га года, 3-і клін—азімае жыта, 4-ы клін—бульба, 5-ы клін—аднагадовыя травы, 6-ы клін—бульба. Пры пасевах люцэрны лік кліняў будзе не менш васьмі, парадак чаргавання караньклубняплодаў і травы такі-ж, як паказана ў прыведзеным прыкладзе.

Вучастак з пашавым севаабаротам павінен размяшчацца паблізу ад свінарнікаў, таму што караньклубняплоды патрабуюць многа рабочай цягавай сілы для ўборкі і дастаўкі іх на ферму.

Пад земляную ігрушу звычайна займаецца спецыяльны ўчастак, які знаходзіцца пад гэтай раслінай у працягу вельмі доўгага тэрміна. У палі севаабарота земляная ігруша не ўключаецца таму, што яна надоўга засмечвае палі.

На кармавым участку ў залежнасці ад раёна сеюць ячмень яравы, азімы, жыта, авёс, гарох, віку, чачавіцу, сою, кукурузу, сорго, проса, буракі, гарбузы, бручку, турнэпс.

Чаргаванне палёў у калгасе, калі там ферма спажывае значную частку ураджаю, выгадна арганізаваць у выглядзе напрыклад 5-полля: 1) заняты папар, 2) азімыя, 3) зерневыя бабовыя, 4) абсыпныя, 5) яравыя зерневыя; або 4-полля: 1) $^1/_2$ чорны папар і $^1/_2$ заняты папар, 2) азімыя, 3) абсыпныя, 4) $^1/_2$ зерневыя бабовыя і $^1/_2$ яравыя зерневыя; або 4-полля: 1) заняты папар, 2) азімыя, 3) зерневыя бабовыя, 4) яравыя зерневыя; або 5-полля: 1) $^1/_2$ чорны папар і $^1/_2$ заняты папар, 2) азімыя, 3) зерне-

выя бабовыя, 4) кукуруза, 5) яравыя зерневыя.

Засеў кармавых плошчаў для свінатаварных ферм, догляд за раслінамі і ўборка палёў праводзяцца брыгадамі калгасаў.

**Расліны на сілос для свіней.** На сілос ужываюцца наступныя расліны: кукуруза, цукровае сорго, бабовыя шматгадовыя і аднагадовыя травы, усе зерневыя злакі, скошанае націнне буракоў і гародніх раслін, сцябло сонечніка, розныя віды коране-і клубняплоды, гарбузы, а таксама рэшткі тэхнічнай вытворчасці ў выглядзе бурачнага жому, бульбянай мязгі і т. д.

На сілосаванне ідзе амаль усё пустазелле— крапіва, шырыца, лебяда, уюнок, бярозка і інш.

Час сілосавання залежыць ад уласцівасці сілосуемай расліны: кукуруза і сорго сілосуюцца ў момант васковай спеласці (калі зерне рэжацца нажом), бабовыя травы перад пачаткам цвіцення, злакавыя травы перад пачаткам цвіцення, сонечнік у пачатку цвіцення кошыкаў.

Галоўнае ў тым, каб не дапусціць агрубення сцяблоў.

Празмерна вадзяністыя і празмерна сухія расліны для сілосавання не прыгодны. Лепш за ўсё сілосаваць, калі зялёная маса змяшчае 65—70 проц. вільгаці.

**Тэхніка сілосавання.** Перад загрузкай у сілос расліны за выключэннем націння буракоў і гародніны абавязкова змяльчаюцца на саломарэзцы на кавалкі ў 1—2 *см* даўжынёй. Пры

загрузцы сілосуемую масу трэба роўнамерна размяркоўваць у вежы або яме і шчыльна ўтрамбоўваць.

Чым хутчэй бывае запоўнена вежа і чым шчыльней трамбуюць сілос у часе запаўнення, тым лепшым атрымліваецца сілос.

Добры сілос атрымліваецца пры сілосаванні варанай бульбы. У такім выглядзе ён захоўваецца шмат лепш, чым пры звычайным спосабе хавання.

**Гарбузы і буракі** перад сілосаваннем змяльчаюцца пры дапамозе машыны або лапатаў і загружаюцца ў сумесі з малавадзяністымі кармамі—сечкай з кукурузных сцяблоў, мякінай і інш. У сумесі з такімі-ж кармамі сілосуюцца і вадзяністыя прадукты розных с-г. прамысловых прадпрыемстваў (мязга). На 100 *ц* вадзяністай масы ідзе 5—10 *ц* мякіны або сечкі.

**Укрыцце**. Напоўнены сілос трэба добра ўкрываць зверху, каб не было доступа ў сілосную масу паветра. У ямах і траншэях сілосную масу трэба пакрываць спачатку сільна змочанай мякінай або лісцямі, потым пластам мяккай гліны і зверху для аховы ад марозаў пластам сухой зямлі.

**Выбіранне сілоснага корма**. Верхні пласт сілоса звычайна бывае сапсаваны, таму пры ўскрыцці сілосных ям і траншэй яго выкідаюць. Выбіраць сілос з вежы трэба пластамі ва ўсю шырыню вежы, а з траншэі—пластамі

па вертыкалі ў глыбіню. Не трэба браць сілоса больш таго, колькі патрабуецца на адзін дзень, таму што вынуты сілос хутка псуецца.

### СІЛОС МОЖА БЫЦЬ УВЕДЗЕНЫ Ў РАЦЫЁН СВІНЕЙ

| | | |
|---|---|---|
| | У суткі | |
| 1. Халастым і супаросным маткам у першы перыод іх цяжарнасці . . | ад 2 | да 3 кг |
| 2. Падсосным маткам . . . . . | „ 0,8 | „ 1,2 „ |
| 3. Падсвінкам адкормачнікам . . . | „ 2 | „ 3 „ |
| 4. Дарослым адкормачным свінням . | „ 4 | „ 6 „ |
| Бульбяны сілос адкормачным свінням | ад 6 | да 10 |

**КОРАНЬКЛУБНЯПЛОДЫ** — буракі, морква, бульба, гарбузы, земляная ігруша—з'яўляюцца вельмі добрымі кармамі для свіней усіх узростаў. Усе кармы гэтай групы характарызуюцца высокім процантам вады, вялікай колькасцю крухмала (бульба) і цукру (буракі, морква), малой колькасцю бялка, соляй, кальцыя і фосфара. Усе яны добра ператраўліваюцца, а таму могуць быць уведзены ў рацыён свінні ў вялікай колькасці.

Увядзенне гэтых кармоў у рацыён падсосных матак спрыяе павялічэнню іх малочнасці і адкормачнікі павышаюць сутачную прывазжку і інш.

Каранькклубняплоды могуць быць уведзены ў сутачны рацыён свіней у залеж-

насці ад узроста і жывой вагі іх у так х колькасцях: і

| | У суткі |
|---|---|
| а) халастым і супаросным маткам у першы перыод цяжарнасці . . . . . . . . | ад 8 да 10 кг |
| б) супаросным маткам у 2-й палавіне цяжарнасці . . . . . . . . . . . . . | „ 4 „ 8 „ |
| в) падсосным маткам . . . . . . . . . . | „ 5 „ 8 „ |
| г) падсвінкам адкормачнікам і рамонтнаму маладняку . . . . . . . . . . . . | „ 3 „ 6 „ |
| д) дарослым адкормачным свінням . . . . | „ 8 „ 12 „ |
| е) парасятам да 4-месячнага ўзроста . . . | „ 0,5 „ 2 „ |

Усе гэтыя кармы за выключэннем бульбы трэба скармліваць у сырым выглядзе ў сумесі з канцэнтрыраванымі кармамі, бульбу-ж неабходна варыць.

## Канцэнтрыраваныя кармы

Да канцэнтрыраваных кармоў адносяцца:

**ЗЕРНЕВЫЯ КАРМЫ**—зерне злакавых раслін: авёс, ячмень, жыта, пшаніца, грэчка, проса, сорго, кукуруза і інш.—характарызуюцца сярэднім змяшчэннем бялка (ад 10 да 16 проц.), вялікай колькасцю крухмала, вялікім змяшчэннем фосфарнай кіслаты (2—4 проц.) і вельмі нізкім змяшчэннем солей кальцыя.

**ЯЧМЕНЬ, ЖЫТА, ПШАНІЦА І ПРОСА** прадстаўляюць сабой добры корм пры беконным

і сальным адкорме свіней і даюць высокай якасці прадукты—свініну-бекон і сала. Кожны з гэтага віда кармоў можа быць уведзены ў рацыён у колькасці $^1/_3$—$^1/_2$ усёй дачы зерневага корма, г. зн. у колькасці ад 2—4 і больш кілаграмаў у суткі на галаву.

**АЎСЯНАЯ І КУКУРУЗНАЯ ДЗЕРЦЬ** пры скармліванні падсвінкам на працягу ўсяго адкормачнага перыода даюць дрэннай якасці бекон з мяккім салам і рыхлым мясам. Гранічныя дачы гэтых кармоў у першую палавіну адкорма ў сутачным рацыёне 1,0—1,5 *кг* у суткі на галаву. У другую палавіну адкорма для атрымання высокасортнага бекона гэтыя кармы трэба зусім выключыць з рацыёна або скараціць іх колькасць да мінімума, 0,2—0,4 *кг* у суткі на галаву.

Для маладняка, які расце, матак, кныроў і парасят сысуноў авёс з'яўляецца вельмі добрым кормам. У рацыёне парасят авёс можа складаць да палавіны усёй зерневай дачы корма. Для кныроў дача аўса ў перыод злучак у колькасці 1,0—1,5 *кг* у суткі з'яўляецца абавязковай.

**ЗЕРНІ БАБОВЫХ РАСЛІН—ГАРОХ, ВІКА, ЧАЧАВІЦА, СОЯ І БАБЫ**—вельмі багатыя пераправаўным бялком—ад 16 да 20 проц. Гарох, віка, чачавіца даюць пры адкорме сві-

ней высокай якасці бекон і могуць быць уведзены ў рацыён падсвінкаў і ў другой палавіне адкорма ў колькасці да 2,0—2,5 *кг* у суткі на галаву.

Соя-ж моцна пагаршае якасць бекона, робіць яго мяккім, таму ад увядзення яе ў рацыён у другой палавіне адкорма належыць устрымацца.

Для падсосных матак і асабліва для маладняка ўсе зерні бабовых раслін з'яўляюцца вельмі добрым кормам.

**АДЫХОДЫ МЛЫНОЎ, ПШАНІЧНЫЯ, ЯЧМЕННЫЯ, КУКУРУЗНЫЯ І ІНШ. ВОТРУБІ,** а таксама млынавы белы і шэры пыл могуць быць скарыстаны пры адкорме свіней. Для падсосных супаросных і халастых матак, а таксама для старых бракаваных матак пры адкорме іх на сала млынавыя адыходы могуць быць уведзены ў колькасці да 1/3 усёй дачы зерневага корма, але не больш 1,5 *кг* у дзень на галаву.

Добрай якасці вотрубі не павінны змяшчаць у сябе пабочных прымесяй—пяску, пылу і інш. Змяшчэнне вады ў іх не павінна перавышаць 12—14 проц. Пры большай вільготнасці (звыш 14 проц.) яны злежваюцца, плеснявеюць.

**ЛУБІН.** Зерні лубіна змяшчаюць да 30 проц. ператраўнага бялка і пры выдаленні гаркаты з вялікім поспехам могуць быць скарыста-

ны пры карміленні маладняка—парасят і падсвінкаў і пры бэконным адкорме Непавбаўленыя гаркаты зерні амаль невядомы. Для зьнішчэньня ў лубіне гаркаты рэкомендуецца намачыць зерні яго халоднай або злёгка цёплай вадой і вытрымаць да мяккага стана, а затым на працягу 1—$1^1/_2$ гадзіны прапарваць іх парам. Пасля прапаркі зерні прамываюць (звычайна ў мяшкох) на працягу сутак у праточнай вадзе.

Загатаўляць лубін па такому способу можна толькі ў колькасці, патрэбнай на суткі, таму што ён хутка псуецца. Сутачныя дачы сырога лубіна не павінны перавышаць 2 *кг*.

**ЖАЛУДЫ.** У раззе раёнаў нашага Саюза дубовыя гаі ва ўраджайныя гады даюць вялікую колькасць жалудоў.

Жалуды могуць быць вельмі добра выкарыстаны пры адкорме свіней, асабліва пры адкорме старых бракаваных матак. Мяса і сала пры скармліванні свінням жалудоў у колькасці ад 2 да 4 *кг* (у залежнасці ад жывой вагі свіней) атрымліваецца добрай якасці.

Жалуды, маючы шмат дубільнай кіслаты, выклікаюць запоры ў свіней, а таму пры ўвядзенні ў рацыён жалудоў адначасова трэба ўводзіць сакавітыя кармы і сілос.

**СОЛАДАВЫЯ ПАРАСТКІ** атрымліваюцца пры прарошчванні ячменю для атрымання солада. Добрыя соладавыя парасткі змяшча-

юць каля 11—12 проц. ператтраўнага бялка і прадстаўляюць сабой вельмі добры корм для маладых парасят да 4 месячнага ўзроста і пры беконным адкорме.

Для парасят соладавыя парасткі могуць быць уведзены ў рацыён у колькасці 0,2—0,4 *кг* у дзень на галаву, а пры беконным адкорме да 1,0—1,5 *кг* у ўдзень на галаву.

Соладавыя парасткі даволі хутка псуюцца, асабліва ў сырым месцы, таму што хутка ўбіраюць з паветра ваду. Добраякаснасць парасткаў вызначаецца іх афарбоўкай: чым яны святлей, тым вышэй іх ператтраўнасць, тым яны лепшыя і наадварот. Пацямнеўшыя парасткі з пахам цвіллі парасятам і падсвінкам даваць нельга.

**ПАТАКА.** Бурачная патака, уведзеная ў рацыён падсвінкаў пры беконным адкорме (старэй 4 месяцаў) у колькасцях не больш 0,4 *кг* у дзень на галаву, а дарослым маткам не больш 0,6—1,0 (у залежнасці ад вагі маткі), аказвае вельмі добрае дзеянне—павялічвае апетыт свіней, робіць кармы больш смачнымі і апрача таго пры вялікіх дачах кукурузы пры беконным адкорме паслабляе дрэннае дзеянне кукурузы на якасць мяса і сала. Вялікая колькасць патакі выклікае частае расстройства страўніка і хваробу нырак. Парасятам да 4 месяцаў даваць патаку не трэба.

Патаку трэба скармліваць у разведзеным стане—2—3 часткі гарачай вады на 1 частку патакі.

**АДЫХОДЫ МАСЛАБОИНАИ ВЫТВОРЧАСЦІ.** Да гэтай групы кармоў належаць рознага рода **макухі—сонечнікавыя, ільняныя, канапляныя, рапсавыя, сурэпныя, кукурузныя, макавыя, соявыя і інш.** Усе макухі вельмі багаты бялковымі матэрыямі—ад 22 да 38 проц. Скармліваць іх трэба ў абмежаваных колькасцях—не больш 0,5—1,5 *кг* у дзень на галаву. Для свіней неабходна скарыстоўваць галоўным чынам сонечнікавую, ільняную, соевую і кукурузную макуху, а ад скармлівання другіх відаў макухі свінням неабходна адмовіцца зусім або дачу іх скараціць да 0,2 *кг* у дзень на галаву. Пры беконным адкорме макуха моцна паніжае якасць свініны, а таму ў другую палавіну адкорму для атрымання бекона высокай якасці са шчыльным, зярністым, белым салам ад увядзення яе ў рацыён трэба або зусім адмовіцца або ўводзіць яе ў мінімальнай колькасці—не больш 0,2 *кг* у суткі на голаву.

Падсосным і супаросным маткам можна ўводзіць у рацыён макухі да 0,2—0,4 *кг* у дзень на галаву, а растучаму маладняку 0,4—0,6 *кг* у дзень.

**ШРОТ.** Шрот атрымліваецца пры выдзяленні (вырабе) расліннага масла з семя ільну,

сонечніка, соі і іншага насення масляніч-ных раслін шляхам асобых растварыцеляй. Шрот багацей макухі тае ж назвы бялковымі матэрыямі і значна бяднейшы за яе змяшчэннем тлушча, а таму шрот даўжэй захоўваецца і не робіцца горкім ад псавання тлушчу. Шрот можа быць уведзены ў рацыён свіней у значна большых колькасьцях (у $1^1/_2$ разы), чым макухі. Ён не аказвае дрэннага ўплыву на якасць бекона.

**СУШАНЫ ЖОМ** упаўне можа замяніць у рацыёне свіней частку караньплодаў і зернявага корма. Свінні ўсіх узростаў вельмі ахвотна паядаюць жом.

Гранічная дача дарослым свінням у сутачным рацыёне 0,8—1,0 *кг* у дзень на галаву. Скармліваць трэба ў размочаным выглядзе (браць 3 часткі вады на 1 частку сухога жома).

**ПІЎНАЯ ДРАБІНА.** Сырая піўная драбіна (піўная гушча) мае невялікую кармавую цэннасць як сільна вадзяністы корм, з аднаго боку, і не прыгодны да захавання— з другога. Піўная драбіна хутка псуецца і яе можна скармліваць свіням безумоўна толькі ў самым свежым стане. Пры адкорме старых бракаваных матак даваць да 10—15 *л* у дзень на галаву пры ўмове адначасовай дачы канцэнтрыраванага корма і сена бабовых траў.

**Сухая піўная** драбіна можа быць уведзена ў рацыён адкормліваемых свіней у колькасці 0,6—1,0 *кг* у дзень на галаву.

**БРАГА.** У залежнасці ад сыравіны, якая перарабляецца на броварных заводах, атрымліваецца як адыход кукурузная, жытняя або бульбяная брага. Брага характарызуецца вельмі вялікім змяшчэннем вады. Найлепшай з іх па спажыўнасці лічыцца кукурузная і жытняя брага. Брагу можна скармліваць пры поўсальным адкорме ад 6 да 8 *л* у дзень, пры сальным адкорме старым дарослым маткам—ад 10—16 *л* і 8—10 *л* халастым і супаросным у першай палавіне цяжарнасці маткі. Супаросным маткам у другой палавіне цяжарнасці, а таксама падсосным брагу даваць не трэба.

Адкормачнікам брагу можна скармліваць толькі ў першай палавіне адкорма таму, што яна дае дрэннай якасці прадукты—мяккае сала, якое размазваецца, і вадзяністае рыхлае мяса.

Пры скармліванні брагі ўвядзенне ў рацыён грубага корма сена абавязкова. Брагу можна скармліваць толькі ў свежым выглядзе, таму што яна хутка псуецца.

**Сушаная брага** з'яўляецца добрым кормам для свіней, асабліва цэнна брага кукурузная сухая. Светлы колер брагі гаворыць за яе свежасць і добрую якасць.

## У якім выглядзе павінны быць скормлены свінням зерневыя кармы

Усе зерневыя кармы павінны быць абавязкова скормлены свінням у молатым стане. Размолам зерня разрываецца жорсткая абалонка зерня, і тым самым палягчаецца пераграўліванне корма. Доследамі даказана, што пры скармліванні свінням кукурузы ў выглядзе цэлых зерняў пераграўліваецца толькі 52 проц. яе пажыўных матэрый, пры размоле-ж яе ў выглядзе мукі сярэдняга памолу ўжо—76 проц., пры дробным размолу мукі—78 проц. пажыўных матэрый яе.

Выключэнне з гэтага агульнага правіла можа быць дапушчана толькі для парасят-сысуноў, якім частка падкорма павінна быць дана ў выглядзе цэлых не дробленых зерняў, і для кныроў у перыод злучкі пры дачы ім аўса.

Усе зерневыя (мучністыя) кармы павінны скармлівацца ў **сырым**, не вараным выглядзе—варка корма паніжае пераграўнасць корма.

## Кармы жывёліннага паходжання

Для гэтай групы кармоў адносяцца мясакасцяная, крывяная, мясная і рыбная мука, цэльнае і знятае кароўе малако, маслёнка і сыраватка.

Усе кармы гэтай групы характарызуюцца вялікім зместам пераграўнага бялка; касцяная мука багата і мінеральнымі солямі—кальцыям

і фосфарам. Бялкі ў кармох гэтай групы лічацца поўнацэннымі, таму што змяшчаюць у сябе ўсе віды бялкоў, якія патрэбны для жывёлы, чаго няма ў раслінных кармох. Асабліва каштоўнымі з гэтай групы кармоў з'яўляюцца кароўе малако, мяса-касцяная і рыбная мука. Малако апрача наяўнасці ў ім бялкоў і мінеральных соляй заключае ў сабе ў вялікай колькасці і ўсей групы вітамінаў, калі ў рацыён каровы ўваходзілі ў дастатковай колькасці сакавітыя кармы, бабовае сена ці зялёная трава.

Кармы жывёлінага паходжання асабліва патрэбны парасятам, падсвінкам, падсосным і супаросным маткам.

У сутачны рацыён гэтыя кармы можна ўводзіць у такіх колькасцях (у грамах):

Мяса-касцяная, рыбная, крывяная і мясная мука:

| | На галаву | | | |
|---|---|---|---|---|
| для парасят-сысуноў . . . . . . . | ад | 80 | да | 100 |
| „ падсвінкаў ад 2 да 4 мес. . . . . | „ | 100 | „ | 300 |
| пры беконным адкорме і для рамонтнага маладняка . . . . . . . . | „ | 200 | „ | 500 |
| падсосных матак . . . . . . . . | „ | 300 | „ | 500 |
| супаросных матак . . . . . . . | „ | 200 | „ | 400 |
| Малако цэльнае для парасят сысуноў . | „ | 200 | „ | 600 |
| „ знятае „ „ . . | „ | 400 | „ | 1 500 |
| „ „ „ „ ад 2 да 3 месяцаў . . . . . . . . . . . . | „ | 1 000 | „ | 2 000 |
| Малако пры беконным адкорме . . | „ | 1 000 | „ | 2 000 |
| Маслёнка для рамонтнага маладняка і пры беконным адкорме . . . . . | „ | 1 000 | „ | 3 000 |
| Сыраватка для матак . . . . . . | „ | 2 000 | „ | 10 000 |
| „ „ падсвінкаў пры адкорме | „ | 2 000 | „ | 60 000 |

# ТАБЛІЦА САСТАВА КАРМОЎ

## Зялёны корм

| Кілограмаў корма | Трава сярэдн. пашы | | Кукуруза | | Жыта | | Сорго цукров. | | Канюш. чырв. у часе цвіц. | | Канюш. чырв. да цвіцення | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў пера-траўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў пера-траўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў пера-траўнага бялку | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў пера-траўнага бялку | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў пера-траўнага бялку | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў пера-траўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак |
| 1 | 20 | 0,2 | 10 | 0,1 | 10 | 0,2 | 10 | 0,1 | 20 | 0,2 | 10 | 0,1 |
| 2 | 30 | 0,4 | 10 | 0,3 | 30 | 0,4 | 10 | 0,3 | 30 | 0,3 | 30 | 0,3 |
| 3 | 50 | 0,5 | 20 | 0,4 | 40 | 0,6 | 20 | 0,4 | 50 | 0,5 | 40 | 0,4 |
| 5 | 80 | 0,9 | 30 | 0,6 | 70 | 0,9 | 30 | 0,7 | 80 | 0,8 | 70 | 0,7 |
| 7 | 120 | 1,3 | 40 | 1,0 | 100 | 1,3 | 50 | 0,9 | 120 | 1,2 | 100 | 1,0 |

## Зялёны корм

| Кілограм. корму | Люцэрна ў часе цвіцення | | Люцэрна да цвіцення | | Гарох у пачатку цвіцення | | Віка-аўсяная сумесь | | Рапс | | Эспарцэт | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 20 | 0,2 | 20 | 0,1 | 20 | 0,07 | 15 | 0,1 | 13 | 0,7 | 20 | 0,1 |
| 2 | 50 | 0,3 | 50 | 0,3 | 40 | 0,13 | 30 | 0,3 | 26 | 0,2 | 30 | 0,3 |
| 3 | 70 | 0,5 | 70 | 0.4 | 60 | 0,20 | 45 | 0,4 | 39 | 0,4 | 50 | 0,4 |
| 5 | 100 | 0,8 | 120 | 0,7 | 90 | 0,33 | 75 | 0,7 | 65 | 0,6 | 80 | 0,7 |
| 7 | 100 | 1,1 | 170 | 1,0 | 130 | 0,5 | 100 | 0.9 | 90 | 0,9 | 110 | 0,1 |

# СЕНА

| Кілограмаў корма | Націнне морквы | | Бацвінне цукровых буракоў | | Кілограмаў корма | Сена канюшынавае добрае | | Сена канюшынавае сярэдняе | | Сена люцэрны да цвіцення | | Сена люцэрны ў часе цвіцення | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў перапраўнага бялка | Кілограмаў кармавых адзінак | Грам. перапраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | | Грамаў перапраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў перапраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грам. перапраўнага бялка | Кілограм кармовых адзінак | Грамаў перапраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак |
| 1 | 10 | 0,1 | 10 | 0,1 | 1/4 | 12 | 0,1 | 12 | 0,1 | 25 | 0.1 | 20 | 0,1 |
| 2 | 30 | 0,3 | 30 | 0,3 | 1/2 | 25 | 0,2 | 25 | 0,2 | 50 | 0.2 | 35 | 0,2 |
| 3 | 40 | 0,4 | 40 | 0.4 | 1 | 50 | 0,5 | 50 | 0,5 | 100 | 0,5 | 70 | 0,4 |
| 5 | 70 | 0,6 | 70 | 0,6 | 2 | 110 | 1,1 | 90 | 0,9 | 210 | 0,9 | 150 | 0,8 |
| 7 | 100 | 0,9 | 100 | 0,9 | 3 | 160 | 1,6 | 140 | 1,4 | 310 | 1,4 | 220 | 1,2 |

| Кілограмаў корма | Сена эспарцэт | | Сена віка-авёс | | Сена гарох з аўсом | | Соя | | Лугавое вельмі добрае | | Мякіна гарохавая і вікавая | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/4 | 20 | 0,1 | 2 | 0,1 | 20 | 0,1 | 22 | 0,1 | 12 | 0,1 | 10 | 0,1 |
| 1/2 | 40 | 0,2 | 25 | 0,2 | 35 | 0,2 | 45 | 0,2 | 25 | 0,3 | 20 | 0.1 |
| 1 | 80 | 0,5 | 50 | 0,5 | 70 | 0,5 | 85 | 0,5 | 50 | 0,6 | 40 | 0.3 |
| 2 | 150 | 0,1 | 110 | 1,0 | 130 | 1,0 | 170 | 1,1 | 100 | 1,2 | 80 | 0,7 |
| 3 | 230 | 1,5 | 160 | 1,4 | 200 | 1,5 | 260 | 1,7 | 150 | 1,8 | 120 | 1,0 |

## Зернавы корм

| Кілограмаў корма | Авёс сярэдні | | Ячмень | | Жыта | | Кукуруза без пачаткаў | | Кукуруза ў пачатках | | Гарох | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак |
| 1/4 | 20 | 0,2 | 10 | 0,3 | 20 | 0,3 | 17 | 0,3 | — | 0,1 | 40 | 0,3 |
| 1/2 | 40 | 0,4 | 26 | 0,6 | 45 | 0.6 | 35 | 0,7 | 10 | 0,2 | 85 | 0,8 |
| 1 | 70 | 1,0 | 60 | 1,2 | 90 | 1,2 | 70 | 1,4 | 20 | 0,6 | 170 | 1,7 |
| 2 | 140 | 2,0 | 120 | 2,4 | 170 | 2,4 | 130 | 2,7 | 50 | 1.2 | 340 | 2.3 |
| 3 | 210 | 3,0 | 180 | 3,6 | 260 | 3,6 | 200 | 4,0 | 100 | 1,8 | 510 | 3,4 |
| 4 | 360 | 5,0 | 300 | 6,0 | 440 | 5,9 | 330 | 6,8 | 150 | 3,0 | 850 | 5,7 |

| Кілограмаў корма | Віка | | Чачавіца | | Бабы | | Проса | | Грэчка | | Соя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/4 | 50 | 0,3 | 50 | 0,3 | 50 | 0,3 | 18 | 0,2 | 19 | 0,2 | 70 | 0,3 |
| 1/2 | 100 | 0,5 | 95 | 0,6 | 95 | 0,6 | 35 | 0,5 | 35 | 0,4 | 130 | 0,7 |
| 1 | 200 | 1,1 | 190 | 1,1 | 190 | 1,1 | 70 | 1,0 | 70 | 0,9 | 260 | 1,4 |
| 2 | 400 | 2,3 | 380 | 2,3 | 380 | 2,2 | 150 | 2,0 | 150 | 1,7 | 520 | 2,8 |
| 3 | 1000 | 5,8 | 950 | 5,8 | 960 | 5,5 | 370 | 5,0 | 370 | 4,4 | 1310 | 7,0 |

Сакавіты корм — Сілос

| Кілограмаў корма | Бульба | | Земляная ігруша | | Бручка | | Турнепс | | Кукурузны | | Сонечнікавы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў перетрэзўнага бялка | Кілограм. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілогр карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілограм. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілограм. карм. адзінак | Грамаў пераграўнага бялка | Кілограм карм. адзінак |
| 1 | 10 | 0,3 | 4 | 0,2 | — | 0,1 | — | 0,1 | 10 | 0,2 | 10 | 0,1 |
| 2 | 20 | 0,6 | 10 | 0,5 | 10 | 0,2 | 10 | 0,2 | 10 | 0,4 | 10 | 0,3 |
| 3 | 30 | 1,0 | 15 | 0,7 | 10 | 0,4 | 10 | 0,2 | 20 | 0,6 | 20 | 0,4 |
| 5 | 50 | 1,6 | 25 | 1,7 | 10 | 0,6 | 10 | 0,4 | 30 | 1,1 | 30 | 0,7 |
| 7 | 60 | 2,1 | 35 | 1.9 | 20 | 0,9 | 20 | 0,6 | 50 | 1,5 | 50 | 1,0 |
| 10 | 90 | 3,3 | 70 | 3,0 | 30 | 1,2 | 30 | 0, | 70 | 2,2 | 70 | 1,4 |

| Кілограмаў корма | Люцэрны | | Канюшынавай атавы | | Бацвіння з цукров. бурак | | Бульбы варанай | | Сорго | | Віка-авёс | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 10 | 0,1 | 20 | 0,1 | — | 0,1 | — | 0,4 | — | 0,2 | 10 | 0,1 |
| 2 | 30 | 0,2 | 30 | 0,3 | — | 0,3 | — | 0,7 | 10 | 0,3 | 20 | 0,2 |
| 3 | 40 | 0,3 | 50 | 0,5 | 10 | 0,5 | — | 1,1 | 10 | 0,5 | 20 | 0,3 |
| 5 | 70 | 0,5 | 70 | 0,8 | 10 | 0,8 | — | 1,8 | 10 | 0,9 | 0,4 | 0,6 |
| 7 | 100 | 0,8 | 120 | 1,1 | 10 | 1,1 | — | 2,6 | 20 | 1,2 | 0,6 | 0,8 |
| 10 | 150 | 1,1 | 170 | 1,5 | 20 | 1,6 | — | 3,7 | 30 | 1,7 | 0,8 | 1,1 |

## Сакавітыя кармы

| Кілограмаў корма | Буракі цукровыя | | Буракі паўцукровыя | | Буракі кармовыя | | Морква | | Гарбузы сталовыя | | Гарбузы кармовыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармавых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кіл гр. кармавых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармавых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармавых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармавых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармавых адзінак |
| 1 | — | 0,3 | — | 0,2 | — | 0,1 | — | 0,1 | — | 0,2 | — | 0,1 |
| 2 | 10 | 0,5 | — | 0,4 | — | 0.2 | 10 | 0,3 | 10 | 0,4 | 10 | 0,2 |
| 3 | 10 | 0,8 | — | 0,5 | — | 0,3 | 10 | 0,4 | 20 | 0,5 | 16 | 0,3 |
| 5 | 10 | 0,1 | 10 | 0,9 | 10 | 0,5 | 20 | 0,7 | 40 | 0,9 | 20 | 0,6 |
| 7 | 20 | 1.8 | 15 | 1,3 | 10 | 0,7 | 3,0 | 1,0 | 60 | 1,2 | 30 | 0,9 |
| 10 | 30 | 2,6 | 20 | 1,8 | 10 | 1,0 | 40 | 1,4 | 80 | 1,8 | 0,4 | 1,2 |

## Мякіны

| Кілограмаў корма | Чачавіны | | Аўсу | | Грэчкі | | Соі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў пе-ратраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак |
| 1/4 | 20 | 0.1 | 2 | 0,1 | 5 | 0,1 | 5 | 0,1 |
| 1/2 | 40 | 0,2 | 5 | 0,2 | 10 | 0,2 | 10 | 0,2 |
| 1 | 80 | 0,5 | 10 | 0,5 | 20 | 0,3 | 20 | 0,5 |
| 2 | 170 | 1,0 | 30 | 0,9 | 30 | 0,6 | 40 | 1,0 |

## Адыходы млыноў і заводаў

| Кілограмаў кармоў | Лубін абвзгорачаны | | Пшаніца шчуплая | | Вотрубі пшанічныя буйныя | | Вотрубі пшанічныя дробныя | | Вотрубі жытнія | | Вотрубі ячменныя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. кармовых адзінак |
| 1/4 | 70 | 2,0 | 30 | 0,3 | 23 | 0,2 | 30 | 0,2 | 30 | 0,2 | 30 | 0,3 |
| 1/2 | 145 | 0.5 | 50 | 0.6 | 45 | 0,3 | 55 | 0,4 | 55 | 0,4 | 55 | 0,6 |
| 1 | 290 | 1,0 | 100 | 1,2 | 90 | 0,7 | 110 | 0,8 | 110 | 0,8 | 110 | 1,1 |
| 2 | 590 | 1,9 | 200 | 2,3 | 180 | 1,1 | 220 | 1,6 | 220 | 1,6 | 230 | 2,2 |
| 3 | 880 | 2,9 | 300 | 3,5 | 270 | 2,1 | 330 | 2,4 | 320 | 2,3 | 340 | 3,3 |
| 5 | 1470 | 4,8 | 500 | 5,8 | 460 | 3,5 | 550 | 4,0 | 540 | 3,9 | 570 | 5,5 |

| Кілограмаў корму | Вотрубі кукурузныя | | Млынавы пыл белы | | Млынавы пыл шэры | | Макуха ільняная | | Макуха сонечнікавая | | Макуха соевая | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4/1 | 20 | 0,3 | 10 | 0,2 | 10 | 0,1 | 70 | 0,3 | 80 | 0,3 | 90 | 0,3 |
| 2/1 | 30 | 0,5 | 20 | 0,3 | 20 | 0.2 | 130 | 0,6 | 150 | 0,6 | 190 | 0.6 |
| 1 | 60 | 1,1 | 40 | 0,6 | 40 | 0.5 | 270 | 1,2 | 310 | 1,1 | 380 | 1,2 |
| 2 | 110 | 2,1 | 80 | 1,3 | 80 | 0,9 | 540 | 2,4 | 610 | 2,3 | 770 | 2,5 |
| 3 | 170 | 3,2 | 120 | 1,9 | 120 | 1,4 | 810 | 3.6 | 920 | 3,4 | 1150 | 3,7 |
| 5 | 280 | 5,4 | 200 | 3,1 | 200 | 2,3 | 1360 | 6,0 | 1530 | 5,7 | 1920 | 6,2 |

| Кілаграмаў кармоў | Макуха канапляная | | Макуха рыжыкавая | | Макуха рапсавая | | Шрот ільняны | | Шрот канапляны | | Шрот соевы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак |
| 1/4 | 60 | 0,2 | 70 | 0.3 | 60 | 0,2 | 80 | 0,3 | 60 | 0,1 | 100 | 0,3 |
| 1/2 | 115 | 0,4 | 130 | 0,6 | 115 | 0,5 | 150 | 0,6 | 125 | 0.3 | 200 | 0,6 |
| 1 | 230 | 0,8 | 260 | 1,2 | 230 | 1,0 | 310 | 1,1 | 250 | 0.6 | 410 | 1,2 |
| 2 | 450 | 1,6 | 520 | 2,3 | 460 | 2,0 | 630 | 2,2 | 510 | 1,2 | 810 | 2,4 |
| 3 | 680 | 2,4 | 780 | 3.5 | 690 | 3,0 | 940 | 3,2 | 760 | 1,8 | 1220 | 3,7 |
| 5 | 1130 | 4,1 | 1280 | 5,9 | 1150 | 5,1 | 1570 | 5,4 | 1270 | 3,0 | 2030 | 6,1 |

| Кілаграмаў корма | Мялясапатака бурачная | | Соладавыя парасткі | | Брага жытняя | | Брага кукурузная | | Піўная драбіна | | Жом сухі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/4 | — | 0,2 | 30 | 0,2 | — | — | — | — | — | — | 10 | 0,2 |
| 1/2 | — | 0,4 | 70 | 0,4 | — | — | — | — | — | — | 15 | 0,4 |
| 1 | — | 0,8 | 140 | 0,8 | 10 | 0,1 | 10 | 0.1 | 40 | 0,2 | 30 | 0.8 |
| 2 | — | 0,6 | 280 | 1,7 | 20 | 0,2 | 20 | 0,2 | 70 | 0.4 | 50 | 1,7 |
| 3 | — | 2,4 | 420 | 2,5 | 30 | 0,2 | 30 | 0.3 | 110 | 0,6 | 80 | 2,5 |
| 5 | — | 4,0 | 710 | 4,2 | 50 | 0,4 | 60 | 0,5 | 180 | 1,1 | 130 | 4,3 |
| 10 | — | 8,0 | 1410 | 8,4 | 90 | 0,8 | 110 | 0,9 | 150 | 2,1 | 270 | 8,4 |

## Кармы жывёльнага паходжання

| Кілограмаў корма | Адыходы зерневыя | | Адыходы бабовыя | | Малако каровіна цэльнае | | Малако каровіна знятае | | Маслёнка | | Сыроватка салодкая | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў пе ратраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілогр. карм. адзінак |
| 1/4 | 20 | 0,2 | 40 | 0,2 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1/2 | 15 | 0,5 | 85 | 0,5 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1 | 90 | 1,0 | 170 | 0,9 | 40 | 0,3 | 40 | 0,1 | 40 | 0,1 | 10 | 0,1 |
| 2 | 180 | 2,0 | 350 | 1,8 | 70 | 0,6 | 80 | 0,3 | 80 | 0.3 | 20 | 0,2 |
| 3 | 260 | 3,0 | 510 | 2,7 | 110 | 0,9 | 120 | 0,4 | 110 | 0.4 | 30 | 0.3 |
| 5 | 140 | 5,0 | 850 | 4,5 | 180 | 1,4 | 160 | 0,6 | 190 | 0,8 | 50 | 0,5 |

| Кілограмаў корма | Мяса-касцяная мука | | Рыбная мука | | Мясная мука | | Сушаная кроў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка | Кілограмаў кармовых адзінак | Грамаў ператраўнага бялка |
| 0,1 | 20 | 0,1 | 40 | 0,1 | 60 | 0,1 | 70 | 0,1 |
| 0,2 | 50 | 0,2 | 80 | 0.2 | 130 | 0,3 | 140 | 0,2 |
| 0,3 | 70 | 0.3 | 120 | 0,3 | 190 | 0.4 | 220 | 0,4 |
| 0,4 | 100 | 0,5 | 160 | 0,4 | 260 | 0,6 | 290 | 0,5 |
| 0,5 | 120 | 0,6 | 200 | 0,5 | 320 | 0,7 | 360 | 0,6 |

# V

## РАЗВЯДЗЕННЕ СВІНЕЙ

### Развядзенне ў сябе

Калі гаспадарка мае стада свіней мясцовых відаў або невядомага паходжання, але якія адрозніваюцца добрымі гаспадарчымі якасцямі, у такім стадзе можна прымяняць спосаб развядзення ў сябе, г. зн. рабіць злучку між кнырамі і свіннямі толькі гэтай пароды або віда. Паляпшаючы адначасова кармленне і ўтрыманне свіней, можна дабіцца таго, што стада свіней паспяхова будзе выроўнівацца і паляпшацца, а таксама стойка перадаваць свае добрыя якасці патомству.

### Метызацыя і паглынанне крыві

Метызацыяй называецца такі спосаб развядзення, калі спарваюць пародзістага кныра і простых непалепшаных матак з мэтай атрымання хутка растучых парасят.

Парасяты, якія паходзяць ад такога спарвання, называюцца метысамі першага пакалення. Калі пусціць у злучку такіх метысаў паміж сабой, то парасяты, атрыманыя ад іх, будуць вельмі рознароднымі. Частка парасят будзе нагадваць па свайму знадворнаму выгляду

бабку, дзеда, а частка будзе падобна на бацькоў.

Каб палепшыць якасць парасят, унікнуць вялікай рознастайнасці ў памётах, свінаводы крыюць метысных свінак першага пакалення другім чыстапародным кныром той-жа пароды, што іх бацька; тады атрымліваецца патомства, у якога спадчынныя задаткі, атрыманыя ад чыстапароднага кныра, узмацняюцца.

Калі атрыманых ад другога скрыжавання свіней ізноў злучыць з чыстапародным кныром той жа пароды, то патомства зробіцца яшчэ больш палепшаным.

Пасля 5—6 скрыжаванняў такога рода, калі кныры заўсёды бяруцца аднэй пароды, атрыманае патомства будзе блізка нагадваць чыстапародных жывёл. Такі спосаб развядзення носіць назву **паглынання**.

Гэты спосаб просты і надзейны для атрымання добрых рэзультатаў; неабходна толькі ўважліва адабраць здаровых, чыстапародных кныроў.

## Рэзультаты метызацыі простых свіней з англійскімі

Метызацыя з'яўляецца магутным спосабам для хуткага палепшання простых мясцовых тугарослых і дробных свіней. Так напрыклад на Носаўскай даследчай станцыі ўстаноўлена, што парасяты, метысы першага пакалення, рас-

туць у $1\frac{1}{2}$—2 разы хутчэй, чым парасяты ад мясцовай свінні і мясцовага-ж кныра.

| | Парасяты метысы | Простыя парасяты |
|---|---|---|
| | у кілограмах | |
| Жывая вага парасят 6 мес . . | 47 | 25,5 |
| " " " 9 " . . . | 93 | 44,5 |
| " " " 2 год . . | 136 | 74,0 |

**Чыстапародным развядзеннем** называюць такі спосаб развядзення, пры якім спарваюцца жывёлы, належачыя да аднэй пароды.

**Што разумеюць пад пародай свіней.** Адрозніваюць тры асноўныя групы, або пароды свіней: 1) культурныя пароды, 2) мясцовыя непалепшаныя і 3) палепшаныя.

**Культурныя пароды.** У шмат якіх краінах намаганнямі некалькіх пакаленняў свінаводаў выведзены групы свіней, якія ў масе вельмі падобны паміж сабою як па знадворнаму выгляду, так і па цэнных гаспадарчых прызнаках. Такія групы свіней або пароды выведзены дзякуючы наступным прыёмам:

**1. Адбор свіней.** Свінаводы пастаянна адбіралі лепшых матак і кныроў, далейшае размнажэнне свіней праводзілі толькі ад адабраных выдатных жывёл.

**2. Радаслоўныя запісы.** Свінаводы вялі пры гэтым запісы, у якіх адзначалі, ад якіх продкаў (бацькі, маткі, дзеда, прадзеда) паходзяць жывёлы, г. зн. вялі родаслоўную свіней. Найбольш цэннымі лічылі такіх жывёл, якія перадавалі ў спадчыну патомству свае выдатныя якасці.

**3. Племянная кніга.** Для дакладнага вядзення родаслоўных запісаў свінаводы аб'ядноўваліся ў саюзы, якія і вялі асобыя племянныя кнігі.

**4. Атэстат** (племяннoе пасведчанне), у якім адзначаецца месца, час нараджэння жывёлы і яе паходжанне па бацькаўскай і мацярынскай лініі. Атэстат з'яўляецца тым дакумантам, які даказвае чыстапароднасць жывёлы.

## Паходжанне хатніх свіней

У сучасны момант устаноўлена, што ўсё хатнія свінні паходзяць ад двух дзікіх відаў свіней: ад дзікага еўрапейскага кабана і ад дзікага азіяцкага кабана.

Дзякуючы шматгадовай упартай працы чалавека з прыручанай дзікай свінні выведзены культурныя пароды хатніх свіней, прычым зменены да непазнаваемасці прыродныя ўласцівасці дзікай свінні: яе рост, пладавітасць, знадворная форма.

## Мясцовыя пароды свіней СССР

**Доўгавухія свінні**. У СССР яны вядомы пад назвай рускіх, польскіх ці чухонскіх свіней.

Доўгавухая свіння даволі буйная і доўгая жывёла на высокіх нагах, з доўгай вузкай галавой з вялікімі навісаючымі вушамі. Усё цела пакрыта грубай рознаафарбаванай шчацінай белага, рыжавата-бурага і чорнага колеру. Доўгавухія свінні растуць павольна (2,5—3 гады) і ў дарослым стане пры адкорме дасягаюць вагі 160—240 *кг*, даюць пры гэтым вельмі добрай якасці сальную тушу. Маткі доўгавухай пароды плодныя, добра выхоўваюць сваіх парасят, вельмі вынослівыя, няўтомна пасуцца на выганах і ў лясох.

**Кароткавухія свінні.** Кароткавухія свінні маюць галаву з выцягнутым вузкім рылам (хобатам) і з невялікімі вушамі, якія тырчаць уверх. Яны развіваюцца некалькі хутчэй, чым доўгавухія свінні; па росту і даўжыні тулава яны меншыя за доўгавухіх свіней. У дарослым стане дасягаюць вагі 100—150 *кг*. Кароткавухія свінні добра ўкрыты грубай шчацінай рознай афарбоўкі, вельмі вынослівыя і таксама, як доўгавухія свінні, прыстасаваны да пашавага ўтрымання.

У сучасны момант гэтыя дзве пароды мясцовых свіней моцна змяніліся, змяшаліся між сабой, апрача таго ў большасці раёнаў СССР доўгавухія і кароткавухія свінні пастаянна скры-

жоўваліся з свіннямі англійскіх парод. Таму ў масе яны па знадворнаму выгляду, росту і вазе вельмі рознастайныя.

Сярод мясцовых свіней сустракаюцца асобныя групы, якія адрозніваюцца вельмі цэннымі гаспадарчымі якасцямі. Будучы пастаўлены ў добрыя ўмовы ўтрымання і кармлення, гэтыя свінні хутка паляпшаюцца і прыбаўляюць у росце, яны скідваюць грубую шчаціну, набываюць добры склад і мясістасць.

Такія групы мясцовых свіней трэба берагчы, таму што яны могуць паслужыць моцнай асновай для культурнай свінагадоўлі.

## Галоўнейшыя культурныя пароды свіней

Для палепшання нашых мясцовых свіней шляхам метызацыі найбольшае значэнне маюць англійскія культурныя пароды свіней, а іменна буйныя англійскія белыя свінні і беркшыры.

## Буйныя белыя англійскія свінні

Гэта парода ў нас у СССР прызнана галоўнай паляпшаючай пародай для мясцовых непалепшаных свіней, таму што буйная англійская свіння праявіла і даказала на практыцы сваю здольнасць да палепшання мясцовых парод свіней.

Свінні буйнай белай пароды выведзены ад мясцовых доўгавухіх англійскіх свіней шляхам адбора і скрыжавання з кітайскай свіннёй і пры

добрым карманенні і доглядзе набыла шмат цэнных якасцяй.

Важнейшыя дадатныя бакі гэтай пароды наступныя:

**1.** Буйныя белыя свінні з'яўляюцца аднэй з самых **рослых і вялікай вагі парод**. Жывая вага дарослых свіней гэтай пароды — ад 250 да 300 *кг*, а кныроў да 320—400 *кг*.

**2.** Яны адрозніваюцца **высокай плоднасцю** у сярэднім у памёце даюць 10—12 парасят, прычым маткі з вельмі добрым норавам уважліва гадуюць прыплод, маюць шмат малака.

Вага парасят

| | | |
|---|---|---|
| Пры нараджэньні | | 1—1,2 *кг* |
| 1 | мес | 5—6 „ |
| 2 | „ | 12—15 „ |
| 4 | „ | 33—38 „ |
| 6 | „ | 56—62 „ |
| 8 | „ | 80—100 „ |
| 10 | „ | 110—120 „ |
| 12 | „ | 130—145 „ |

**3.** Дзякуючы хуткаму росту парасяты буйнай белай пароды прыгодны для адкорма і забою ў раннім узросце і пры тым для бекону, таму што маюць доўгія, акругленыя, глыбокія бакі і добрае размеркаванне мяса і тлушчу ў тушы.

**4.** Буйныя белыя свінні вельмі рухомыя і дужыя. Яны маюць добры апетыт і добра скарыстоўваюць пашу, што вельмі важна для матак.

5. З прычыны доўгагадовага развядзення пароды ў сябе (у чыстаце) [1]) яны пры скрыжаванні з другімі пародамі вельмі стойка перадаюць свае цэнныя якасці прыплоду. Гэта якасць вельмі важная, таму што, набываючы кныра буйнай белай пароды для скрыжавання з мясцовай свіннёй, гаспадарка можа быць упаўне ўпэўнена, што атрымае ад кныра добры прыплод парасят.

У сучасны момант у большасці раёнаў па ўсяму Саюзу ССР арганізуюцца племянныя калгасныя фермы, прычым галоўная маса племянных свінней на гэтых фермах буйнай белай пароды. З гэтых ферм будуць адпускацца чыстапародныя кныры і маткі для палепшання простых свіней СТКФ, калгасаў і калгаснікаў.

## Беркшыры

Асновай для гэтай пароды паслужылі мясцовыя беркшырскія свінні, якія дзякуючы добраму ўтрыманню, кармленню і падбору былі буйныя, доўгія, добра зложаны і ўладалі грубым касцяком. Гэтыя свінні павольна развіваліся і цяжка адкармліваліся.

Мясцовыя беркшырскія свінні скрыжоўваліся са свіннямі кітайскай і сіамскай парод. У канчатковым рэзультаце атрымаліся доўгія, прамаспінныя, з глыбокімі акруглымі бакамі, шы-

---

[1]) Утварэнне злучкі між кнырамі і свіннямі толькі аднэй пароды.

рокія, якія рана паспяваюць, беркшыры. Афарбоўка беркшырскіх свіней чорная з белымі адзнакамі на мордзе, на канцы ног і на хвасце.

Жывая вага беркшыраў у $1^1/_2$—2 гады дасягае 160—200 *кг*.



Кныр беркшырскай пароды.

Беркшыры вельмі прыгодныя і вынослівыя для пашавага ўтрымання асабліва ў гарачым клімаце.

Да недахопаў беркшыраў трэба аднесці тое, што ў параўнанні з буйнымі белымі свіннямі яны дробныя, пры няўмелым доглядзе, развядзенні і кармленні беркшыры хутка драбнеюць і губляюць свае формы.

## Як выбраць добрую свінню

**Добрая прадукцыйная свіння павінна адрозніваць трывалым, здаровым і моцным целаскладам.** Яна павінна мець:

а) шырокую галаву, якая паказвае на моцны склад і хуткае паяданне корму, не вельмі вялікія вушы, якія-б не навісалі і не закрывалі вачэй, і добрыя зоркія вочы;

б) трывалую злёгка выгнутую шырокую спіну і абшырныя сцёгны;




Свіння буйнай белай пароды добрага склада і развіцця. Прамеры: А—касая даўжыня тулава; В—вышыня ў холцы; Г—глыбіня грудзей.

в) глыбокія і шырокія грудзі, якія паказваюць на добрае развіццё лёгкіх і на вялікі аб'ём сэрца. Гэтая прымета вельмі важна для здароўя свінні;

г) трывалыя простыя ногі з кароткай бабкай і буйнай косцю. Такія трывалыя ногі патрэбны

свінні, каб лягчэй несці на пашу шмат парасят у чэраве або цяжкую тушу пры адкорме, а для кныра вольна і лёгка падымацца і пакрывацць свіней;

д) добры акруглы выгіб рэбраў і вялікую чэравістасць без адвісласці бруха, якая паказвае на здольнасць свіней паядаць і перапрацоўваць у свініну многа зерневага і травяністага корма;

е) гладкую шоўкавістую шчаціну, якая роўнамерна пакрывае цела і даказвае хуткае і добрае ўсваенне корма;

ж) для свінні вельмі важна, каб яна мела добра развітае вымя не менш чым з 10—12 саскамі, а для кныра буйныя роўнамерна развітыя семянныя залозы (яечкі).

### Свіння павінна мець буйны рост, вялікую жывую вагу і скораспеласць

Дарослыя свінні культурных і палепшаных скораспелых парод растуць наступным чынам.

| Узрост | Жывая вага (у кілограмах) | У проц. да вагі дарослай свінні | Касая даўжыня тулава (у сантыметр.) | У проц. ад даўжыні дарослай свінні |
|---|---|---|---|---|
| Ад 6 да 8 мес. | 90—100 | 50 | 85—97 | 65 |
| „ 8 „ 12 „ | 145—160 | 75 | 100—110 | 80 |

## Свіння павінна мэць добрую плоднасць

Добрай плоднасцю лічыцца, калі матка дае ў памёце не менш 8 нормальна развітых парасят.

Не трэба астаўляць у стадзе дарослых матак, якія даюць падрад 2—3 разы менш 6 парасят у памёце.

Выключэнне можа быць дапушчана толькі для тых свінак, якія паросяцца першы раз. Павелічэнне ліка парасят у памёце да 10 і 12 вельмі пажадана і павышае цэннасць маткі. Вялікая плоднасць—больш 12 парасят—можа аказацца малакарыснай, таму што свінні цяжка выкарміць больш 12 парасят.

## Свіння павінна быць багата малочнай

Важнай умовай для захавання паспяховага роста парасят з'яўляецца малочнасць маткі, таму што парасяты ў першыя месяцы іх жыцця маюць вострую патрэбу ў матчыным малаку.

Замена матчынага малака кароўім малаком або другімі кармамі звычайна не дасягае мэты і парасяты гінуць. Немалочную матку трэба выбракоўваць.

Малочнасць матак пазнаюць па хуткасці роста і па прыважцы парасят у падсосны перыяд.

**Практыка паказвае, што матка, якая выкормлівае 8 парасят так, што кожнае парася**

к месячнаму ўзросту дасягае жывой вагі каля 6 *кг*, а к 2 месячнаму—12,5 *кг*, можа лічыцца малочнай.

## Якімі прызнакамі павінен уладаць добры кныр

Значэнне кныра для атрымання добрай якасці парасят вельмі вялікае. Таму, набываючы кныра для СТКФ, неабходна асабліва строга і ўважліва праводзіць выбар кныра.

Ад кныра патрабуецца:

а) каб ён стойка перадаваў у спадчыну свае якасці.

Такой уласцівасцю ў большасці выпадкаў уладаюць чыстапародныя кныры ад плодных бацькі і маткі. Калі-ж прыходзіцца набываць кныра мясцовай пароды, то неабходна ўпэўніцца, што ён паходзіць ад добрых бацькоў.

б) Кныр павінен лёгка і вольна, без адказу ісці ў злучку і запладняць свіней. Калі-ж акажацца больш 10 проц. матак ялавымі, то кныр ужо павінен выклікаць сумненне ў яго плоднасці.

в) Пакрытыя кнырам маткі павінны даваць вялікія памёты нормальна разьвітых жыццяздольных парасят. Калі будзе наглядацца ў памётах ад кныра і розных матак мала парасят або многа парасят аказваюцца недаразвітымі і слабымі, і часта паяўляюцца мёртванароджа-

ныя парасята, то належыць зрабіць кныру спецыяльны ветэрынарны агляд і праверыць яго сперму.

г) Кныр павінен мець добрае здароўе і моцны склад цела.

## Як праводзіць ацэнку і адбор матак на СТКФ

Без адбора матак у стадзе можа накапіцца вельмі многа дрэнных сьвіней, якія будуць наносіць страту гаспадарцы.

Для таго каб наладзіць адбор брыгадзір-свінавод павінен весці па кожнаму апаросу маткі просты запіс усяго толькі ў адну строчку па наступнай форме:

У запісу абазначана, што матка № 1 апарасіла 8 парасят. Такая плоднасць лічыцца дастатковай. Таму матка атрымала ў наступнай графе ацэнку ў 100 балаў. Далей матка выгадавала і здала пры ад'ёме толькі 6 парасят. Калі-б яна выгадавала ўсіх 8 парасят, то атрымала-б за мацярынскія якасці 100 балаў. За кожнае згубленае парася ёй трэба скінуць 12,5 балаў (100 : 8=12,5), а за двух парасят 25 балаў. Таму яна атрымала за свае мацярынскія якасці толькі 75 балаў.

Вага ўсіх парасят пры ад'ёме аказалася 66 *кг*. Калі-б матка выкарміла 8 парасят, па 12,5 *кг*

| № матак | № кныроў | Час злучкі | Час апаросу | Лік і вага ўсіх нормальных жывых парасят пры нараджэнні | Ацэнка за плоднасць | Лік аднятых парасят у 2 месяцы | Ацэнка за мацярынскія якасці | Жывая вага ўсіх аднятых парасят у 2 месяцы | Ацэнка за малочнасць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | A | 2/XII-31 г. | 22/III-32 г. | 8 пар. / 9 *кг* | 100 | 6 | 75 | 66 *кг* | 66 |
| 2 | A | 5/XII-31 г. | 25/III-32 г. | 7 пар. / 6 *кг* | 87,5 | 2 | 25 | 17 „ | 17 |
| 3 | A | 10/XII-31 г. | 1/IV-32 г. | 10 пар. / 9,5 *кг* | 125 | 9 | 112,5 | 90 „ | 90 |

кожнае. увесь памёт важыў бы пры ад'ёме 100 *кг.* (8 × 12,5 = 100) і тады матка атрымала-б 100 балаў, г. зн. за кожны 1 *кг* жывой вагі парасят яна атрымлівае 1 бал. Але калі яна выгадавала і здала памёт вагой толькі 66 *кг,* то замест 100 балаў яна і атрымлівае ацэнку толькі ў 66 балаў. Такім чынам даная матка атрымала ацэнку:

| | | |
|---|---|---|
| За плоднасць . . . . | 100 | балаў |
| „ мацярынскія якасці . | 75 | „ |
| „ малочнасць . . . | 66 | „ |
| Усяго . . | 241 | балаў |

Падзяляючы гэтую агульную ацэначную суму па ўсіх трох прадукцыйных якасцях на 3, атрымліваем сярэднюю ацэнку маткі ў 80 балаў (241 : 3 = 80).

Ацэнка маткі № 2 будзе наступная:

| | | |
|---|---|---|
| За плоднасць . . . . . . | 87,5 | балаў |
| „ мацярынскія якасці . . . | 25,0 | „ |
| „ малочнасць . . . . . . | 17,0 | „ |
| Сярэдняя ацэнка . . . | 129,5 : 3 = 43 | • |

Калі-б матка апарасіла і выгадавала больш чым восем парасят, то такой матцы замест скідкі належыць рабіць надбаўку. Так, матка № 3 апарасіла 10 парасят і атрымала ацэнку

125 балаў (надбаўка за кожнае лішняе парася звыш васмі па 12,5 балаў). Яна выгадавала 9 парасят, г. зн. на 1 парася больш 8, і таму ёй дана ацэнка ў 112,5 балаў (надбаўка за кожнае парася звыш 8 па 12,5). Вага ўсіх парасят аказалася 90 *кг*, і матцы дадзена ацэнка за малочнасць у 90 балаў.

Вядучы ацэнку па асобных прадукцыйных якасцях маткі, неабходна звяртаць увагу на здароўе свінні, на яе рост і трывалы склад цела і прытрымлівацца тых норм, якія былі паказаны ў раздзеле аб якасцях, патрабуючыхся ад прадукцыйнай свінні.

Тых матак, якія паказваюць прадукцыйнасць ніжэй дапушчальнай нормы, у стадзе затрымліваць не трэба, а замяняць іх свіннямі лепшай якасці пасля вучота іх прадукцыйнасці па двух апаросах.

Вядучы адбор па сярэдняй ацэнцы ўсіх прадукцыйных якасцяй матак, атрымаўшых 85 балаў і вышэй, адносяць да першай класы матак, атрымаўшых ад 65 балаў да 85 балаў, адносяць да другой клясы, і матак, атрымаўшых менш 65 балаў, адносяць да разрада браку, калі такую нізкую ацэнку маткі атрымалі па вучоту двух апаросаў. Пры ацэнцы і адборы свіней належыць прымаць пад увагу асобныя выпадкі гібелі парасят, якія не залежаць ад матак, уносіць у ацэнку адпаведную папраўку.

# VI

# АРГАНІЗАЦЫЯ І ПРАВЯДЗЕННЕ ЗЛУЧНАЙ КАМПАНІІ Ў СТКФ

## Як скласьці план злучак

У 1932—33 г.г. злучная і апаросная кампанія праводзяцца з разлікам атрымання на кожную наяўную да 1/I 1933 г. свінаматку старэй 8 месяцаў ня менш 1,2 апароса.

Ва ўсіх раёнах за выключэннем Крыма, паўднёвай часткі УССР, Паўночнага Каўказа, Дагестана і Закаўказзя злучная кампанія пачынаецца з 1 лістапада і заканчваецца да 1 чэрвеня. Ад злучаных у гэты прамежак часу матак апаросы пачнуцца з 22—24 лютага і скончацца да 1 кастрычніка. Пасля 1 кастрычніка да канца лютага апаросаў як правіла быць не павінна, выключэнне дапушчальна толькі ў паказаных вышэй паўднёвых раёнах і на фермах, якія маюць цёплыя, сухія, светлыя свінарнікі, у якіх можна мець увосень і ўзімку не менш 10—12° цяпла.

План злучнай кампаніі па месяцох складаецца з такім разлікам, каб у першым паўгоддзі (з 20 лютага да 1 ліпеня) парасілася не менш 85 проц. наяўных на 1 студзеня матак, а ў другім паўгоддзі не менш 35 проц.

З 1 лістапада да 1 сакавіка пакрываюцца ўсе маткі для атрымання ад іх першага апароса

в канца лютага да пачатку ліпеня. З 1 сакавіка да 1 чэрвеня пакрываецца 40 проц. наяўных на 1 студзеня свінаматак для атрымання ад іх другога апароса.

Каб мець магчымасць пакрыць 40 проц. наяўных на 1 студзеня свінаматак з 1 сакавіка да 1 чэрвеня, для атрымання ад іх у другім паўгоддзі (да 1 кастрычніка) другога апароса трэба пакрыць наступную колькасць матак па месяцох (у процантах):

| | | |
|---|---|---|
| У лістападзе . . . | 30 | ад ліку матак, наяўных на 1/I |
| „ снежані . . . . | 40 | „ „ „ „ „ 1/I |
| „ студзені . . . | 20 | „ „ „ „ „ 1/I |
| „ лютым . . . . | 10 | „ „ „ „ „ 1/I |
| „ сакавіку . . . . | 5 | „ „ „ „ „ 1/I |
| „ красавіку . . . | 15 | „ „ „ „ „ 1/I |
| „ маі . . . . . . | 20 | „ „ „ „ „ 1/I |

## Процант ялавасці пры злучках і размеркаванне апаросаў па месяцох

Калі маткі і кныры ўпаўне здаровыя і здольнасць кныроў запладняць матак праверана па доследзе, то пры своечасовай і правільнай злучцы ялавасці быць не павінна. Але прыма-

ючы пад увагу, што некаторых матак полавая ахвота праходзіць у вельмі скрытай форме і такія маткі лёгка могуць перагуляць, а таксама, што некаторыя маткі нават пры правільным доглядзе і ўтрыманні ўсё-ж даюць выкідышы і ненормальныя роды, пры складанні плана апаросаў дапушчальна папраўка на ялавасць і ненармальныя роды ў размеры не больш 15 проц. ад ліку пакрытых матак.

Выходзячы з плана злучак і папраўкі на ялавасць, з агульнай колькасці свінаматак к пачатку 1933 г. павінны даць нормальныя апаросы (у процантах):

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У лютым . . . . | 10 | ад свінаматак, | наяўных | на | 1/I |
| „ сакавіку . . . | 20 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ красавіку . . . | 30 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ маі . . . . | 15 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ чэрвені . . . . | 10 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ ліпені . . . . | 5 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ жніўні . . . . | 15 | „ | „ | „ | 1/I |
| „ верасні . . . . | 15 | „ | „ | „ | 1/I |

## Правілы ўтрымання кныроў і матак у перыод злучкі

1. Кныра ў час злучнай кампаніі трымаць у сярэдняй укормленасці. Атлусцеўшым кнырам збавіць норму кармлення, а высіленным — павялічыць дачу канцэнтратаў і сакавітых кармоў.

2. Карміць кныра па норме рознастайнымі кармамі: авёс, вотрубі, ячмень, проса, нямнога макухі, буракі, морква, гарбузы, люцэрна, канюшына. Як правіла ў рацыёне кныра павінен уваходзіць авёс або проса ад 400 да 800 г у суткі (гл. кармавыя дачы для кныроў).

---

3. Штодзенна даваць кныру ў корме па 15 г спажыўнай солі і столькі ж касцянай мукі, крэйды або гашанай вапны. Апрача таго даць магчымасць кныру карыстацца дастаткова ўволю сумессю дзернавой зямлі, попелу, тоўчанай цэглы, драўлянага вугалю.

---

4. Не пакідаць у кнырных станках кармушак і іншых прадметаў, служачых повадам да ананіравання.

---

5. Кныроў, хворых на ананізм, выдзеліць у асобыя станкі, збавіць дачу корма і ўзмоцнена прагульваць.

---

6. Узімку кныроў чысціць праз кожныя 15—20 дзён, а летам даць магчымасць купацца або часцей абліваць вадой з лейкі.

---

7. Трымаць племянных кныроў у адзіночных станках. Кныраў палепшаных парод і бес-

пародных можна трымаць па некалькі галоў разам з папярэднім спільваннем клыкоў.

---

8. Пры ўтрыманні кныроў у адным свінарніку з маткамі перагародкі ў станках для кныроў рабіць суцэльнымі.

---

9. Пры пабудове манежаў (злучных станкоў у памяшканні з маткамі перагародкі рабіць суцэльнымі да столі і гуканепранікальнымі.

---

10. Пры паяўленні ў кныра вяласці, пры згубе апетыту, часам адказе ісці ў злучку ўважліва наглядаць за здароўем кныра, даваць доўгачасовую прагулку, сачыць за захаваннем нормы садак і адпачынкам кныра і даваць лепшыя кармы.

---

11. Не дапушчаць з кныром грубога абыходжання, тым больш пабояў.

---

12. Штодзенна выганяць кныра на 2—3-гадзінную прагулку на свежым паветры.

---

13. Пушчаць матак у злучку не маладзей 8-месячнага ўзросту, а кныроў не маладзей 10-месячнага ўзросту.

---

14. Племянную матку не дапушчаць да атлушчэння. Карміць рознастайнымі кармамі і абавязкова даваць уволю мінеральных кармоў. Выганяць матак таксама, як і кныроў на прагулку.

## КАРМАВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ КНЫРОЎ (ПРОФ. І. С. ПАПОВА)

**Даваць у суткі**

| Жывая вага кныроў (*у кг*) | Не ў влучны сезон | | У влучны сезон | |
|---|---|---|---|---|
| | Пераў траўнага бялка не менш (*у кг*) | Кармавых адзінак (*у кг*) | Пераў траўнага бялка не менш (*у кг*) | Кармавых адзінак (*у кг*) |
| а/ Для маладога растучага кныра | | | | |
| 100—120 | 0,30 | 3,5 | 0,40 | 4 0 |
| 120—140 | 0,32 | 3,8 | 0,42 | 4,3 |
| 140—160 | 0,35 | 4,0 | 0,45 | 4,5 |
| 160—180 | 0,38 | 4,2 | 0,47 | 4,7 |
| б/ Для дарослага кныра | | | | |
| 180—200 | 0,17 | 3,0 | 0,24 | 3,3—4,0 |
| 200—240 | 0,19 | 3,1 | 0,27—0,3 | 3,3—4,3 |
| 240—260 | 0,21 | 3,5 | 0,29—0,32 | 4,2—4,6 |

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ КНЫРОЎ (у *кг*)
### У злучны сезон

### Для зерневых раёнаў

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 *кг*) | | | | Даросламу кныру (жывая вага 180—200 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам | 2-гі прым. з сенам і сілосам | 3-ці прым. | | 1-ы прым. з сенам | 2-гі прым. з сенам і сілосам | 3-ці прым. | |
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) | 1,0 | 0,5 | — | — | 1,0 | 0,5 | — | — |
| 2. **Сілос** (кукурузны, з гарбузоў і інш.) | — | 2,0 | — | — | — | 2,0 | — | — |
| 3. **Трава бабовых** (на пашы ці ў скошаным выглядзе: люцэрны, канюшыны і інш.) | — | — | — | Уволю | — | — | — | Уволю |
| 4. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, проса, кукуруза і інш. Сумесь з 2-3 кармоў) | 2,5 | 2,5 | — | 2,3 | 2,8 | 2,5 | — | 2,5 |

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100–120 кг) | | | | Даросламу кныру (жывая вага 180–200 кг) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам | 2-гі прым. з сенам і з сіласам | 3-ці прым. | | 1-ы прым. з сенам | 2-гі прым. з сенам і сіласам | 3-ці прым. | |
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . | 0,5 | 0,5 | — | 0,5 | 0,3 | 0,3 | — | 0,3 |
| 6. **Макуха** (сонечнікавая, ільняная) . . . . | 0,5 | 0,5 | — | 0,3 | 0,2 | 0,2 | — | 0,1 |
| 7. **Мінеральная сумесь № 1** (молаты вапняк або крэйда 4 часткі, солі 2 часткі) . . . | 40 г | 40 г | — | 40 г | 30 г | 30 г | — | 30 г |
| Для бульбяна-карнеплодных раёнаў. | | | | | | | | |
| 1. **Сена бабовых** (канюшыны, вікі і інш) . . | 0,75 | 0,75 | 0,5 | — | 0,75 | 0,75 | 0,5 | — |
| 2. **Карняплоды** (кармавыя буракі, морква, бручка, турнэпс і інш.) . . . . . | 5,0 | — | — | — | 6,0 | — | — | — |

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 *кг*) | | | | Даросламу кныру (жывая вага 180—200 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам і карняпл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | | 1-ы прым. з сенам карняпл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | |
| 3. **Бульба** (запараная або вараная або сілосав.). | — | 3,0 | — | — | — | 3,0 | — | — |
| 4. **Сілос** (з канюшыннай атавы, аўсяна-вікавай і інш.) . . . . | — | — | 2,0 | — | — | — | 2,0 | — |
| 5. **Трава бабовых** (на пашы або ў скошаным выглядзе: канюшына, віка і інш.) . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 6. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, проса, жыта, сумесь з 2—3 кармоў.) . . | 2,0 | 1,7 | 2,5 | 2,3 | 2,5 | 2,0 | 2,5 | 2,3 |
| 7. **Вотрубі** (жытнія, пшанічныя) . . . . | 0,6 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,2 | 0,3 | 0,5 | 0,4 |
| 8. **Макуха** (ільняная, сонечнікавая, канапляная) | 0,5 | 0,5 | 0,3 | 0,3 | 0,1 | 0,2 | 0,1 | 0,1 |

| Назва кармоў | маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 *кг*) | | | | Дарослаunion кныру (жывая вага 180—200 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | | У стойлавы сезон | | | |
| | 1-ы прым. з сенам і корнепл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | У пашавы сезон | 1-ы прым. з сенам і корнепл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | У пашавы сезон |
| 9. **Мінеральная сумесь № 2** (молаты вапняк або крэйда 4 часткі, касцяной мукі 4 часткі, солі 2 часткі) . . | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 40 *г* | — |
| **У нязлучны сезон** | | | | | | | | |
| Для зерневых раёнаў | | | | | | | | |
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны і інш.) | 1,0 | — | 0,5 | — | 1,5 | — | 0,5 | — |
| 2. **Сілос** (кукурузны з гарбузу і інш). | — | — | 2,5 | — | — | — | 3,0 | — |
| 3. **Трава бабовых** (на пашы або ў скошаным выглядзе: люцэрна, канюшына і інш.) . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 4. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, проса, кукуруза і інш) | 2,3 | — | 2,3 | 2,0 | 2,0 | — | 2,0 | 1,8 |

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100 – 120 *кг*) | | | | Даросламу кныру (жывая вага 180 – 200 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам і корняпл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | | 1-ы прым. з сенам і корняпл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | |
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . | 0,5 | — | 0,3 | 0,4 | 0,1 | — | 0,2 | 0,2 |
| 6. **Макуха** (сонечнікавая, ільняная) . . . . | 0,2 | — | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,2 | — | 0,1 |
| 7. **Мінеральн. сумесі № 1** | 40 г | 40 г | — | 40 г | 30 г | 30 г | — | 30 г |
| **Для бульбяна-корняплодных раёнаў** | | | | | | | | |
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, віка і інш.) . | 1,0 | 1,0 | 0,5 | — | 1,0 | 1,0 | 0,5 | — |
| 2. **Корняплоды** (кармав. буракі, морква, бручка, турнепс) . . . | 5,0 | — | — | — | 6,0 | — | — | — |
| 3. **Бульба** (запараная або вараная або сіласаваная) . . . . | — | 3,0 | — | — | — | 3,0 | — | — |
| 4. **Сілос** (з канюшынавай атавы, аўсяна-вікавай і інш.) . . | — | — | 2,5 | — | — | — | 3,0 | — |

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 кг) | | | | Даросламу кныру (жывая вага 180—200 кг) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам і корнялл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | | 1-ы прым. з сенам і корнялл. | 2-гі прым. з сенам і бульбай | 3-ці прым. з сенам і сілосам | |
| 5. **Трава бабовых** (на пашы, або у скошаным выглядзе: канюшына, віка з аўсом і інш.) . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 6. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, проса, жыта і інш.) сумесь з 2—3 кармоў | 2,0 | 1,5 | 2,0 | 2,0 | 1,3 | 1,0 | 1,8 | 1,8 |
| 7. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . | 0,3 | 0,3 | 0,5 | 0,4 | 0,4 | 0,4 | 0,3 | 0,2 |
| 8 **Макуха** (ільняная, сонечнікавая) . . . . | 0,2 | 0,2 | 0,3 | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 |
| 9. Мінеральн. сумесь № 2 | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* |

**Увага.** 1. Макуху і вотрубі можна замяніць дробленым зернем бабовых (гарох, соя, чачавіца, віка) або адыходамі бабовых зерняў. Пажадана пры гэтым захаваць у дачы па 100 *г* вотрубяй і макухі.

2. Замест аднэй бульбы або корняплодаў можна даваць сумесь іх (3 *кг* корняплодаў і 2 *кг* бульбы).

3. Частку корняплодаў ці бульбы можна замяніць сілосам, даючы яго 1,5 *кг*.

## КОЛЬКАСЦЬ КАРМОЎ, ПАТРЭБНЫХ ДЛЯ АДНАГО КНЫРА Ў ПРАЦЯГУ ГОДА

### У зерневых раёнах

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 *кг*) | Дарасламу кныру (жывая вага 180—200 *кг*) |
|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) без сілосу . . | 2,40 *ц* | 3,00 *ц* |
| **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) з сілосам . . . | 1,20 „ | 1,20 „ |
| 2. **Сілосу** (кукурузнага, з гарбузоў, сончнікавага і інш.). . . . . . | 5,40 „ | 6,0 „ |
| 3. **Травы** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) . . . . . . . | 7,50 „ | 7,50 „ |
| 4. **Зерні злакавых** (авёс, ячмень, кукуруза, проса, жыта і інш.) Належыць мець сумесь з 2—3 зерневых кармоў. . . . . | 8,50 „ | 8,50 „ |
| 5. **Вотрубяй** (пшанічных, жытніх). . . . . . | 1,65 „ | 0,85 „ |
| 6. **Макухі** (сончнікавай, ільнянай) . . . . . | 1,20 „ | 0,50 „ |
| 7. Мінеральная сумесь №1 (4 часткі молатай вапны або крэйды, 2 часткі солі) | 0,15 „ | 0,10 „ |

| Назва кармоў | Маладому растучаму кныру (жывая вага 100—120 кг) | Даросламу кныру (жывая вага 180—200 кг) |
|---|---|---|
| **У бульбяна-корняплодных раёнах.** | | |
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, віка і інш. без сілоса) | 2,10 ц | 2,70 ц |
| 2. **Сена бабовых** з сілосам. | 1,20 „ | 1,20 „ |
| 3. **Корняплодаў** (кармавыя буракі, морква, бручка, турнепс) . . . . | 12,0 „ | 14,5 „ |
| 4. **Бульбы** . . . . . . | 7,20 „ | 7,20 „ |
| 5. **Сілоса** (з канюшыннай атавы, аўсяна-вікавай, сончнікавай, кукурузнай) . . . . . . . | 5,40 „ | 6,00 „ |
| 6. **Травы на пашы або ў скошаным выглядзе** (канюшына, віка і інш.) . | 7,50 „ | 7,50 „ |
| 7. **Зерні злакавых** (авёс, жыта, ячмень, проса і інш.). Сумесь 2—3 зерневых кармоў . . . . | 7,40 „ | 6,70 „ |
| 8. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія). . . . . . | 1,20 „ | 1,20 „ |
| 9. **Макуха** (льняная, сончнікавая) . . . . . | 1,00 „ | 0,5 „ |
| 10. **Мінеральнай сумесі №2** (4 часткі молатага вапняку або крэйды, 4 часткі касьцяной мукі, 2 часткі солі). . . . . . . | 0,15 „ | 0,10 „ |

## НОРМЫ ДЛЯ ХАЛАСТЫХ МАТАК
(праф. І. С. Папова)

Даваць у суткі

| Жывая вага (у кг) | Ператраўнага бялка не менш (у кг) | Кармавых адзінак (у кг) |
|---|---|---|
| а) Для маладых растучых матак | | |
| 80 | 0,21 | 2,7 — 3,0 |
| 100 | 0,22 | 3,0 — 3,3 |
| 120 | 0,23 | 3,3 — 3,7 |
| 140 | 0,24 | 3,5 — 3,8 |
| б) Для дарослых матак | | |
| 130 - 140 | 0,11 | 1,8 |
| 140—160 | 0,12 | 2,1 |
| 160—180 | 0,14 | 2,3 |
| 180—200 | 0,16 | 2,7 |
| 200—220 | 0,17 | 3,0 |
| 220—240 | 0,19 | 3,2 |
| 240—260 | 0,20 | 3,5 |

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМОВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ ХАЛАСТЫХ МАТАК (у *кг*)

### а) Для зерневых раёнаў

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывая вага 80—100 *кг*) | | | Дарослай матцы (жывая вага 130—140 *кг*) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілос. | | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілос. | |
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) . . . . . . | 1,00 | 0,5 | — | 1,5 | 1,5 | — |
| 2. **Сілос** (кукурузны, з гарбузоў і інш.) | — | 2—2,5 | — | — | 3—4,0 | — |
| 3. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрна, канюшына, віка і інш.) . . . . . . . . | — | — | уволю | — | — | уволю |
| 4. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, кукуруза, проса і інш.) Сумесь з 2—3 зерневых кармоў . . | 1,8 | 1,5 | 1,5 | 1,8 | 0,5 | 0,5 |
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . | 0,4 | 0,4 | 0,4 | 0,2 | 0,3 | 0,4 |
| 6. **Макуха** (сонечнікавая, ільняная) . | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,2 | 0,1 |
| 7. **Мінеральная сумесь № 1** (гл. рацыён для кныроў) . . . . . | 40 *г* | 04 *г*. | 40 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* |

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ ХАЛАСТЫХ МАТАК (у *кг*)

### б) Для бульбяна-караньплодных раёнаў

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывая вага 80 -100 *кг*) | | | | Дарослай матцы (жывая вага 130—140 *кг.*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам і караньплод. | 2-ы прым. з сенам і бульб. | 3-ці прым. з сенам і сілосам. | | 1-ы прым. з сенам і караньплод. | 2-і прым. з сенам і бульб. | 3-ці прым. з сенам і сілосам | |
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, віка, сэрадэля і інш.) . . . | 0,75 | 0,75 | 0,5 | — | 1,0 | 1,0 | 0,5 | — |
| 2. **Караньплоды** (карм. буракі, морква, бручка, турнэпс і інш.) | 5,0 | — | — | — | 6,0 | — | — | — |
| 3. **Бульба** (запараная, вараная, сілосаваная) . . . . . . | — | 3,0 | — | — | — | 4,0 | — | — |
| 4. **Сілос** (з канюшыны, атавы, аўсян. вікі, сонечнікавы, кукурузны) . . . . . . . | — | — | 2,5 | — | — | — | 3-4,0 | — |
| 5. **Трава** (на пашы або ў скошаным выглядзе, канюшына, віка і інш.). . . . . . . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывая вага 80-100 *кг*) | | | | Дарослай матцы (жывая вага 130—140 *кг.*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон | У стойлавы сезон | | | У пашавы сезон |
| | 1-ы прым. з сенам і караньплод. | 2-гі прым. з сенам і бульб. | 3-ці прым. з сенам і сілосам | | 1-ы прым. з сенам і караньплод. | 2-гі прым. з сенам і бульба. | 3-ці прым. з сенам і сілосам | |
| 6. **Дробленае зерне злакавых** авёс, ячмень, жыта, проса і інш.) . . . . . . . . | 1,0 | 0,7 | 1,5 | 1,0 | 0,5 | 0,3 | 0,75 | 0,5 |
| 7. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) | 0,5 | 0,5 | 0,4 | 0,4 | 0,2 | 0,1 | 0,3 | 0,3 |
| 8. **Макуха** (ільняная, сонечнікавая, канапляная). . . . . | 0,3 | 02, | 0,2 | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 |
| 9. **Мінеральная сумесь № 2** (гл. рацыён для кныроў) . . . | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* | 30 *г* |

**Увагі.** 1. У зерневых раёнах сілос можа быць заменены гарбузамі, паўцукровымі і цукровымі буракамі.

2. Макуху і вотрубі можна замяніць дробленым зернем бабовых (гароху, вікі, чачавіцы) або адыходамі бабовых.

3. Замест аднэй бульбы або караньплодаў можна даваць сумесь іх (3 *кг* караньплодаў і 2 *кг* бульбы)

4. Частку караньплодаў і бульбы можна замяніць сілосам, даючы яго 1,5 *кг*

## Як вызначыць цечку ў свіней

1. Цечка ў свіней выражаецца ў апуханні і пачырваненні знадворных палавых органаў і выдзялення з іх слізі, непакой маткі, у страце апетыту, прыганні на другіх свіней, узвізгванні.

2. Каб не дапускаць перагула матак, у якіх цечка праходзіць у скрытым стане, неабходна:
а) праганяць кныра па карыдоры свінарніка, у якім знаходзяцца халастыя або пакрытыя маткі; б) пад наглядам свінавода выпускаць кныра на прагулку разам з халастымі маткамі; в) на прагулку матак праганяць праз станкі з кнырамі.
Ва ўсіх гэтых трох выпадках кныр спыняецца каля матак, якія знаходзяцца ў ахвоце, ці маткі самі ідуць да кныра.

3. Цечка працягваецца 1—2 сутак, іншы раз і больш. Аднаўляецца цечка праз 20—27 дзён (у сярэднім 3 тыдні).

4. Пасля ад'ёма парасят цечка наступае на 2—3-і дзень, а пасля выкідыша—праз 8—10 дзён.
5. Перагуляўшых некалькі раз матак і страціўшых ахвоту трэба змясціць у станок

побач з кнырам, праз 1—2 дні пакрыць прымусова, прытрымліваючы за вушы, і калі паявіцца цечка (звычайна праз 1—2 дні) пакрыць у другі раз.

## Нагрузка на кныра

1. Маладым кныром за сезон не даваць больш 10—12 матак, а дарослым кныром—20—25 матак.

2. Даваць кныру ў дзень не больш адной маткі. Калі неабходнасць вымушае даць у адзін дзень кныру дзве маткі, то між садкамі зрабіць перапынак у 12 гадзін і ў наступны дзень злучкі не праводзіць

3. Добрых кнырой скарыстоўваць для злучкі не менш 5 год.

## Правілы злучкі

1. Пакрываць матку толькі ў часе цечкі праз 18—24 гадзіны пасля пачатку цечкі.

2. Племянных матак не пускаць у злучку да ад'ёма парасят. Непародзістых матак можна

пакрываць счакаўшы 5—6 тыдняў пасля апароса.

---

3. Не дапускаць падрад двух садак кныра на адну матку.

---

4. Ніколі не пакідаць на ноч кныра з маткай.

---

5. Злучку праводзіць заўсёды пад наглядам свінара і прымяняць пераважна ручны спосаб.

---

6. Злучаць лепшага кныра з лепшай маткай і адбіраць ад іх прыплод на племя.

---

7. Для злучкі кныра і матку выдзяляць у асобае памяшканне. Злучку праводзіць да кармлення.

---

8. У працягу 3—5 дзён пасля злучкі наглядаюць за пакрытай маткай і ў выпадку, калі ахвота працягваецца, пакрыць яе ў другі раз.

---

9. Каб унікнуць перагулаў матак, нагляданне за пакрытымі маткамі працягваць да паяўлення прызнакаў цяжарнасці, асабліва ў перыод наступлення чарговай цечкі (праз 3—4 тыдні пасля злучкі).

---

10. Не дапушчаць у злучку жывёл, якія маюць блізкае родства (бацька і дачка, брат

і сястра, матка і сын і т. д. да трэцяга пакалення).

---

11. Кожную злучку (за выключэннем паўторнай) запісваць у злучны журнал.
Пры захаванні паказаных вышэй тэрмінаў злучкі склад стада ў брыгадзе з 21 свінаматкай з прыплодам будзе такі (гл. таб. на стар. 105).

# VII

# ЗАХАВАННЕ І ВЫХОЎВАННЕ ПАРАСЯТ.

## Захаванне сысункоў да ад'ёма—важнейшая задача

Атрыманне моцных жыццяздольных парасят, захаванне і правільнае іх развіццё да ад'ёма з'яўляецца адказнейшым звяном барацьбы за выхаванне прамфінплана здачы таварнай прадукцыі.

Калі да ад'ёма мы будзем мець 9—10 моцных (10—12 *кг* жывой вагі) парасят на кожную матку, якая апарасілася, то давесьці гэтых парасят да 80—90 *кг* да васьмімесячнага ўзроста ўжо не прадстаўляе асобай цяжкасці

**У які перыяд супароснасці матку неабходна асабліва добра карміць**

Плод у чэраве свінні асабліва хутка развіваецца ў працягу 3-га і 4-га месяцаў цяжарнасці

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрыч. | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кныры-вытворнікі | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Маткі | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 | 21 |
| Парасяты 0—1 мес | — | 28 | 42 | 49 | 28 | — | — | 21 | 35 | — | — | — |
| „ 1—2 мес | — | — | 26 | 40 | 46 | 26 | — | — | 19 | 33 | — | — |
| „ 2—3 „ | — | — | — | 24 | 38 | 44 | 24 | — | — | 17 | 31 | — |
| „ 3—4 „ | — | — | — | — | 23 | 36 | 42 | 23 | — | — | 16 | 30 |
| „ 4—5 „ | 28 | — | — | — | — | 22 | 34 | 40 | 22 | — | — | 15 |
| „ 5—6 „ | 15 | 27 | — | — | — | — | 21 | 32 | 38 | 21 | — | — |
| „ 6—7 „ | — | 15 | 26 | — | — | — | — | 20 | 31 | 37 | 20 | — |
| „ 7—8 „ | — | — | 15 | 25 | — | — | — | — | 20 | 30 | 36 | 20 |
| „ 8—9 „ | 20 | — | — | 15 | 25 | — | — | — | — | 20 | 30 | 35 |
| Пагалоўе к пачатку месяца | 85 | 92 | 131 | 175 | 182 | 150 | 143 | 158 | 187 | 180 | 155 | 122 |
| Здача таварнай прадукцыі маладняка 8—9 мес. | 14 | — | — | 10 | 18 | — | — | — | — | 24 | 21 | 25 |
| Брак маткі | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 2 | 2 | — |
| Пагалоўе к канцу месяца | 71 | — | — | 165 | 164 | 150 | 143 | 158 | 185 | 154 | 132 | 97 |

(ад пакрыцця да апароса праходзіць каля 4 месяцаў); у 1-ы і 2-і месяцы плод свінні малы і на яго развіццё патрабуецца вельмі мала пажыўнага матэрыяла.

**Якія матэрыі асабліва неабходны для развіцця плода ў матцы**

Неабходна ўважліва сачыць за тым, каб у корме супаросной маткі, у асаблівасці ў другую палавіну цяжарнасці, было дастаткова бялка (не менш 200 г у суткі), мінеральных матэрый і вітамінаў. Без вітамінаў мінеральныя матэрыі не ўтвораць касці і бялок корма дрэнна скарыстаецца для роста.

Выключнае значэнне для нараджэння жыццяздольных парасят, далейшага іх здароўя і добрага роста маюць вітаміны А і Д. Гэтыя вітаміны знаходзяцца ў моцных і сакавітых кармох (гл. раней прыведзеную табліцу).

Пры адсутнасці вітаміна А ў корме супароснай маткі парасяты нараджаюцца слабымі, успрыймальнымі да ўсякіх захворванняў і нават у тых выпадках, калі яны нараджаюцца як быццам-бы здаровенькімі і даволі добрай вагі, яны хутка, праз 10—15—20 дзён робяцца вялымі, бледнымі і гінуць у вялікіх колькасцях.

Другі вітамін, прысутнасць якога крайне неабходна ў корме супаросных, падсосных матак і маладняка, вітамін Д.

Пры адсутнасці вітаміну Д у корме супаросных і падсосных матак пачынае праяўляцца

ў парасят рахіт з вельмі ранняга ўзроста, кал яны знаходзяцца яшчэ пад маткай, з першай або другой дэкады жыцця. У падсвінкаў звычайна рахіт выражаецца хваробай ног (цяжка ўстаюць на ногі або зусім не ўстаюць), скрыўленнем ног і спіны. У сысункоў рахіт праяўляецца галоўным чынам у выглядзе страты прытомнасці, сударгаў, прыпадкаў, якія часта канчаюцца смерцю.

## Ад чаго бываюць выкідышы і мёртванароджаныя парасяты

Выкідышы і мёртванароджаныя парасяты ў большасці выпадкаў бываюць па віне людзей, якія няправільна кормяць супаросных матак, дрэнна з імі абыходзяцца.

Дача супаросным маткам, асабліва ў друг перыод цяжарнасці, недобраякасных кармоў, якія моцна заплесневелі, закіслі, мёрзлыя, вельмі халодныя часта бывае прычынай скідвання маткамі плода. Усякія пабоі, асабліва цвёрдымі прадметамі, палкамі, віламі, лапатамі, удары аб касякі дзвярэй пры пуску і загоне матак без усякага парадку, спатыканне і паданне супаросных матак на слізкай бруднай падлозе—вельмі шкодна адбіваецца на матцы і часта бываюць прычынай недаразвітых, мёртванароджаных парасят, а іншы раз і выкідыша ўсяго памёта.

Запазненне з раздачай корму, якое выклікае вялікі непакой матак (яны часта падымаюцца на заднія ногі і, абапіраючыся пярэднімі аб перагародку станка, прастойваюць у такім становішчы даволі працяглы час), таксама бывае прычынай выкідышаў.

**НОРМЫ ДЛЯ СУПАРОСНАЙ МАТКІ** (проф. І. С. Папова)
**Даваць у дзень**

| Жывая вага (у *кг*) | Ператраўнага бялка не менш (у *кг*) | Кармавых адзінак (у *кг*) |
|---|---|---|
| а) Для маладых растучых матак | | |
| 80—100 | 0,28 | 3,2—3,5 |
| 100—120 | 0,29 | 3,5—3,8 |
| 130—150 | 0,30 | 3,7—4,0 |
| 160—190 | 0,30 | 3,7—4,2 |
| б) Для дарослых матак | | |
| 130—140 | 0,16 | 2,0 |
| 140—160 | 0,17 | 2,3 |
| 160—180 | 0,19 | 2,5 |
| 180—200 | 0,21 | 2,8 |
| 200—220 | 0,22 | 3,2 |
| 220—240 | 0,24 | 3,5 |

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ СУПАРОСНЫХ МАТАК (у *кг*)

а) Для зерневых раёнаў

| Назва кармоў | Маладой растучай маткі (жывой вагі 80—100 *кг*) | | | | Дарослай маткі (жывой вагі 130—140 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і прым. | Пашавы сезон | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і прым. | Пашавы сезон |
| 1. **Сена бабовых** (люцэрна, віка, канюшына і інш.) . . . . | 1,0 | 0,5 | — | — | 1,5 | 0,5 | — | — |
| 2. **Сілос** (кукурузны, з гарбузоў і інш.) . . | — | 2,0 | — | — | — | 3,0 | — | — |
| 3. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрна, канюшына, віка і інш.). . . . . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 4. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, кукуруза, проса і інш. сумесь з 2—3 зерневых кармоў) . . . . | 1,8 | 1,8 | — | 2,0 | 1,0 | 0,8 | — | 0,8 |
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . . | 0,7 | 0,4 | — | — | 0,2 | 0,4 | — | 0,2 |
| 6. **Макуха** (сонечвікавая, ільняная) . . . | 0,2 | 0,2 | — | 0,1 | 0,1 | 0,1 | — | 0,1 |
| 7. **Мінеральная сумесь № 1** (гл. рацыёны для кныроў) . . . . | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 30 *г* | 30 *г* | — | 30 *г* |

### б) Для бульбяна-кораньплодных раёнаў

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывой вагі 80—100 кг) | | | | Дарослай матцы (жывой вагі 130—140 кг) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і прым. | Пашавы сэзон | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і прым. | Пашавы сезон |
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, вікав., серадэла, і інш.) . . . . . . . | 0,75 | 0,75 | 0,5 | — | 1,0 | 1,0 | 0,5 | — |
| 2. **Кораньплоды** (карм. буракі, морква, бручка, турнэпс і інш.) . | 4,0 | — | — | — | 4,0 | — | — | — |
| 3. **Бульба** (запараная, вараная або сілосаваная). . . . . . . . . | — | 2,5 | — | — | — | 3,0 | — | — |
| 4. **Сілос** (з канюшынавай атавы. аўсяна-вікавай, сонечнікавай і інш.). | — | — | 2,0 | — | — | — | 3,0 | — |
| 5. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (канюшына, віка, серадэля і інш.). . . . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 6. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, жыта, проса і інш.). Сумесь з 2—3 кармоў) . . . . . . . . | 1,6 | 1,4 | 1,8 | 2,0 | 0,4 | 0,2 | 0,8 | 0,8 |

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывой вагі 80—100 *кг*) | | | | Дарослай матцы (жывой вагі 130—140 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і прым. | Пашавы сезон | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і сілосам | 3-і рым. | Пашавы сезон |
| 7. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . . . | 0,5 | 0,4 | 0,4 | 0,2 | 0,4 | 0,2 | 0,4 | 0,2 |
| 8. **Макуха** (сонечнікавая і ільняная) . . . . . | 0,3 | 0,3 | 0,3 | 0,1 | 0,2 | 0,2 | 0,1 | 0,1 |
| 9. **Мінеральная сумесь № 2** (гл. рацыёны для кныроў) . . . . | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 40 *г* | 30 | 30 *г* | 30 | 30 *г* |

**Увагі** 1. У зерневых раёнах увесь сілос мож быць заменен гарбузамі, паўцукровымі ці цукровымі буракамі.

2. Макуха і вотрубі могуць быць заменены дробленым зернем бабовых (гароху, вікі, соі, чачавіцы або адыходамі бабовых).

3. Замест адпэй бульбы ці караньплодаў можна даваць сумесь з бульбы і караньплодаў (3 *кг* караньплодаў і 2 *кг* бульбы).

4. З другой палавіны супароснасці вельмі пажадана 200 *г* канцэнтратаў замяніць на такую-ж колькасць мяса-касцянай або рыбнай мукі.

Пры кармленні супаросных матак кармамі, у якіх адсутнічаюць вітаміны, часта нараджаюцца не толькі вельмі слабыя парасяты, але і мёртвыя.

## Чаму іншы раз маткі-парадзіхі паядаюць сваіх парасят

Іншы раз маткі ў часе самага апароса, або праз некаторы час паядаюць сваіх парасят.

Найбольш часта маткі паядаюць сваіх парасят дзякуючы няправільнаму кармленню іх, ад таго што ў корме нехапае важных матэрый— мінеральных, вітамінаў,—а іншы раз ад таго, што маткі прывыклі есці сырое мяса або выпадкова елі сырое мяса адразу-ж пасля апароса, напрыклад матка з'ела непрыбраны паслед, непрыбраных неданоскаў, мёртванароджаных. Для папярэджання гэтага неабходна:

1. Правільна карміць супаросных матак, асабліва клапоцячыся аб тым, каб яны былі поўнасцю задаволены бялкамі, вітамінамі і мінеральнымі матэрыямі.

2. Ніколі не даваць маткам, асабліва супаросным, сырога мяса.

3. Строга сачыць за парадкам у станку ў часе апароса матак, асабліва пераводзячых, і своечасова прыбіраць паслед, мёртвана-

роджаных і ўсякія кавалачкі пупачных канацікаў, пленак і да гэтага падобных астач ад радоў.

## Апарос

**Колькі матка ходзіць супароснай.** Ад пакрыцця маткі кныром да апароса праходзіць звычайна 114—120 дзён, або ў сярэднім 3 месяцы, 3 тыдні і 3 дні. Бываюць выпадкі, калі маткі носяць некалькі менш 114 дзён і некалькі больш 120 дзён і пры гэтым нараджаюць упаўне здаровых парасят.

## Як вызначыць дзень апароса маткі

Дзень апароса маткі перш за ўсё вызначаецца прыблізна па так званаму календара цяжарнасці. У гэтым календары ўжо разлічана ў якім месяцы і якога чысла павінна парасіцца матка, калі вядомы чысло і месяц яе пакрыцця.

## Прызнакі хуткага апароса маткі

Вызначыць больш дакладна час апароса маткі можна па стану вымя маткі, па колькасці выдзяляемага саскамі малака. Звычайна перад апаросам дні за 2—3 з некаторых саскоў

можна **выдаіць кропелькі** малака. Колькасць выдойваемага малака тым большая, чым бліжэй апарос. За дзень перад апаросам амаль з усіх саскоў можна выціснуць белыя кроплі малака. А гадзін за 10—12 з саскоў выціскаецца ўжо шмат малака і яно пры нацягванні саска б'е струменчыкам. Як толькі з'явілася малако ў вымі, трэба ўважліва сачыць за маткай, а пры матцы, у якой малако б'е струменчыкам, заўсёды павінен быць дзяжурны, таму што яна можа пачаць парасіцца ў любы час, які астаўся да апароса,—8—12 гадзін.

## Як падрыхтаваць памяшканне для апароса маткі

Перш за ўсё памяшканне, дзе паросіцца матка, павінна быць **чыстае.** Для гэтага яго сцены, і падлогу неабходна добра выскрабці жалезным скрабком (калі памяшканне запушчана), вымыць гарачым шчолакам і лепш **за ўсё чыстыя ўжо сцены пабяліць свежай гашанай вапнай.** Такую прыборку ў станку трэба рабіць загадзя дзён за 4—5 да апароса маткі.

Потым матачнае памяшканне павінна быць абсталявана ўздоўж трох сцен (выключаючы пярэднюю) станка **ахоўнымі бар'ерчыкамі.**

Ахоўныя бар'ерчыкі ў матачных станкох абавязковы.

Ахоўныя бар'ерчыкі—гэта злегі, рэйкі, прыбітыя на стоўбіках да падлогі на вышыні 20—25 *см* і на такой-жа адлегласці ад сцяны станка.

У матчыным станку для апароса павінен быць **чысты подсціл.**

## Што павінен падрыхтаваць свінавод для прыёма парасят пры апаросе

Для прыёма парасят, якія нараджаюцца, свінавод павінен падрыхтаваць:

1. Чысты кавалак мяшка, палатна або ручнік з грубога палатна; гэта патрэбна для выцірання слізі з нованароджаных парасят.
2. Невялікія чыстыя нажнічкі для абрэзкі пупавіны.
3. Дэзынфекцыйную вадкасць для прамыўкі пупавінкі парасяці пасля яе абрэзкі; такой вадкасцю можа быць 2-процантны раствор крэоліна, $^{1}/_{2}$-процантнай раствор лізола, 5-процантны раствор карболкі.
4. Талерачку, місачку або сподачак для налівання ў яго дэзынфекцыйнай вадкасці ў часе самой работы.
5. Спецыяльную скрыню або кошык з чыстай подсцілкай на дне для адсадкі народжаных парасят.
6. Два вядры— адно з цёплай вадой, другое з варам.

## КАЛЯНДАР ЦЯЖАР

| Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Студзень | | Люты | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | |
| 1 | 24/IV | 1 | 25/V | 1 | 22/VI | 1 | 23/VII | 1 | 22/VIII | 1 | 22/IX |
| 2 | 25 | 2 | 26 | 2 | 23 | 2 | 24 | 2 | 23 | 2 | 23 |
| 3 | 26 | 3 | 27 | 3 | 24 | 3 | 25 | 3 | 24 | 3 | 24 |
| 4 | 27 | 4 | 28 | 4 | 25 | 4 | 26 | 4 | 25 | 4 | 25 |
| 5 | 28 | 5 | 29 | 5 | 26 | 5 | 27 | 5 | 26 | 5 | 26 |
| 6 | 29 | 6 | 30 | 6 | 27 | 6 | 28 | 6 | 27 | 6 | 27 |
| 7 | 30 | 7 | 31 | 7 | 28 | 7 | 29 | 7 | 28 | 7 | 28 |
| 8 | 1/V | 8 | 1/VI | 8 | 29 | 8 | 30 | 8 | 29 | 8 | 29 |
| 9 | 2 | 9 | 2 | 9 | 30 | 9 | 31 | 9 | 30 | 9 | 30 |
| 10 | 3 | 10 | 3 | 10 | 1/VII | 10 | 1/VIII | 10 | 31 | 10 | 1/X |
| 11 | 4 | 11 | 4 | 11 | 2 | 11 | 2 | 11 | 1/IX | 11 | 2 |
| 12 | 5 | 12 | 5 | 12 | 3 | 12 | 3 | 12 | 2 | 12 | 3 |
| 13 | 6 | 13 | 6 | 13 | 4 | 13 | 4 | 13 | 3 | 13 | 4 |
| 14 | 7 | 14 | 7 | 14 | 5 | 14 | 5 | 14 | 4 | 14 | 5 |
| 15 | 8 | 15 | 8 | 15 | 6 | 15 | 6 | 15 | 5 | 15 | 6 |
| 16 | 9 | 16 | 9 | 16 | 7 | 16 | 7 | 16 | 6 | 16 | 7 |
| 17 | 10 | 17 | 10 | 17 | 8 | 17 | 8 | 17 | 7 | 17 | 8 |
| 1 | 11 | 18 | 11 | 18 | 9 | 18 | 9 | 18 | 8 | 18 | 9 |
| 19 | 12 | 19 | 12 | 19 | 10 | 19 | 10 | 19 | 9 | 19 | 10 |
| 20 | 13 | 20 | 13 | 20 | 11 | 20 | 11 | 20 | 10 | 20 | 11 |
| 21 | 14 | 21 | 14 | 21 | 12 | 21 | 12 | 21 | 11 | 21 | 12 |
| 22 | 15 | 22 | 15 | 22 | 13 | 22 | 13 | 22 | 12 | 22 | 13 |
| 23 | 16 | 23 | 16 | 23 | 14 | 23 | 14 | 23 | 13 | 23 | 14 |
| 24 | 17 | 24 | 17 | 24 | 15 | 24 | 15 | 24 | 14 | 24 | 15 |
| 25 | 18 | 25 | 18 | 25 | 16 | 25 | 16 | 25 | 15 | 25 | 16 |
| 26 | 19 | 26 | 19 | 26 | 17 | 26 | 17 | 26 | 16 | 26 | 17 |
| 27 | 20 | 27 | 20 | 27 | 18 | 27 | 18 | 27 | 17 | 27 | 18 |
| 28 | 21 | 28 | 21 | 28 | 19 | 28 | 19 | 28 | 18 | 28 | 19 |
| 29 | 22 | — | — | 29 | 20 | 29 | 20 | 29 | 19 | 29 | 20 |
| 30 | 23 | — | — | 30 | 21 | 30 | 21 | 30 | 20 | 30 | 21 |
| 31 | 24 | — | — | 31 | 22 | — | — | 31 | 21 | — | — |

## НАСЦІ СВІНЕЙ

| Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса | Час злучкі | Час апароса |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | Кастрычнік | | Лістапад | | Снежань | |
| 1 | 22/X | 1 | 22/XI | 1 | 23/XII | 1 | 22/I | 1 | 22/II | 1 | 24/III |
| 2 | 23 | 2 | 23 | 2 | 24 | 2 | 23 | 2 | 23 | 2 | 25 |
| 3 | 24 | 3 | 24 | 3 | 25 | 3 | 24 | 3 | 24 | 3 | 26 |
| 4 | 25 | 4 | 25 | 4 | 26 | 4 | 25 | 4 | 25 | 4 | 27 |
| 5 | 26 | 5 | 26 | 5 | 27 | 5 | 26 | 5 | 26 | 5 | 28 |
| 6 | 27 | 6 | 27 | 6 | 28 | 6 | 27 | 6 | 27 | 6 | 29 |
| 7 | 28 | 7 | 28 | 7 | 29 | 7 | 28 | 7 | 28 | 7 | 30 |
| 8 | 29 | 8 | 29 | 8 | 30 | 8 | 29 | 8 | 1/III | 8 | 31 |
| 9 | 30 | 9 | 30 | 9 | 31 | 9 | 30 | 9 | 2 | 9 | 1/IV |
| 10 | 31 | 10 | 1/XII | 10 | 1/I | 10 | 31 | 10 | 3 | 10 | 2 |
| 11 | 1/XI | 11 | 2 | 11 | 2 | 11 | 1/II | 11 | 4 | 11 | 3 |
| 12 | 2 | 12 | 3 | 12 | 3 | 12 | 2 | 12 | 5 | 12 | 4 |
| 13 | 3 | 13 | 4 | 13 | 4 | 13 | 3 | 13 | 6 | 13 | 5 |
| 14 | 4 | 14 | 5 | 14 | 5 | 14 | 4 | 14 | 7 | 14 | 6 |
| 15 | 5 | 15 | 6 | 15 | 6 | 15 | 5 | 15 | 8 | 15 | 7 |
| 16 | 6 | 16 | 7 | 16 | 7 | 16 | 6 | 16 | 9 | 16 | 8 |
| 17 | 7 | 17 | 8 | 17 | 8 | 17 | 7 | 17 | 10 | 17 | 9 |
| 18 | 8 | 18 | 9 | 18 | 9 | 18 | 8 | 18 | 11 | 18 | 10 |
| 19 | 9 | 19 | 10 | 19 | 10 | 19 | 9 | 19 | 12 | 19 | 11 |
| 20 | 10 | 20 | 11 | 20 | 11 | 20 | 10 | 20 | 13 | 20 | 12 |
| 21 | 11 | 21 | 12 | 21 | 12 | 21 | 11 | 21 | 14 | 21 | 13 |
| 22 | 12 | 22 | 13 | 22 | 13 | 22 | 12 | 22 | 15 | 22 | 14 |
| 23 | 13 | 23 | 14 | 23 | 14 | 23 | 13 | 23 | 16 | 23 | 15 |
| 24 | 14 | 24 | 15 | 24 | 15 | 24 | 14 | 24 | 17 | 24 | 16 |
| 25 | 15 | 25 | 16 | 25 | 16 | 25 | 15 | 25 | 18 | 25 | 17 |
| 26 | 16 | 26 | 17 | 26 | 17 | 26 | 16 | 26 | 19 | 26 | 18 |
| 27 | 17 | 27 | 18 | 27 | 18 | 27 | 17 | 27 | 20 | 27 | 19 |
| 28 | 18 | 28 | 19 | 28 | 19 | 28 | 18 | 28 | 21 | 28 | 20 |
| 29 | 19 | 29 | 20 | 29 | 20 | 29 | 19 | 29 | 22 | 29 | 21 |
| 30 | 20 | 30 | 21 | 30 | 21 | 30 | 20 | 30 | 23 | 30 | 22 |
| 31 | 21 | 31 | 22 | — | — | 31 | 21 | — | — | 31 | 23 |

## Догляд за парадзіхай-маткай

У часе апароса, крык, шум у свінарніку недапусцімы. У карыце матачнага станка павінна быць чыстая, свежая, пакаёвай тэмпературы вада.

Тэмпература самога памяшкання, дзе адбываецца апарос і жыццё ў першы тыдзень парасят, не павінна быць ніжэй 10—12° С і вышэй 15° С. Калі роды праходзяць нармальна, дапамагаць матцы ў часе родаў зусім не трэба. Справа свінавода—сваечасова падбіваць і ўбіраць тых, якія ўжо нарадзіліся, парасят. У часе апароса дзяжурны свінавод павінен быць увесь час у станку і выходзіць з яго толькі для выпаса выцертага з убраным пупком парасяці ў скрыню, якая павінна стаяць не ў станкох маткі, а ў карыдоры каля станка.

Часты ўваход і выхад свінавода са станка да пачатка апароса недапусцімы: матцы трэба даць па магчымасці больш супакою. Пасля скончэння родаў дзіцячае месца, якое выдалілася з маткі, адразу-ж выносіцца са станка ў спецыяльную скрыню, зад маткі падмываецца цёплай вадой.

## Прыём нараджаючыхся парасят

У толькі што вышаўшага з похвы парасяці перш за ўсё неабходна зняць з мордачкі плёнкі і слізь. Абрэзаць чыстымі нажніцамі пупачны

канацік на адлегласці 5—6 *см* ад брушка і затым добра выцерці ўсё яго цельца чыстым ручнікам, мешкавінай або кавалкам чыстага палатна. Пасля гэтага парася адносіцца ў скрыню. Пры адсутнасці нажніц пупавіну магчыма адшчыпваць чыстымі нагцямі. Адшчыпванне пупкоў нагцямі не дае дрэнных рэзультатаў толькі ў тым выпадку, **калі ногці чыстыя, калі ўся гразь з-пад ногцяў загадзя выдалена і рукі старанна вымыты мылам** і спаласнуты дызэнфекцыйнымі вадкасцямі.

## Калі першы раз падсаджваюць парасят да маткі для ссання

Калі працягласць родаў у маткі нармальна, г. зн. не больш $1^1/_2$—2 гадзіны, то парасят у першы раз трэба падсадзіць для ссання пад матку, калі ўжо роды скончыліся, месца вышла і прыбрана, матка падмыта. Пры зацяжных родах парасят трэба пускаць пад матку для для першага ссання да сканчэння родаў. І чым слабей народжаныя парасяты, тым хутчэй іх трэба пускаць для ссання пад матку. Асабліва слабенькіх парасят, нават пры нармальнай расцягнутасці родаў, трэба пускаць пад матку для ссання, як толькі яны прасохнуць. Трэба мець на ўвазе, што галаданне парасят у першыя часы і дні жыцця дзейнічае на іх пагубна.

## Колькі парасят пакідаць пад маткай, калі іх нарадзілася многа

Звычайна пад маткай пакідаюць столькі парасят, колькі ў яе добрых, здаровых, нармальна выдзяляючых малако саскоў. Калі, напрыклад, у маткі 12 саскоў, з іх 2 слаба развітых, безмалочных, то значыцца пад такой маткай магчыма пакінуць толькі 10 парасят, не болей. Самая большая нагрузка матцы—12 сысункоў.

## Што рабіць з парасятамі, якія не змяшчаюцца пад маткай

Пры вельмі вялікіх памётах парасят, якія не змяшчаюцца пад сваімі маткамі, лепш за ўсё змясціць пад маткамі, якія прывялі мала парасят і апарасіліся адначасова з многадзетнымі маткамі. Трэба, як кажуць, ураўняць памёты.

Падсадку пад чужых матак лепш за ўсё рабіць яшчэ да першага ссання парасят. Парасят ад розных матак, прызначаных да аднэй маткі, змяшчаюць у адну скрыню, і пратрымаўшы іх разам $^1/_2$—1 гадзіну, падпускаюць пад матку для ссання. Іншы раз такім прыёмам (змешванне ў скрыні чужых парасят з парасятамі данай маткі) удаецца падсадзіць маленькіх толь-

кі што народжаных парасят нават да 2—3 дзённых парасят.

У тых выпадках, калі няма адпаведнай маткі, пад якую можна было-б падсадзіць лішніх парасят, іх бяруць на штучнае выкармліванне звычайна кароўім малаком.

## Кармленне падсоснай маткі ў першыя дні пасля апароса

У першы дзень пасля апароса матцы даюць вельмі невялікую колькасць корма ў выглядзе балтушкі. Зразу пасля апароса спраўная матка хоча піць, а не есці; таму чыстая, пакаёвай тэмпературы вада павінна быць у станку ў часе апароса і толькі што апарасіўшайся маткі.

Калі матка нармальна ўкормлена, добра наліла вымя, то ў першыя суткі пасля апароса даволі даць ёй у выглядзе балтушкі 0,2 *кг* пшанічных вотрубяй або ячменькі, аўсянкі. На наступныя суткі такой матцы можна даць 0,5 *кг*, на трэція суткі 1 *кг* і так пры паступовым павялічэнні дачы корма і ўвядзенні ў яе паступова сочных і грубых кармоў к дзесятаму дню пасля апароса падсосная матка павінна атрымліваць сваю поўную дачу, якая адпавядае норме, роўнай для маткі ў 130—140 *кг* жывой вагі каля 4—4,5 кармавой адзінцы.

Корм падсоснай маткі павінен быць вялікі, багаты бялкамі, вітамінамі і мінеральнымі матэрыямі. Таму ў корме падсосных матак абавязкова павінны быць апрача зерневых кармоў (размол іх) вотрубі, адыходы бабовых, невялікая колькасць макухі і абавязкова зімой сочныя кармы і сена бабовых, а летам трава.

## Прагулкі

Без правільна арганізаваных прагулак немагчыма вырасціць здаровых парасят і дабіцца нізкіх адыходаў маладняка.

**Летам** парасяты сысункі павінны быць увесь час на паветры і лепш за ўсё падсосных матак з парасятамі трымаць летам пад навесамі ў спецыяльных загародках.

**Зімой** парасят трэба штодзённа выпушчаць на прагулку. У марозны час маленькіх парасят выпускаць на двор на 2—3 мінуты адзін-два разы ў дзень.

Толькі пры вялікіх ветрах, мяцеліцах, вялікіх марозах (ніжэй 20°) і халодных дажджах трэба прагулкі адмяняць.

Для зімовых прагулак маленькім парасятам неабходна будаваць спецыяльныя выгульныя пляцоўкі з высокімі навесамі.

Пляцоўку трэба ачышчаць ад снега і ўсціласць подсцілам.

## КАРМАВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ ПАДСОСНАЙ МАТКІ.

(проф. І. С. Папова)

### Даваць у дзень

а) Для маладых растучых матак

| Жывая вага (у кг) | Ператраўнага бялка не менш (у кг) | Кармовых адзінак (у кг) |
|---|---|---|
| 100—120 | 0,50 | 5,0—6,5 |
| 130—150 | 0,54 | 6,0—6,3 |
| 160—190 | 0,57 | 6,2—6,7 |
| 200—240 | 0,59 | 6,5—7,0 |

б) Для дарослых матак

| Жывая вага (у кг) | Ператраўнага бялка не менш (у кг) | Кармавых адзінак (у кг) |
|---|---|---|
| 130—140 | 0,41 | 4,2 |
| 160 | 0,44 | 4,8 |
| 180 | 0,47 | 5,2 |
| 200 | 0,50 | 5,5 |
| 220 | 0,53 | 5,8 |
| 240 | 0,55 | 6,2 |

Штодзённыя прагулкі **супаросных матак** абавязковы. На прагулкі не выпускаюцца супаросныя маткі ў апошнія 2—3 дні супароснасці. Маразы, холад, нават невялікі дождж не адмяняюць прагулак супаросных матак. Не выпускаюць іх на прагулку толькі ў часе мяцеліцы, вялікіх дажджоў, галалёду. Летам прагулкі праводзяцца раніцай і ўвечары, калі яшчэ не наступіла або ўжо спала сонечная спякота. Зімой маткі прагульваюцца (ходзяць) ад 30 мінут да 1 гадзіны.

**Падсосныя маткі** таксама выпушчаюцца на прагулку штодзённа, спачатку (першыя 5—10

# ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ ПАДСОБНЫХ МАТАК (у *кг*)

## а) Для зернавых раёнаў

| Назва кармоў | Маладой растучай матцы (жывая вага 80 – 100 *кг*) | | | | Дарослай матцы (жывая вага 130–140 *кг*) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і каранюпл. | 3-і прым. | Пашавы сезон | 1-і прым. з сенам | 2-і прым. з сенам і каранюпл. | 3-і прым. | Пашавы сезон |
| 1. **Сена бабовых** (люцэрна, канюшына, віка і інш.) | 1,0 | 0,5 | — | — | 1,0 | 0,5 | — | — |
| 2. **Караньплоды** (гарбузы, паўцукровыя буракі, цукровыя буракі і інш.) | — | 4,0 | — | — | — | 5,0 | — | — |
| 3. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрна, канюшына, віка і інш.) | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 4. **Драбленае зерне злакавых** (аўсянка, ячменная дзерць, кукурузная дзерць, просная мука і інш.) Сумесь з 2-3 мучністых кармоў. | 3,0 | 2,5 | — | 2,8 | 2,2 | 1,5 | — | 2,0 |
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя і жытнія) | 1,0 | 1,2 | — | 1,0 | 1,0 | 1,0 | — | 1,0 |
| 6. **Макуха** (сонічнікавая, ільняная) | 0,5 | 0,5 | — | 0,3 | 0,3 | 0,5 | — | 0,2 |
| 7. **Мінеральная сумесь № 1** | 40*г* | 40*г* | 40*г* | 40*г* | 30*г* | 30*г* | — | 30*г* |

## б) Для бульбяна-караньплоднfых раёнаў

| Назва кармоў | 1-ы прым. з сенам і караньплод мі. | 2-і прым, з сенам і бульбай | 3-і прым. з сенам, караньпл. і бульбай | Трава на пашы | 1-і прым. з сенам і караньпл. | 2-і прым. з сенам і бульбай | 3-і п. ым. з сенам і караньпл і бульбай. | Трава на пашы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, віка, серадэля і інш.) . . . . | 1,75 | 0,75 | 0,75 | — | 1,0 | 1,0 | 1,0 | — |
| 2. **Караньплоды** (карм. буракі, морква, бручка і інш.) . . . . . | 5,0 | — | 3,0 | — | 6,0 | — | 4,0 | — |
| 3. **Бульба** . . . . . . | — | 3,0 | 2,0 | — | — | 4,0 | 2,0 | — |
| 4. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (канюшына, віка, серадэля і інш.) . . . | — | — | — | уволю | — | — | — | уволю |
| 5. **Дробленае зерне злакавых** (аўсянка, ячменная дзерць, жытная дзерць, мука і інш. сумесь з 2—3 мучністых кармоў) . . . | 2,5 | 2,0 | 2,0 | 2,0 | 1,5 | 1,5 | 1,5 | 2,0 |
| 6. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . . . . | 1,0 | 1,5 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,2 |
| 7. **Макуха** (ільляная, сонечні канапляная). . | 1,5 | 0,5 | 0,5 | 0,3 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,2 |
| 8. **Мінеральн. сумесь №2** | 40 г | 40 г | 40 г | 40 г | 30г | 30г | 30г | 30г |

**Заўвага да кармавых дач**. 1. Макуха і вотрубі могуць быць заменены дробленым зернем бабовых (гароха, вікі, чачавіцы) або адыходамі бабовых.

2. Вельмі карысна ў дачы падсоснай матцы частку мучністага корма (250 г) замяняць на такую-ж коль асць мяса-касцянай або рыбнай мукі.

# КОЛЬКАСЦЬ КАРМОЎ, ПАТРЭБНАЯ НА ГОД НА АДНУ МАТКУ БЕЗ ПАРАСЯТ

## а) У зерневых раёнах

| Назва кармоў | На маладую растучую матку жывой вагі 80—100 кг | На каро́слую матку жывой вагі 130—140 кг |
|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, соі, вікі і інш.) без сілоса | 2,10 ц | 2 85 ц |
| з сілосам | 1,10 „ | 1,10 „ |
| 2. **Сілоса** (з гарбузоў, кукурузнага і інш.) | 3,00 „ | 4,50 „ |
| 3 **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрны, канюшыны, соі і інш.) | 9,00 „ | 9,00 „ |
| 4. **Караньплодаў** (гарбузоў, паўцукровых або цукровых буракоў для падсоснай маткі) | 2,40 „ | 3,00 „ |
| 5. **Зерня злакавых** (аўса, ячменю, кукурузы, проса і інш. сумесі з 2—3 зерневых кармоў) без сілоса | 7,4[illegible] „ | 4,15 „ |
| з сілосам | 7,00 „ | 3,40 „ |
| 6. **Вотрубей** (пшанічных, жытвіх). | 2,10 „ | 1,75 „ |
| 7. **Макухі** (сонечнікавай, ільнянай) | 0,80 „ | 0,65 „ |
| 8. **Мінеральнай сумесі № 1** (4 часткі молатага вапняка або крэйды і 2 часткі солі) | 0,15 „ | 0,10 „ |

б) У бульбяна-караньплодных раёна

| Назва кармоў | На маладую растучую матку жывой вагі 80—100 *кг* | На дарослую матку жывой вагі 130—140 *кг* |
|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (канюшыны, вікі, сераделі і інш.) без сілоса | 1,60 *ц* | 2,10 *ц* |
| з сілосам | 1,20 „ | 1,40 „ |
| 2. **Караньплодаў** (кармав. буракоў, морквы, бручкі і інш.) | 9,30 „ | 11,40 „ |
| 3. **Або бульбы** (запаранай, варанай, сілосаванай) | 5,70 „ | 7,20 „ |
| 4. **Або сілоса** (канюшынавай атавы, бурачнага бацвіння і інш.) | 3,00 „ | 4,50 „ |
| 5. **Або караньплодаў** | 4,65 „ | 5,70 „ |
| і бульбы | 2,85 „ | 3,60 „ |
| 6. **Зерне злакавых** (аўса, жыта, проса, ячменю і інш.): | | |
| з караньплодамі | 6,42 „ | 3,00 „ |
| з бульбай | 5,80 „ | 2,65 „ |
| з сілосам | 6,55 „ | 3,50 „ |
| 7. **Вотрубяй** (пшанічных, жытніх) | 2,00 „ | 1,90 „ |
| 8. **Макухі** (ільлянай, сонечнікавай) | 1,00 „ | 0,75 „ |
| 9. **Мінеральнай сумесі № 2** (4 часткі молатага вапняка або крэйды, 4 часткі касцянай мукі, 2 часткі солі) | 0,15 „ | 0,10 „ |

дзён пасля апароса) адны, без парасят, а потым з парасятамі і на больш працяглы час без парасят. Зімой падсосныя маткі прагульваюцца ў дні, калі мароз не больш 10°, два разы ў дзень, кожны раз 20—25 мінут. У сільныя маразы, асабліва пры глыбокім снегу на прагульнай дарожцы, матак, якія кормяць парасят, трэба выгульваць вельмі асцярожна, выпускаючы іх на 5—7 мінут, увесь час наглядаючы за вымем, каб яго не прымарозіць, не застудзіць. У асабліва сільныя маразы (ды яшчэ з ветрам) матак, якія кормяць парасят, зусім не трэба выпушчаць на прагулку ва двор; іх можна прагульваць па карыдоры свінарніка або ў асобых памяшканнях.

## Мінеральная падкормка парасят

Мінеральныя матэрыі (попел, крэйда, вапняк, касцяная мука, вугаль драўляны і да т. п.) граюць велізарную ролю ў жыцці ўсякага арганізма і асабліва маладога. Пры недахопе такіх мінеральных матэрый, як кальцый (змяшчаецца ў крэйдзе вапняка), фосфар, касцяная мука, парася не можа нормальна развівацца. Таму важна, каб парася як можна раней мела магчымасць пакрываць свае патрэбнасці ў іх.

Ужо з 3—5 дзён пасля нараджэння неабходна ў памяшканнях, дзе знаходзяцца сасункі, ставіць карытца з мінеральнымі матэрыямі,

крэйдай, касцянай мукой, драўляным попелам, драўляным патоўчанным вугалём.

**Парасяты заўсёды павінны мець магчымасць рыцца ў добрай незабруджанай дзер·навой зямлі.** Парасяты часта ядуць зямлю, здабываючы з яе патрэбныя ім мінеральныя матэрыі, але ў зямлі можа быць зараза, таму для загатоўкі дзернавой зямлі неабходна выбіраць месцы, заведама здаровыя, з незабруджанай глебай.

## Падкормка парасят зерневымі культурамі і сакавітымі кармамі

Чым раней сысункі возьмуцца за харчовую падкормку, тым лепш. Прывучаць парасят да паядання цвёрдага харчу неабходна з 10—12-дзённага ўзроста. Першай падкормкай, на якой парасяты вучацца есці, жаваць, звычайна з'яўляюцца цэлыя зерні ячменю, аўса, кукурузы і інш. збожжа. Вельмі карысна гэтыя зерні перад дачай іх парасятам падсмажыць, падсушыць у печы на блясе. У першы час парасяты ядуць мала зерня ў працягу сутак, а далей, к 15—20 дню жыцця парасят,—$^1/_2$—2 шклянкі на памёт у суткі.

З 20 га дня парасятам даецца апрача зерня ў цэлым выглядзе ўволю сумесь размола розных зерняў з мукой сена бабовых. Лепшымі кармамі для прыгатавання сумясяй падкормкі

для сысуноў будуць: пшаніца, авёс, ячмень, маса-касцяная, мясная, крывяная, рыбная мука. Размол аўса перад змешваннем яго з іншымі кармамі неабходна прасеяць, інакш плёнкі аўса могуць шкодзіць парасяці.

Змешваць пералічаныя зерневыя кармы можна па роўнай частцы або браць прасеенай аўсянкі 50 проц., ячменю 35 проц., размола пшаніцы 10 проц., мяса-касцянай або рыбнай мукі разам 5 проц. Замест пшаніцы можна ўзяць кукурузы, проса. Мясную, рыбную крывяную муку можна пры неабходнасці замяніць сумессю мукі з вікі, гароха, чачавіцы, макухі.

Пачынаючы з 20-25 дзённага ўзроста, трэба даваць парасятам, такіе сочныя кармы, як марква, гарбузы, крыху варанай бульбы. Сартом морквы і гарбузоў з чырвонай, аранжавай мякацю заўсёды трэба аддаваць перавагу ў параўнанні з белымі сартамі, таму што ў апошніх менш вітамінаў.

Пры рознастайнай падкормцы зернем, мясной або рыбнай мукой, добрай травой або сенам бабовых парасяты растуць добра, але калі кармы аднолькавыя, няма сена і бабовых траў, трэба сысуноў і ад'ёмышаў падкармліваць кароўім сепарыраваным малаком. Пачынаць падкормку малаком трэба, калі парасяты ўжо прывыклі да зялёнага корма, прыкладна 20-дзённага ўзроста. Неабходна сачыць за тым, каб малако было ад здаровых кароў. Малако ад кароў, якія не праверены на туберкулёз і інфекцыйны выкі-

дыш, неабходна перад дачай яго парасятам нагрэць да 80° і пратрымаць у гэтай тэмпературы 20 мінут.

Вельмі важна побач з падкормкай зерневымі кармамі забяспечыць парасят свежай і чыстай вадой пакаёвай тэмпературы.

## ПРЫКЛАДНЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ ПАДКОРМКІ ПАРАСЯТ-СЫСУНОЎ (ДА 2-МЕСЯЧНАГА ЎЗРОСТА):

### Лета

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Кукуруза | 140 г |
| | Ячмень | 190 „ |
| | Малако | 240 „ |
| | Вотрубі | 40 „ |
| | Макуха | 50 „ |
| 2. | Ячмень | 140 „ |
| | Авёс | 120 „ |
| | Жыта | 45 „ |
| | Малако | 240 „ |
| | Макуха | 40 „ |
| | Трава | 100 „ |
| 3. | Ячмень | 100 г |
| | Авёс | 200 „ |
| | Малако | 240 „ |
| | Вотрубі | 40 „ |
| | Бабовыя | 50 „ |
| | Трава | 100 „ |
| 4. | Ячмень | 170 „ |
| | Авёс | 240 „ |
| | Малако | 240 „ |
| | Вотрубі | 40 „ |
| | Бабовые | 50 „ |

### Зіма

| | | |
|---|---|---|
| 5. | Ячмень | 120 г |
| | Авёс | 180 „ |
| | Жыта | 70 „ |
| | Малако | 240 „ |
| | Бабовыя | 160 „ |
| | Трава | 100 „ |
| 6. | Кукуруза | 140 „ |
| | Ячмень | 190 „ |
| | Малако | 240 г |
| | Вотрубі | 40 „ |
| | Макуха | 60 „ |
| | Гарбузы | 200 „ |
| | Сена-люцэрна | 50 „ |
| 7. | Ячмень | 140 „ |
| | Авёс | 120 „ |
| | Жыта | 45 „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Малако | 240 г | 9. Ячмень | 170 г |
| Макуха | 40 " | Авёс | 240 " |
| Бабовыя | 50 " | Малако | 240 " |
| Бульба | 200 " | Вотрубі | 40 " |
| Сена | 50 " | Бабовыя | 50 " |
| 8. Ячмень | 290 " | Гарбузы | 200 " |
| Авёс | 200 " | Сена | 50 " |
| Малако | 240 " | 10. Ячмень | 120 " |
| Вотрубі | 40 " | Авёс | 180 " |
| Бабовыя | 50 " | Жыта | 70 " |
| Морква | 300 " | Бабовыя | 160 " |
| Сена | 50 " | Бульба | 200 " |
| | | Сена | 50 " |

Сена, сакавітыя кармы і трава даюцца парасятам уволю, і паказаныя лічбы з'яўляюцца орыентыровачнымі для разьлікаў.

# VIII

## АДКОРМ СВІНЕЙ

### Асноўныя задачы пры адкорме свіней

Пры ўсякім відзе адкорма свіней—неабходна імкнуцца да наступных мэт.

1. Атрымаць у самы кароткі тэрмін найбольш высокі прырост вагі жывёл і як вага хутчэй закончыць працэс самага адкорма.

2. На кожны кілограм прыроста затраціць магчыма меншую колькасць корма.

3. Вытварыць свініну пры найменшых затратах працы.

4. Вытварыць свініну найбольш высокай якасці.

## Віды адкорма свіней

Пры адкорме свіней мы маем наступныя моманты: а) атрыманне прадукцыі ў часе найбольш інтэнсіўнага роста свіней, б) атрыманне прадукцыі к часу заканчвання роста свіней і в) атрыманне прадукцыі на свіннях, якія ўжо закончылі свой рост.

У сувязі з гэтым мы маем і тры віды адкорма свіней:

1. Мясны бэконны—вытвараючый на маладых растучых свіннях;

2. Мяса-паўсальны—на растучых, але якія заканчваюць свой рост;

3. Сальны—на старых, якія закончылі свой рост. Як агульнае правіла трэба прызнаць, што мясны бэконны адкорм свіней з'яўляецца найбольш выгадным, таму што маладыя жывёлы на адзінку прыроста затрачваюць корма значна менш, чым свінні больш дарослыя. Так на адзін кілограм прыроста

свінні затрачваюць кармавых адзінак корма (у кілограмах):

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Ва ўзросце | 1 мес. | ад 2,4 | да | 2,9 |
| „ „ | 2 „ | „ 2,7 | „ | 3,3 |
| „ „ | 3 „ | „ 3,2 | „ | 4,1 |
| „ „ | 4 „ | „ 4,1 | „ | 4,3 |
| „ „ | 5 „ | „ 4,5 | „ | 5,0 |
| „ „ | 6 „ | „ 5,3 | „ | 5,4 |
| „ „ | 7 „ | „ 5,5 | „ | 6,0 |
| „ „ | 8—9 „ | „ 5,9 | „ | 6,6 |
| „ „ | 10—12 „ | „ 6,6 | „ | 6,7 |
| „ „ | 15—18 „ | „ 6,7 | „ | 7,2 |

## Мясны бэконны адкорм

Бэконам называецца мясны прадукт у выглядзе спецыяльна разробленых і па асобаму спосабу прасоленых палавінак маладой свіной тушы без галавы, ног, хрыбетніка і лапатак. Часткі гэтыя выдаляюцца перад пасолкай пасля разробкі тушы.

## Запатрабаванне да бэкона

**1.** Для вытвара бэкона патрэбны адкормленыя маладыя падсвінкі ва ўзросце 6—10 месяцаў.

---

**2.** Жывая вага адккормленых на бэкон падсвінкаў не павінна быць вышэй 115—120 *кг* і не менш 75 *кг*. Лепшай-жа якасці бэкон мы атрымліваем ад падсвінкаў ва ўзросце 6—8 месяцаў пры жывой вазе ў 88—92 *кг*.

---



Рыс. 5. Мясцовая беларуская свіння 2,5 год, жывая вага 55 кг. Куплена ў сялянскай гаспадарцы Менскім інстытутам свінагадоўлі.



Рыс. 6. Тая-ж свіння пасля 2-гадовага нармальнага кармлення і догляда на станцыі інстытута. Жывая вага 165 к.

3. Падскурны тлушч (шпік) у хрыбетнікавай частцы (супроць 6—7 рэбраў) павінен мець не менш 2 і не больш 6 *см* таўшчыні, у лепшых-жа сартох бэкону—4 *см* таўшчыні.

4. Сала павінна быць зярністым, цвёрдым і белага колера.

5. Вага кожнай палавінкі бэкона павінна быць не менш 22 і не больш 32 *кг*.

6. Мяса ў бэкон павінна быць роўнамерна пранізана тлушчам, ад чаго яно набывае асобую далікатнасць, сакавітасць і мрамарнасць.

Падсвінкі-ж 9—10-месячнага ўзроста з малой жывой вагой менш 75 *кг*—недакармкі—даюць грубы жосткі бэкон.

Падсвінкі 8—9 месяцаў даюць жывой вагі звыш 110—120 *кг* і звычайна даюць вельмі тлусты, сальны бэкон. Як жорсткі, так і вельмі тлусты бэкон для экспорта не прыгодны, таму што за граніцай ён вельмі нізка расцэньваецца.

## Якія свінні непрыгодны для бэконнага адкорма

Для бэконнага адкорма непрыгодны:

1. Падсвінкі простых позняспелых непалепшаных мясцовых парод свіней; такія падсвінкі

патрабуемай жывой вагі 88—95 *кг* дасягаюць толькі ва ўзросце $1^1/_2$ год, а іншы раз і старэй і даюць вельмі грубое і жорсткае мяса, слаба прарасшае тлушчам.

2. Падсвінкі, якія надта адстаюць у росце, напрыклад, падсвінкі, вага якіх у 7—8-месячным узросце 50—60 *кг*.

3. Некастрыраваныя самцы.

4. Позна кастрыраваныя кныры (кастрацыя ва ўзросце старэй 4 месяцаў.

5. Маладыя пакрытыя супаросныя маткі.

6. Падсосныя маткі.

7. Маткі, якія хоць адзін раз парасіліся.

8. Падсвінкі з траўматычнымі пашкоджаннямі на скуры (рубцы, сляды ад удараў, укусаў і інш).

9. Падсвінкі старэй 10-месячнага ўзроста.

10. Усе падсвінкі з прызнакамі фіноза, туберкулёза і інш.

Усе падсвінкі, непрыгодныя для вытвара бэкона для экспарта, скарыстоўваюцца як разрубачныя мясныя свінні, якія ідуць галоўным чынам на розныя капчоныя і каўбасныя вырабы.

## Якія ўмовы неабходна стварыць пры адкорме падсвінкаў, каб атрымаць экспартны бэкон.

Для вытвара бэкона вышэйшай якасці, упаўне прыгоднага для экспарта, неабходна:

1. Наяўнасць у калгасе свіней культурных скораспелых парод або метысаў іх, г. зн. свіней, якія паходзяць ад нашых простых матак, і культурных скораспелых кныроў галоўным чынам буйнай белай англійскай пароды, прычым кныркі, прызначаныя для бэконнага адкорма, павінны быць кастрыраваны яшчэ ў падсосны перыяд і як выключэнне ва ўзросце 3—4 месяцаў.

2. Забеспячэнне падсвінкаў, якія адкармліваюцца на бэкон, адпаведнымі кармамі.

3. Прадстаўленне падсвінкам вольнага руху або на пашы або ў спецыяльных дварыках-вагонах.

4. Забеспячэнне падсвінкаў бялковымі матэрыямі корма, мінеральнымі солямі і вітамінамі.

Невыкананне гэтых чатырох галоўнейшых умоў не дае калгаснай таварнай ферме магчымасці вытварыць бэкон высокай якасці, прыгодны для экспортных мэт.

## Якія кармы могуць быць скарыстаны пры бэконным адкорме падсвінкаў

Усе кармы для бэконнага адкорма можна падзяліць на 3 групы, а іменна:

**I група**—кармы, якія даюць бэкон высокай якасці.

Да гэтай групы кармоў належыць аднесці:

а) з зерневых кармоў—ячмень, пшаніцу, жыта, гарох, чачавіцу і проса;

б) з сакавітых кармоў—цукровыя, паўцукровыя буракі, моркву, гарбузы і бульбу;

в) з зялёных кармоў—люцэрну, канюшыну, эспарцэт, віка-аўсяную мешанку, суданку і іншыя;

г) з кармоў жывёліннага паходжання—малако, малочныя адкіды, мяса-касцяную муку і іншыя.

Усе гэтыя кармы даюць высокай якасці бэкон. Некаторыя з іх, як напрыклад усе сакавітыя і зялёныя кармы, малако і малочныя адыходы, не толькі самі даюць вельмі добрай якасці бэкон, але маюць яшчэ здольнасць устараняць дрэнную дзейнасць на якасць бэкона рада іншых кармоў.

**II група**. Да гэтай групы трэба аднесці кармы—кукурузу, грэчку, пшанічныя вотрубі, бурачную патаку, сілос і інш.

Гэтыя кармы пры скармліванні іх з кармамі I групы ў вядомых суадносінах даюць вельмі добры рост падсвінкаў і добрай якасці бэкон, але пры ўвядзенні іх у сутачны рацыён у вя-

лікіх колькасцях і без змешвання іх з кармамі I групы, г. зн. калі кармавая дача складаецца з 100 проц. кармоў II групы, яны даюць дрэннай якасці экспортны бэкон.

Каб атрымаць высокай якасці экспортны бэкон, сумесь кармоў II групы не павінна ўваходзіць у сутачны рацыён адкармліваемых свіней у колькасці большай 50 проц. ад усёй сутачнай дачы корма ў кармавых адзінках; астатнія 50 проц. дачы корма павінна складацца з сумесі кармоў I групы.

**III група**—кармы, якія сільна зніжаюць якасць бэкона. Сюды адносяцца кармы—авёс, соя, макуха, брага, розныя віды мякіны і інш. Гэтыя кармы можна і трэба скарыстоўваць толькі ў першай палавіне адкорма падсвінкаў, г. зн. да дасягнення імі 50—60 *кг* жывой вагі, прычым у сутачнай дачы сумесі кармоў III групы могуць быць уведзены ў колькасці не больш 25 проц. ад усёй дачы зерневага корма. У другой палавіне адкорма сумесь гэтых кармоў можа быць уведзена ў рацыён пры ўмове адначасовага ўвядзення ў рацыён дачы і знятага малака (1—2 *кг* у дзень на галову), цукровых буракоў або люцэрны.

**Калі трэба пачаць адкорм падсвінкаў для бэкона і як яго весці?** Бэконны адкорм падсвінкаў трэба пачынаць з 3—3½ і не пазней 4-месячнага ўзроста. **У** гэты час добра развітыя падсвінкі звычайна важаць каля 30—40 *кг*.

Увесь адкорм трэба весці настолькі хутка,

каб у 100—120 дзён, г. зн. к 8-месячнаму ўзросту скончыць адкорм падсвінкаў і давесці жывую вагу іх да 100 *кг*, г. зн. каб у сярэднім за час адкорма атрымаць 500—550 *г* прыроста ў суткі. Пры пастаўцы на адкорм 4-месячных падсвінкаў жывой вагі ў 40 кг па месяцох прырост іх павінен быць прыкладна такім:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У канцы | 5 мес. | вага 52—54 *кг*, | сутачны прырост | 350—420 *г* |
| „ | 6 „ | „ 57—69 „ | „ | „ 450—520 „ |
| „ | 7 „ | „ 75—87 „ | „ | „ 550—600 „ |
| „ | 8 „ | „ 92—100 „ | „ | „ 600—500 „ |

З гэтага разліку трэба складаць рацыёны пры бэконным адкорме.

Для таго, каб адтрымаць паказаную вышэй сутачную прыважку 350—520 *г* у першай палавіне адкорма і 550—600 *г* у другой палавіне адкорма, трэба даць кармовых адзінак у суткі на галаву сумесі featureознага корму (у кілаграмах):

**Пры жывой вазе:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| ад 30 да 40 *кг* | 2,2 | ад 70 да 80 *кг* | 3,5 |
| „ 40 „ 50 „ | 2,7 | „ 80 „ 90 „ | 3,7 |
| „ 50 „ 60 „ | 3,0 | „ 90 „ 100 „ | 4,0 |
| „ 60 „ 70 „ | 3,3 | „ 100 „ 110 „ | 4,2 |

**Колькі трэба даць бялка ў корме.** Каб мець хуткі адкорм і адтрымаць паказаную вышэй сутачную прыважку, неабходна **на кожны кілаграм кармавых адзінак корма ў першую палавіну адкорма (да 60—65 *кг* жывой вагі)**

**дацЬ не менш 100 г пәратраўнага бялка, а ў другой палове адкорма не менш 80 г пера- траўнага бялка.**

Такім чынам сутачная дача ў канцы першай палавіны адкорма павінна мець 220—280 г пе- ратраўнага бялка, а к канцу другой палавіны 270—320 г.

**Састаў кармавай дачы-рацыёну.** Сутачная дача-рацыён павінен складацца не менш як з 3 відаў корма, а лепш з 4—5 і больш кар- моў. Трэба памятаць, што чым рознастайней корм, тым большая гарантыя ў тым, што пад- свінкі атрымаюць усе патрэбныя ім пажыўныя матэрыі корма, як-та: бялкі, вітаміны і міне- ральныя солі, і тым лепш і хутчэй будзе ісці адкорм іх.

У летні перыод адкорма зялёная трава (паша або трава ў скошаным выглядзе) павінны аба- вязкова ўваходзіць у рацыён падсвінкаў у коль- касьці 25—35 проц. ад усёй дачы корма ў кар- мавых адзінках у першай палавіне адкорма і 15—20 проц. у другой палавіне адкорма, астатняя колькасць корма—сумесь концэнтра- таў 3—4 віды.

У зімовы перыод зялёны корм замяняецца сакавітым, і колькасць апошняга ў першай палавіне адкорма можа быць даведзена да 40 проц. ад усёй дачы корма ў кармавых адзін- ках пры бульбе і да 30 проц. пры буракох і моркве, а ў другой палавіне адкорма не больш 15—25 проц. У першай палавіне адкорма ў гэту

вагу можа быць уведзена сена бабовых траў—люцэрны, канюшыны і інш. у колькасці не больш 5 проц. ад усёй дачы корма ў кармавых адзінках, а астатняя частка кармавой дачы (60—70%) сумесь канцентратаў з 3—4 відаў корма.

**Прагулкі свіней пры бэконным адкорме.** Пры бэконным адкорме галоўнейшая мэта—нарошчванне мяса—мускулаў, а з прычыны таго, што рух на чыстым паветры спрыяе нарошчванню мяса, то адкармліваемыя падсвінкі як зімой, так і летам абавязкова павінны карыстацца прагулкамі, рухам на чыстым паветры, на сонцы. У час вялікіх маразоў і мяцеліц выпушчаць на прагулку не трэба.

На выгульных дворыках неабходна ставіць яслі з бабовым сенам, карыты з мінеральнымі матэрыямі і бочкі-самапаілкі.

За 4 тыдні да канца адкорма прагулкі падсвінкаў павінны быць спынены.

**Забойная вага і выхад бэкона.** Пры правільным адкорме падсвінкаў, добрай укормленасці іх пры 100 *кг* жывой вагі неабходна мець 72—77 проц. забойнай вагі і 57—60 проц. выхада бэкона (ад жывой вагі).

**Аплата корма пры бэконным адкорме.** Як пры летнім, так і пры зімовым мяса бэконным адкорме на адзін кілограм прыроста затрачваецца звычайна ад 5,5 да 6,0 *кг* кармавых адзінак корма.

**Мясны адкорм.** Усе падсвінкі, непрыгодныя па паказаных прычынах пайсці на бэконны

адкорм, павінны быць пастаўлены на адкорм для ўнутранога спажывання і на вытвар каўбасных вырабаў.

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ СВІНЕЙ У РОЗНЫХ РАЁНАХ САЮЗА

### Бэконны адкорм

### Першая палавіна адкорма

Умовы—жывая вага ад 35—40 да 60—65 *кг.*

Патрабаванні—падсвінку 30—40 *кг* жывой вагі неабходна даць у сутачным рацыёне:

а) кармавых адзінак корма . . . . 2,2 *кг*

б) ператраўнага бялка ў ім. . . . 220 *г*

| Назва корма | У проц. | Ператраўн. бялка | Карм. адзінак | Назва корма | Рацыены: Кольк. карма | Ператраўн. бялка | Кармавых адзінак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Беларусь, Заходняя, Ленінградская, Маскоўская і Іванаўская вобласці** | | | | | | | |
| 1. Аўсяная дзерць | 40 | 130 | 0,9 | Бульба . . . | 4,0 | 30 | 0,9 |
| Вотрубі пшанічныя. | 30 | | | Сілос . . . | 2,0 | 30 | 0,2 |
| | | | | Зерневая сумесь № 1 | 1,5 | 170 | 1,1 |
| | | | | Разам | 7,5 | 230 | 2,2 |

## Другая палавіна адкорма

| Назва корма | У проц. | Пэратраўнага бялка | Кармавых адзінак | Назва корма | Рацыёны: Кольк. карма | Пэратраўн. бялка | Кармавых адзінак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Беларусь, Ленінградская, Маскоўская і Іванаўская вобласці** | | | | | | | |
| Рэкамендуемыя сумесі зерневага корму | | | | | | | |
| 1. Ячменная дзерць | 30 | | | Сакавітыя кармы | 3,0 | 15 | 0,5 |
| Пшанічн. вотрубі | 15 | 100 | 1,1 | Зерневая сумесь № 1 | 2,8 | 280 | 3,1 |
| Жытняя дзерць | 30 | | | | | | |
| Бабовая дзерць | 25 | | | Разам | 5,8 | 295 | 3,6 |
| | | | | Зялёныя кармы | 4,0 | 68 | 0,6 |
| 2. Ячменная дзерць | 50 | | | Зерневая сумесь № 2 | 2,5 | 225 | 3,0 |
| Бабовая дзерць | 20 | 9,0 | 1,2 | | | | |
| Жытняя дзерць | 30 | | | Разам | 6,5 | 293 | 3,6 |

Увесь адкорм такіх падсвінкаў трэба весці па такой-жа схеме, як і на бэкон, але са значна

большай дачай кармоў II і III групы. Кармы I групы пры гэтым адкорме могуць быць уведзены ў колькасці не больш 15—20 проц. ад усёй затраты корма ў працягу ўсяго перыода адкорма.

Падсвінікі пры такім адкорме (разрубачны) павінны даць 62—67 проц. забойнай вагі без скуры або 70—75 проц. са скурай.

## Паўсальны адкорм

**Паўсальны адкорм і яго мэты.** Пры паўсальным адкорме ставіцца мэтай атрыманне шынак і грудзінкі з сакавітым, далікатным смачным мясам. Астатняе-ж мяса ў большасці выпадкаў ідзе на прыгатаванне вышэйшай якасці каўбас. Часта таму гэты від адкорму называюць каўбасным адкормам свіней.

**Якія свінні ідуць на паўсальны адкорм.** Для паўсальнага адкорма патрэбны падсвінкі, якія не закончылі яшчэ свайго роста. Звычайна для адкорма ідуць падсвінкі ва ўзросце 7—10 месяцаў пры жывой вазе 60—90 *кг*. Паўсальны адкорм вядзецца галоўным чынам на свіннях—падсвінках скараспелых культурных парод або метысаў іх—і радзей на свіннях мясцовых позняспелых парод.

**Стандартныя патрабаванні паўсальнага адкорма.** Жывая вага адкормленых свіней культурных парод і метысаў іх ва ўзросце 10—15 месяцаў павінна быць ад 120 да 160 *кг*; тое-ж—позняспелых непалепшаных свіней ва ўзросце

12—18 месяцаў—ад 100 да 130 *кг*. Таўшчыня шпіка ў хрэбтовай частцы—5—7 *см*. Забойная вага без скуры—65—72 проц., са скурай 75—80 проц. Сутачная прыважка ў сярэднім 600—800 *г*.

**Патрабаванні адкорма і тэхніка адкорма.** У звязку з тым, што паўсальны адкорм вядзецца на маладых, растучных яшчэ падсвінках, то для атрымання вялікай колькасці мяса падсвінкам да 8—10-месячнага ўзроста павінна быць прадстаўлена магчымасць свабоднага руху на пашы або на спецыяльных пляцоўках-дворыках. З часу пачатка ўласна адкорма падсвінкаў неабходна трымаць у станках, пераганяць іх толькі на кармленне ў сталовую.

**Колькасць ператраўнага бялка ў сутачным рацыёне пры паўсальным адкорме.** Падсвінкам да 6-месячнага ўзроста на кожны кілограм мармавых адзінак належыць даваць не менш 100 *г* ператраўнага бялка, ва ўзросце ад 6 да 8—10 месяцаў—не менш 80 *г* бялка, у старэйшым узросце—не менш 70 *г* бялка.

**Процантнае суадносінне розных кармоў у сутачным рацыёне пры паўсальным адкорме свіней.** Увесь адкормачны перыод, які звычайна пачынаецца ва ўзросце 8—11 месяцаў і працягваецца 4—3 месяцы, неабходна разбіць на 2 або 3 перыоды, прычым у першую палавіну адкорма ($1^1/_2$—2 месяцы) неабходна скарміць найбольш танныя аб'ёмістыя кармы, як-та: сакавітыя коранькплоды, бульбу.

Гэтыя кармы павінны быць уведзены ў рацыёны ў колькасці 35—60 проц. ад усёй дачы корма ў кармавых адзінках, грубыя кармы—сена люцэрны, канюшыны і інш. або мякіны—7—10 проц., і астатнюю колькасць кармавой дачы—сумесь з 3—4 канцэнтратаў. У летні час сакавітыя кармы замяняюцца зялёнай травой і сіласам з бульбы. Сілас можа быць уведзены ў колькасці 3—4 *кг* у суткі. З канцэнтратаў у гэты час павінны быць скарыстаны найбольш танныя кармы—вотрубі, млынавы пыл, макуха, авёс і інш.

Апошнія 2 месяцы адкорма сакавітыя кармы скарочаны ў сутачным рацыёне да 35—25 проц.; кармы, якія даюць дрэннай якасці мяса і сала, як напрыклад авёс, макуха, пры вытвары свініны для экспарта павінны быць выключаны зусім з рацыёна, а такія кармы як кукуруза, вотрубі і інш., паменшаны да 20 проц. у сутачным рацыёне ад усяго зерневага корма ў дачы і заменены кармамі, якія даюць высокай якасці мяса і сала—ячмень, жыта, гарох і інш.

Пры паўсальным адкорме рацыёны свіней трэба складаць па такой схэме:

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры жывой вазе | ад | 60 | да | 70 | *кг* | 3,3 | *кг* карм. | адз. | 260 | *г* перат. | бялка |
| | " | 70 | " | 80 | " | 3,6 | " | " | 290 | " | " |
| | " | 80 | " | 90 | " | 3,9 | " | " | 310 | " | " |
| | " | 90 | " | 110 | " | 4,2 | " | " | 310 | " | " |
| | " | 110 | " | 130 | " | 4,4 | " | " | 310 | " | " |
| | " | 130 | " | 140 | " | 4,5 | " | " | 315 | " | " |
| | " | 140 | " | 160 | " | 4,7 | " | " | 330 | " | " |

## ПАУСАЛЬНЫ АДКОРМ

### Першая палавіна адкорма

Умовы—першая палавіна адкорма—жывая вага падсвінкаў 60—70 *кг*.

Патрабаванні—падсвінку 60—70 *кг* жывой вагі неабходна даць у суткі:

а) кармавых адзінак корма . . . . . 3,3 *кг*

б) пeратраўнага бялка ў ім з разліку 80—90 *г* пeратраўнага бялка на 1 *кг* кармавых адзінак корма . . . . . . . . . 260—310 *г*.

**Беларусь, Заходняя, Ленінградская, Маскоўская і Іванаўская вобласці**

| | Проц. | Ператраўн. бялку | Кармавых адзінак | | Колькасць корму | Ператраўн. бялку | Кармавых адзінак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Аўсяная дзерць . . . | 50 | 1,4 | 1,0 | Бульба . . . . | 5,0 | 50 | 1,6 |
| Адыходы бабовыя . . | 2 | | | Сілос . . . . . | 2,0 | 10 | 0,3 |
| Макуха ільнян. . . . | 20 | | | Сена бабовых . | 1,0 | 60 | 0,4 |
| Вотрубі жытнія . . . | 10 | | | Зерневая сумесь № 1 . . . | 1,0 | 140 | 1,0 |
| | | | | Разам . . | 9,0 | 260 | 3,3 |
| 2. Аўсяная дзерць . . . | 60 | 0,9 | 1,0 | Зялёны кормлюцэрна віка . . . | 6 | 90 | 1,0 |
| Вотрубі жытнія . . . | 30 | | | Зерневая сумесь № 2 . . . | 2,3 | 210 | 2,3 |
| Адыходы бабовыя . . | 10 | | | Разам . . | 8,3 | 300 | 3,3 |

Ва ўсе сумесі неабходна на кожныя 100 *кг* дабаўкі
Крэйды або вапны . . . . . . . . . 1,0 „ „
Солі спажыўнай . . . . . . . . . . 1,0 „ „

### Другая палавіна адкорма

Другая палавіна адкорма—жывая вага падсвінкаў 90–100 *кг*.

Патрабаванні—пасвінку 90–140 *кг* жывой вагі неабходна даць у суткі:

а) кармовых адзінак корма . . . . . 3,9–4,6 *кг*

б) ператраўнага бялка ў ім з разліку 70–80 *г*. на 1 *кг* кармавых адзінак карма . . . 310–315 *г*

### Беларусь, Заходняя, Ленінградская, Маскоўская і Іванаўская вобласці

| | Працант. | Ператраўн. бялка | Кармавых адзінак | | Колькасць корма | Ператравэнне бялка | Кармавых адзінак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Ячменная дзерць . . . | 30 | — | — | Сакавітыя кармы . . . . . . | 3,0 | 10 | 0,5 |
| Жытнія вотрубі . . . | 30 | — | — | Сілос бульбяны | 3,0 | — | 1,1 |
| Бабовая дзерць . . | 25 | — | — | Зерневая сумесь № 1 . . . | 3,0 | 300 | 3,0 |
| | | | | Разам . . | 9,0 | 310 | 4,6 |
| Адыходы зерня . . . . | 15 | — | — | Зялёны корм . | 4,0 | 60 | 0,7 |
| | | | | Сілос бульбяны | 3,0 | — | 1,1 |
| | | | | Зерневая сумесь № 1 . . . | 2,5 | 250 | 2,5 |
| | | | | Разам . . | 9,5 | 310 | 4,3 |

## Сальны адкорм

**Якія свінні ідуць на сальны адкорм.** Для сальнага адкорму ставяцца дарослыя, якія заканчваюць свой рост свінні, г. зн. ва ўзросце не маладзей 2 год, як культурных парод і метысаў іх, так і мясцовых простых позняспелых парод. На сальны адкорм ставяцца бракаваныя старыя маткі і кныры. Апошнія перад тым, як ставіць на адкорм, павінны быць кастрыраваны. Колькасць бракаваных матак у нас складае да 30—35 проц. ад усяго стада дарослых свіней.

**Якія мэты ставяцца пры сальным адкорме свіней.** Пры адкорме дарослых свіней мы імкнемся да двух мэт:

а) вытварыць магчыма большую колькасць высокай якасці сала;

б) палепшыць якасць мяса.

Мяса старых свіней жорсткае, грубое. Адкладаннем тлушчу паміж мускульнымі клеткамі пры адкорме свіней значна павышаецца і якасць мяса ў старых свіней—яно робіцца больш сакавітым і смачным.

**Стандартныя патрабаванні сальнага адкорма.** Жывая вага культурных парод свіней і метысаў іх ва ўзросце ад 15 месяцаў і старэй—160 *кг* і больш. Жывая вага простых позняспелых парод свіней ва ўзросце ад 18 месяцаў і старэй—130 *кг*. Таўшчыня шпіка ў хрыбетнай частцы не менш 7 *см*. Убойная вага

свіней без скуры—не менш 72 проц., а са скурай—не менш 80 проц.

а) **Працяглясць адкорма.** Увесь адкорм працягваецца ад 3 да 5 месяцаў. Увесь адкорм разбіваецца на 2—3 перыоды па $1^1/_2$—2 мес. кожны.

б) **Процантнае адношэнне кармоў пры сальным адкорме.** У першаю палавіну сальнага адкорма павінны быць скарыстаны найбольш дзяшовыя кармы. У сутачны рацыён у гэты час павінны ўваходзіць кармы: сакавітыя—ад 40 да 65 проц. ад усёй дачы корму ў кармавых адзінках, грубыя—да 10 проц. і толькі ўсяго 25—35 проц. канцэнтратаў—вотрубяй, млынавага пылу, зерня і інш. Частка сакавітага корму можа быць заменена сілосам—4—5 *кг* у суткі, кукурузнай або жытняй брагай—не больш 10 *л*, бульбянай мязгой—да 12 *л* і інш. За 2—$2^1/_2$ месяцы да забою рацыён павінен быць зменены ў бок зніжэння сакавітых кармоў, сілосу, брагі і іншых кармоў з тым, каб яны складалі ў рацыёне да 25—30 проц. яго, а астатняя частка дачы павінна складацца з сумесі канцэнтратаў. Пры вытвары сала для экспарту канцэнтраты за 2 месяцы да забою павінны быць даны ў выглядзе кармоў, паляпшаючых якасць сала і мяса, — ячмень, жыта, проса, гарох, грэчка і іншыя, а пры адкорме для ўнутранага спажывання—з сумесі і вотрубяй і адыходаў зерня. За месяц да забою колькасць канцэнтратаў павінна быць даведзена да 80—85 проц. ад усёй дачы корму ў кармавых адзінках.

## НОРМЫ ДЛЯ САЛЬНАГА АДКОРМУ

Неабходна даць кілограмаў кармавых адзінак корму ў суткі пры сутачнай прыважцы:

| 1-я палова адкорму 1,0—1,2 *кг* у суткі (4—5 проц.) | | 2-я палова адкорму 0,7—0,5 *кг* (2,75—3 проц.) | |
|---|---|---|---|
| Жывая вага ў (*кг*) | Кілограмаў кармавых адзінак корму | Жывая вага (у *кг*) | Кілограмаў кармавых адзінак корму |
| 120 | 4,8— 6,0 | 150 | 4,1—4,5 |
| 150 | 6,0— 7,5 | 170 | 4,6—5,1 |
| 180 | 7,2— 9,0 | 190 | 5,2—5,7 |
| 200 | 8,0—10,0 | 210 | 5,7—6,3 |
| 230 | 9,2—11,5 | 230 | 6,3—6,9 |
| 250 | 10,0—12,5 | 250 | 6,9—7,5 |
| | | 280 | 7,7—8,4 |
| | | 300 | 8,2—9,0 |

### Сальны адкорм

#### Першая палова адкорму

Жывая вага—180 *кг*

Патрабаванне—старым бракаваным маткам пры жывой вазе ў 180 *кг* неабходна даць у суткі:

Кармавых адзінак . . . . . 7,2—9,0 *кг*

Сумесь канцэнтраваных кармоў

Вотрубі пшанічныя . . 40 проц.
Адыходы зерня . . . 50 „
Макуха ільняная . . . 10 „

У 1 *кг* сумесі змяшчаецца 0,9 *кг* кармавых адзінак.

Крэйды . . . . . . . . . . 1,0 *кг*
Солі . . . . . . . . . . . . 0,8 „

### Рацыёны для кораньплодных раёнаў

Бульба 8,0 *кг* . . . . . . . . 2,4 *кг* карм. адзінак
Сумесь канцэнтр. карм. 6,0 *кг* . . 5,4 „ „ „

Разам . . 7,8 *кг* карм. адзінак

## РАСХОД КОРМУ НА АДНУ ГАЛАВУ Ў КІЛОГРАМАХ ЗА ЧАС АДКОРМУ

| Назва кармоў | Беконны адкорм. Пач. вага 35 *кг* здымачн. 100 *кг*. адкорм 110 дзён | | Паўсальны адкорм. Пачат. вага 60 *кг*, здым. 140 *кг*, адкорм. 110 дзён. | | Сальны адкорм. Пачат. вага 120 *кг*, здым. 210 *кг*, адкорм 120 дзён | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Летні | Зімовы | Летні | Зімовы | Зімовы | |
| **Беларусь, Заходні край** | | | | | | |
| Трава пашы (бабовых траў, серадэля, канюшына і інш.). | 680 | — | 1180 | — | — | |
| Сакавіты корм— | — | | | | | |
| бульба . . . | — | 420 | — | 600 | 890 | |
| Сілос . . . | — | — | — | 100 | 130 | |
| Грубы корм — сена бабовых | — | 22 | — | 60 | 80 | |
| Авёс . . . | 50 | 36 | 78 | 65 | — | |
| Ячмень . . . | 42 | 38 | 56 | 10 | — | |
| Адыходы бабовых і інш. . | 52 | 46,5 | — | — | — | |
| Вотрубі пшанічныя . . | 79,5 | 62,5 | 96,5 | 75 | 225 | у тым ліку пшан. 50% |
| Макухі . . . | 22 | 15 | 26 | 22 | 40 | |
| Жыта дробнае | 43 | 40 | — | — | — | |
| Адыходы зерня | — | — | 76,5 | 84,5 | 115 | |
| Соль, крэйда, вапна і інш. . | 4,5 | 6,0 | 6,5 | 7,5 | 7,5 | |

**Патрэбнасць бялку пры сальным адкорме.** Пры сальным адкорме неабходна максімальна скарыстаць вугляводзістыя кармы. Колькасць пераТраўнага бялку павінна быць мінімальнай— не больш 40—50 *г* бялку на 1 *кг* кармавых адзінак.

**Прыважка ў сярэднім** павінна быць у першай палове адкорму не менш 1 *кг* у дзень, у першай палове другога перыяду—не менш 800—900 *г* у суткі і ў наступны перыяд (2—3 тыдні)—500 *г*.

## Агульныя правілы догляду і ўтрымання свіней пры адкорме

Пры адкорме свіней неабходна захоўваць наступныя правілы. Некастрыраваныя кныры ні ў якім выпадку да адкорму не дапускаюцца.

**Разбіўка свіней на групы і парадак кармлення груп.** Адкорм свіней трэба праводзіць групамі. Групавое кармленне павышае апетыт свіней, і яны хутчэй і лепш адкармліваюцца.

Групы свіней павінны быць падабраны па ўзросту, жывой вазе, характару і ступені укормленасці. Падабраныя па гэтых прызнаках групы змяшчаюцца ў асобныя станкі, дзе разам жывуць да канца адкорму, разам ідуць у сталовую, на прагулкі і інш. Неспакойных, якія любяць уступаць у бойку, а таксама свіней, чаму-небудзь адстаўшых у росце, неабходна выдзеліць і ўтварыць з іх асобныя групы або падгрупы.

**Колькі раз у дзень трэба карміць свіней пры адкорме.** Карміць свіней неабходна два разы ў дзень, а пры бэконным адкорме, у першай палавіне яго і пры дачах у рацыёне сакавітага або зялёнага корму—не менш 3 разы ў суткі. Карміць трэба ў строга вызначаныя часы і раз прынятага парадку прытрымлівацца да канца адкорму. Прамежкі часу паміж кармленнямі павінны быць аднолькавымі.

**У якім выглядзе павінны быць дадзены адкормачным свіням кармы**

1. Корм павінен быць дадзены або ў сухім выглядзе або ў змочаным выглядзе—у стане густога цеста, **але ні ў якім выпадку не ў выглядзе рэдкай баўтушкі.**

2. Зерневыя кармы павінны быць дадзены ў выглядзе мукі або дзерці буйнага памолу (не больш 60 проц.). Сакавітыя кармы за выключэннем бульбы павінны быць скормлены ў сырым выглядзе, бульба-ж у вараным стане.

3. У кармавы рацыён павінна ўваходзіць не менш 3—4 відаў корму і скармліваць іх трэба ўсе разам, але ні ў якім выпадку не ў парадку паступовасці.

4. Кармы павінны быць свежымі і чыстымі. Няз'едзены корм павінен быць убран з кармушак і скарыстаны для халастых матак і інш. кармушкі неабходна падтрымліваць

у строгай чыстаце, таму што кіслы пах іх і інш. адбівае апетыт у свіней.

**Вучот адкорму.** Для дакладнага ўліку і кантролю ходу адкорму неабходна не менш 2 разы ў месяц узважваць усіх свіней або ўзважваць кантрольныя групы, выбраныя ў колькасці 10—15 проц. ад агульнага ліку свіней, якія адкармліваюцца. Кантрольныя групы павінны быць выбарны так, каб яны адпавядалі віду і становішчу ўсёй групы.

**Утрыманне свінарнікаў пры адкорме.** Свінарнікі, дзе вядзецца адкорм, павінны быць чыстымі, светлымі, з добрай вентыляцыяй. Зімой тэмпература не павінна быць вышэй 8°С і ніжэй 2—3°С, таму што высокая тэмпература расслабляе арганізм, і свінні даюць дрэнную прыважку, а пры тэмпературы ніжэй 2—3° расходуецца больш корму (10—15 проц.).

Уборку памяшканняў неабходна рабіць штодзённа. Свіней трэба чысціць і, калі ёсць магчымасць, летам даваць ванны-купанне. На пашы, выгульных дворыках і ў мясцох прагулак свіней неабходна паставіць „чэсалы“.

---

5. Карміць свіней трэба ў асобных сталовых, таму што гэта дасць магчымасць паўней механізаваць самае кармленне, догляд, працу і інш. і значна знізіць сырасць у свінарніку.

---

6. Свінням, якія адкармліваюцца, неабходна даць магчыма большы супакой, асабліва ў другой палове адкорму.

---

7. Неабходна памятаць самае галоўнае правіла адкорму — **прыняць усе меры да таго, каб адкорм праходзіў больш паспяхова, таму што найбольш кароткі па часу адкорм ёсць у той-жа час і найбольш выгадны.**

## Кармленне рамонтных парасят і падсвінкаў

Пасля ад'ёму парасят ад матак неабходна ў першы месяц даваць ім найбольш смачныя і пажыўныя кармы, каб не выклікаць затрымкі ў росце. Потым парасят паступова пераводзяць на асноўныя кармы.

Дзённая дача корму павінна забяспечыць парасят ператраўным бялком каля 100 г на кожную кармовую адзінку мінеральнымі матэрыямі і вітамінамі.

### КАРМОВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ РАМОНТНЫХ ПАРАСЯТ І ПАДСВІНКАЎ

Проф. І. С. Папова (з 3 да 8—9 мес. узросту)

| Жывая вага | Ператраўнага бялку не менш | Кармавых адзінак |
|---|---|---|
| 20—30 *кг* | 150 *г* | 1,5 *кг* |
| 30—40 „ | 170 „ | 2,0 „ |
| 40—50 „ | 180 „ | 2,3 „ |
| 50—60 „ | 190 „ | 2,5 „ |
| 60—70 „ | 200 „ | 2,7 „ |
| 70—80 „ | 210 „ | 3,0 „ |

## ПРЫКЛАДНЫЯ КАРМАВЫЯ ДАЧЫ ДЛЯ РАМОНТНАГА МАЛАДНЯКУ (у *кг*)

### а) Для зерневых раёнаў

Летні рацыён для вырошчвання веснавых парасят

| Кармы | Жывая вага парасят (у кілограмах) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 20–30 | 30–40 | 40–55 | 55–67 | 67–80 |
| 1. **Трава** на пашы або ў скошаным выглядзе (люцэрна, соя, віка і інш.) . . . | 3,0 | 3,3 | 3,5 | 4,0 | 4,5 |
| 2. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, кукуруза, прасяная мука і інш. сумесь, з 2—3 зерневых кармоў) . . | 0,8 | 1,2 | 1,4 | 1,6 | 1,8 |
| 3. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . | 0,2 | 0,3 | 0,3 | 0,3 | 0,3 |
| 4. **Макуха** (сонечнікавая, ільняная) . . | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 |
| 5. **Мінеральная сумесь № 1** . . . | 20 *г* | 20 *г* | 20 *г* | 20 *г* | 20 *г* |

# ЗІМОВЫ РАЦЫЁН ДЛЯ АСЕННІХ ПАРАСЯТ

| Кармы | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сілосам | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сілосам | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сілосам | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сілосам | 1-ы прым. з сенам | 2-і прым. з сілосам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (люцэрны, вікі, сої і інш.) . | 0,25 | — | 0,3 | — | 0,4 | — | 0,45 | — | 0,5 | — |
| 2. **Сілос** (кукурузны, з гарбузоў і інш. | — | 1,0 | — | 1,25 | — | 1,5 | — | 1,75 | — | 2,0 |
| 3. **Дробленае зерне злакавых** (аўсянка, ячменная дзерць, кукурузная дзерць; сумесь з 2—3 зерневых кармоў) | 0,8 | 0,8 | 1,2 | 1,2 | 1,5 | 1,5 | 1,8 | 1,8 | 2,0 | 2,0 |
| 4. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . . | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,5 |
| 5. **Макуха** (сонечнікавая, ільняная, соевая) . . | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 |
| 6. **Мінэральная сумесь № 1.** | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 0 г | 20 г | 20 г |

### б) *Для бульбяна-кораньплодных раёнаў*

Зімовы рацыён (у кілограмах)

| Кармы | 1-ы прым. з кораньплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з коранплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з кораньплод | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з кораньплод | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з кораньплод | 2-і прым. з бульбай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. **Сена бабовых** (канюшына, віка, серадэля і інш.) | 0,25 | 0,25 | 0,30 | 0,30 | 0,40 | 0,40 | 0,45 | 0,45 | 0,50 | 0,50 |
| 2. **Кораньплоды** (кармавыя буракі, морква, бручка і інш.) | 3,0 | — | 3,5 | — | 4,0 | — | 4,5 | — | 5,0 | — |
| 3. **Бульба** (запараная, вараная, сіласаваная) | — | 2,0 | — | 2,5 | — | 3,0 | — | 3,0 | — | 3,0 |
| 4. **Дробленае зерне злакавых** (авёс, ячмень, жыта, проса, кукуруза і інш. сумесь з 2-3 зерневых кармоў) | 0,6 | 0,4 | 0,8 | 0,7 | 1,0 | 0,8 | 1,3 | 1,0 | 1,5 | 1,1 |

| Кармы | 1-ы прым. з караньплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з караньплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з караньплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з караньплод. | 2-і прым. з бульбай | 1-ы прым. з караньплод. | 2-і прым. з бульбай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5. **Вотрубі** (пшанічныя, жытнія) . | 0,2 | 0,2 | 0,4 | 0,3 | 0,4 | 0,3 | 0,4 | 0,2 | 0,5 | 0,4 |
| 6. **Макуха** (ільняная сонечнікавая і інш.) . . | 0,3 | 0,3 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 |
| 7. **Мінэральная сумесь № 2.** | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г | 20 г |

**Заўвагі.** 1. Макухі і вотрубі можна замяніць дробленым зернем бабовых (гароху, вікі, чачавіцы, соі і інш.) або адыходамі бабовых.

2. У зерневых раёнах сілос можна замяніць гарбузамі, паўцукровымі буракамі.

3. У бульбяна-караньплодных раёнах замест корняклубняплодаў можа быць уведзены сілос.

Замест аднэй бульбы або караньплодаў можа быць узята сумесь бульбы з караньплодамі і сілосам.

## КОЛЬКАСЦЬ КОРМУ, ПАТРЭБНАЯ ДЛЯ ВЫРАШЧВАННЯ АДНАГО РАМОНТНАГА ПАДСВІНКА (АД НАРАДЖЭННЯ ДА 80 *кг* ЖЫВОЙ ВАГІ ДА 8—9 МЕСЯЦАЎ)

### а) У зерневых раёнах

| | Для веснавых парасят (вырашчванне летам) | Для асенніх парасят (вырашчванне зімой) |
|---|---|---|
| 1. **Зерня злакавых** (аўсянка, ячмень, кукуруза і інш.); сумесь з 2—3 кармоў . . . . . . | 2,4 *ц* | 2,5 *ц* |
| 2. **Вотрубяй** (пшанічных, жытніх) . . . . . | 0,45 " | 0,75 " |
| 3. **Макухі** (сонечнікавай, ільнянай, соевай) . . | 0,20 " | 0,20 " |
| 4. **Травы** (люцэрны, канюшыны, сої і інш.) . . | 5,50 " | — |
| 5. **Сена бабовых** (люцэрны, канюшыны, вікі і інш.) . . . . . . | — | 0,60 " |
| 6. **Або сілосу** (кукурузнага, гарбузоў і інш.) | — | 2,25 " |
| 7. **Мінеральнай сумесі №1** | 0,03 " | 0,03 " |

**Увага.** Пры вырашчванні парасят са знятым кароўім малаком яго трэба 20 *л*.

б) У бульбяна-кораньплодных раёнах

Для асенніх парасят вырашчванне зімой.

1. **Зерня злакавых** (аўсянка, жыта, проса, ячмень, кукуруза і інш.):
   - з кораньплодамі . . . . . 1,90 ц
   - з бульбай . . . . . . . 1,55 „
2. **Вотрубяй** (пшанічных, жытніх):
   - з кораньплодамі . . . . . 0,60 „
   - з бульбай . . . . . . . 0,40 „
3. **Макухі** (ільнянай, сонечнікавай):
   - з кораньплодамі . . . . . 0,35 „
   - з бульбай . . . . . . . 0,35 „
4. **Кораньплодаў** (кармавыя буракі, морква, бручка і інш.). . . . . 6,00 „
5. **Або бульбы** . . . . . . . 4,00 „
6. **Сева бабовых** . . . . . . 0,60 „
7. **Мінэральнай сумесі № 2** . . . 0,03 „

**Заўвагі:** 1. Для вырашчвання веснавых парасят у бульбяна-кораньплодных раёнах патрабуецца такая-ж кольскасьць травы і канцэнтратаў, як і ў зерневых раёнах.

2. Замест кораньплодаў і бульбы можна ўвесьці ў дачы сілос, як і ў зерневых раёнах.

3. Калі парасятам даецца знятае кароўе малако, то яго чарэбна 20 л.

## Падлік кармоў

**Час падліку.** Падлік робіцца перад складаннем вытворчых планаў калгасаў, г. зн. у лістападзе, снежні, з тым, каб патрэбнасць у кармох была прадугледжана пры складанні плану

веснавой пасеўнай кампаніі і для сьвінагадоўлі ў плане былі прадугледжаны пасевы ўсіх неабходных культур.

**Нормы.** Дакладныя разлікі на патрэбныя для фермы кармы робяцца пры дапамозе кармавых норм і кармавых табліц. Але для таго каб даць прыкладную заяўку перад складаннем вытворчага плану калгасу, даволі ведаць, што на кожную матку з прыплодам (8 спраўных парасят) і з прыпадаючых на яе часткай кныра трэба ўсяго каля 50 *ц* кармавых адзінак, з якіх 32 *ц* трэба скарміць у выглядзе канцэнтратаў і 18 *ц* у выглядзе сакавітых і грубых кармоў. Калі сакавітыя кармы складаюцца на палавіну з бульбы, то колькасць канцэнтратаў скарачаецца да 25 *ц*.

Разлікі на матку з прыплодам не прыгодны для ферм, у якіх матачны склад часткова малады, не скончыўшы росту.

У гэтым выпадку кіруюцца тым, што на кармленне патрабуецца:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Кныру ў год | 11,0 | *ц* | карм. | адз. |
| Матцы дарослай | 9,4 | " | " | " |
| " растучай | 12,0 | " | " | " |
| Парасяці да 2 месяцаў | 0,2 | " | " | " |
| Ад 2 да 3 " | 0,33 | " | " | " |
| " 3 " 4 " | 0,48 | " | " | " |
| " 4 " 5 " | 0,75 | " | " | " |
| " 5 " 6 " | 0,84 | " | " | " |
| " 6 " 7 " | 0,90 | " | " | " |
| " 7 " 8 " | 1,20 | " | " | " |
| Падсвінку для адкорму ад нараджэння да 8 месяцаў | 4,70 | " | " | " |

## Як падлічыць патрэбнасць у кармох для СТКФ

**Прыклад.** На ферме заўсёды ўтрымліваецца матачнае стада; 42 маткі і прыплод выкармліваецца да 8 месячнага ўзросту. Такая ферма павінна забяспечыць сябе канцэнтраванымі кармамі ў колькасці (42 × 32) 1344 *ц* кармавых адзінак, сакавітымі і грубымі кармамі—у колькасці (42 × 18) 756 *ц* кармавых адзінак. Калі ферма не мае скончанага росту матачнага стада, то разлік па наяўнаму матачнаму стаду робіцца так, як паказана, а па матачнаму стаду, уступаючаму сярод году, разлік утвараецца асобна. Напрыклад, ферма мяркуе на пашырэнне пастаяннага матачнага стада купіць 10 маладых свінак, якія дадуць адзін апарос за 4 месяцы да сканчэння году. У гэтым выпадку расход корму на прыплод па 7 парасят ад 10 матак згодна прыведзеных норм на 4 месяцы будзе па 1,01 *ц* кармавых адзінак, або 70,7 *ц* кармавых адзінак на ўвесь прыплод у 70 парасят. Апрача таго на кармленне 10 матак, купленых, напрыклад, на другім месяцы супароснасці, патрабуюцца: на 2-м месяцы супароснасці, лічучы на кожную па 4 *кг* кармовых адзінак у суткі, на 60 дзён 240 *кг* кармавых адзінак, на два месяцы падсоснасці па 6 *кг*—360 *кг*, а на астатнія два месяцы па 3,5 *кг* кармавых адзінак—210 *кг*, а ўсяго 8,1 *ц* на адну або 81 *ц* на ўсіх матак, а разам з прыплодам значыцца 151,7 *ц*.

## Выдзяленне пасеваў

Дапусцім, што на данай ферме ўраджаі бываюць у сярэднім такія:

| | |
|---|---|
| Зерневых пасеваў . . . . . . . . | па 12 *ц* в 1 *га* |
| Бульбы . . . . . . . . . . . . . | „ 100 „ „ 1 „ |
| Буракоў . . . . . . . . . . . . . | „ 300 „ „ 1 „ |
| Сена . . . . . . . . . . . . . . . | „ 25 „ „ 1 „ |
| Сілосу і травы на пашу . . . . . . | „ 100 „ „ 1 „ |

Для фермы, якая мае пастаяннае стада ў 42 маткі, патрэбна зерневых кармоў 1 344 *ц* у кармавых адзінках і столькі-ж цэнтнераў у зерні, таму што кожны цэнтнер зерня па спажыўнасці роўны 1 *ц* кармавых адзінак. Пасеяць трэба (1 344 : 12) 112 *га*.

Калі сакавітыя кармы складаюцца на палову з бульбы і бульбянага сілосу, на адну чверць з травы ў часе летняга пашавага перыяду і астатняя чвэрць—на палову з буракоў і травянога сілосу, то ў выглядзе бульбы і бульбянага сілосу трэба скарміць 303 *ц* кармавых адзінак; у выглядзе травы на пашы—151,5 *ц* кармавых адзінак; у выглядзе буракоў—75,7 *ц* кармавых адзінак і ў выглядзе травянога сілосу—75,7 *ц* кармавых адзінак.

Пераводзячы 303 *ц* кармавых адзінак у бульбу, якой на кожны цэнтнер кармавых адзінак ідзе 3 *ц*, мы павінны загатовіць 909 *ц* бульбы, для чаго павінны пасадзіць 9 *га* бульбы.

Травы зялёнай ідзе 7 *ц* на кожны цэнтнер кармавых адзінак, а на 151,5 *ц* кармавых адзінак (151 × 7) 1060,5 *ц* травы, для чаго трэба пасеяць 10,6 *га*.

Буракоў ідзе 8 *ц* на кожны цэнтнэр кармовых адзінак, а на 75,7 *ц* кармавых адзінак (75,7 × 8) 605. Такая колькасць атрымаецца з пасеву буракоў у 2 *га*. Сілосу ідзе на кожную кармавую адзінку столькі-ж, колькі буракоў, значыць яго трэба таксама 605 *ц*, для чаго павінна быць пасеяна на сілос 10 *га*.

Сена бабовага на кожную кармавую адзінку ідзе $2^1/_2$ адзінкі, а на 150 *ц* кармавых адзінак 375 *ц* сена. Такая колькасць будзе атрымана з 15 *га* пасеву.

Уся пасеўная плошча будзе (112 + 9 + 10,6 + + 10 + 15) 156,6 *га*, або па 3,7 *га* на кожную свінаматку з прыплодам.

# IX

## МАШЫНЫ НА СВІНАГАДОЎЧЫХ КАЛГАСНЫХ ФЕРМАХ

На буйнай свінагадоўчай ферме шмат якія работы, пачынаючы ад прыгатавання корму і канчаючы вывазкай гною, можна выканаць пры дапамозе розных машын і прыстасаванняў.

Праца чалавека ў механізаваных фермах можа быць скарочана да неабходных размераў у такіх работах:

а) Перапрацоўка кармоў і падрыхтоўка да скармлівання.

б) Падача вады і аўтапаенне.

в) Запарка корму.

г) Перавозка кармоў і гною.

д) Чыстка жывёлы.

е) Выдаленне гноевай жыжкі.

ж) Падрыхтоўка кармоў.

## Перапрацоўка кармоў

Перапрацоўцы падлягаюць канцэнтрыраваныя кармы—зерне, макуха, а таксама сена.

**Звычайным млынавым каменем** можна ператварыць зерня ў дзерць і муку, а сухую сенную сечку пераціраць у сенную муку.

Лепшымі з сучасных удасканаленых машын для раздраблення зерня, макухі і сена з'яўляецца малатковы **млын**. Малатковы млын раздрабляе кукурузнае зерне і кукурузныя пачаткі ў кукурузную дзерць і муку, ячмень, авёс, гарох, бабы і макуху—у дробную дзерць і муку і сена—у труху або муку.

Прадукты перапрацоўкі падаюцца пнеўматычным здувальнікам у металічны рэзервуар, з якога праз дзве ніжнія трубы раздробленую масу зручна пагрузіць у мяшкі або скрынкі.

## Падача вады і аўтапаенне

Вада на свінарніку расходуецца ў вялікай колькасці: на паенне на кожную свінню з прыплодам ідзе больш 60 л вады, на мыццё карытаў, змыванне падлогі і да т. п. расходуецца 10—12 л.

Механізаваная вадападача складаецца з помпавай устаноўкі, пры дапамозе якой вада падаецца з калодзежу або ракі ў воданапорны бак або вежу, а з апошняга пры дапамозе металёвых або дзеравяных труб падаецца ў свінарнікі, напаўняючы ў апошніх спецыяльныя рэзервуары, або падводзіцца да аўтаматычных самапаілак.

Пры заказе помпавага абсталявання павінны быць падрабязна паказаны як вытворчасць помпы, так і глыбіня залягання вады ў калодзежы і адлегласць, на якую будзе падавацца вада.

**Аўтапаенне** мае вялікія перавагі перад звычайным спосабам паення свіней. Пры аўтапаенні менш расходуецца вады і вада не забруджваецца, як гэта бывае пры паенні свіней з карыт.

Аўтапаенне можа быць арганізавана вельмі лёгка любой фермай. Для гэтага даволі мець некалькі бочак, якія ставяцца ў металёвы круглы таз радыусам сантыметраў на 40 большы, чым дно бочкі. У бочцы робіцца дзве адтуліны— адна ў верхнім дне, другая—у бакавой клёпцы,

сантыметраў на 10 вышэй ніжняга дна. Вада наліваецца ў бочку праз верхнюю адтуліну пры закрытай ніжняй адтуліне. Пасля напаўнення бочкі верхняя адтуліна закрываецца і адкрываецца ніжняя адтуліна, праз якую выліваецца вада ў таз або карыта да таго часу,




Рыс. 7. Аўтаматычная паілка з простай бочкі.

пакуль вада не закрые адтуліну. Па меры таго як свінні адпіваюць ваду, апошняя ўвесь час дабаўляецца да пастаяннага ўзроўню праз ніжнюю адтуліну ў бочцы. Гэты просты спосаб паення свіней вельмі палягчае работу свінароў, якія аслабаняюцца ад лішняя работы—разноскі вады ў карыты і выплёскванні з іх вады, не выпітай свіннямі.

Простай і зручнай зьяўляецца металёвая аўтапаілка „Гудзона“, якую можна прыстасаваць

да вадаправоду і да простай бочкі. Гэтая паілка дае ваду толькі пры ўмове націскання на на пласцінку мордай жывёлы.

## Запарка корму

Запарваецца для свіней толькі адна бульба. Астатнія віды скармліваюцца ў сырым выглядзе.

Раней чым заварыць бульбу, яе ачышчаюць



Рыс. 8. Аўтаматычная паілка.

ад гразі пры дапамсзе асобай бульбамыйкі або ў звычайных карытах з вадой.

Ачышчаная ад гразі бульба засыпаецца ў бульбазапарнікі, дзе і варыцца парам.

## Перавозка

З кормаперапрацоўваючага памяшкання кармы пасля іх падрыхтоўкі дастаўляюцца ў свінарнікі вёдрамі і насілкамі ўручную, на рознага

роду тачках, конных павозках і г. д. у залежнасці ад размераў свінафермы, адлегласці



Рыс. 9. Амерыканскія аўтаматычныя кармушкі.

свінарнікаў і ад кормаперапрацоўваючых памяшканняў. Але ў гаспадарках механі-



Рыс. 10. Самакармушкі для люцэрназай сечкі.

заваных перавозка ўсякага роду грузаў у свінарнікі або са свінарнікаў праводзіцца

або пры дапамозе ваганетак, якія рухаюцца па падвесных ці наземных рэльсавых шляхох, або пры дапамозе асоба абсталяваных для гэтай мэты маторных вазоў.

**Выдаленне гноевай жыжкі.** Каб каналізацыя заўсёды дзейнічала спраўна, жыжказборныя



Рыс. 11. Узважванне свіней.

калодзежы павінны ўтрымлівацца заўсёды ў парадку і не павінны перапаўняцца жыжкай.

Для адкачвання гноевай жыжкі прымяняюцца помпы, якія дзейнічаюць ад электраматораў, Пры адсутнасці электрычнасці ферма павінна мець ручныя помпы.

## Самакармушкі

Самакармушка будуецца для кармлення свіней сухімі канцэнтрыраванымі кармамі, зялёнай травой і сенасечкай (гл. рыс. 9 і 10).

Пры кармленні пры дапамозе самакармушак зберагаецца праца і корм не раскідаецца пад ногі свіней.

## Вага

Узважванне свіней робіцца або на вазавых вагах, або на звычайных дзесятковых і соценных вагах, абсталяваных клеткай, як паказана на рыс. 11.

# X

# ЗААГІГІЕНА, ПРАФІЛАКТЫКА І ПЕРШАЯ ДАПАМОГА

Для таго каб свінні на ферме былі здаровыя і сярод іх не ўзнікалі захворванні як заразныя—чума, рожа, параціф і іншыя, так і незаразныя—паносы, кашаль, экзема і да т. п., для гэтага кожны калгаснік, які даглядае свіней, а ў асаблівасці калгаснік-брыгадзір павінен ведаць правілы догляду за свіннямі, правілы

папярэджання захворвання свіней і ўмець аказаць першую дапамогу свінням у выпадку захворванняў.

## Вентыляцыя

Прабыванне свіней у закрытых памяшканнях, душных, без праветрывання, вядзе да ўзнікнення сярод іх рознастайных захворванняў. Неабходна ў памяшканні, дзе знаходзяцца свінні, штодзённа асвяжаць паветра. Для гэтай мэты павінна быць зроблена вентыляцыя (труба выцяжная або праз вакно).

## Асвятленне і апал свінарнікаў

Асвятленне мае вялізарнае значэнне ў жыцці жывёл. Без святла яны робяцца вялымі, губляюць апетыт, змяншаецца прырост пры адкорме, маладняк дрэнна расце, часцей падпадае захворванням. Апрача таго светлае памяшканне лягчэй трымаць у чыстаце. Але самае галоўнае—гэта тое, што святло забівае або затрымлівае развіццё мікробаў, нябачных для вачэй жывых істот, якія выклікаюць розныя захворванні жывёл.

Агульная плошча вакон у свінарніку павінна складаць $^1/_{10}$ або $^1/_{15}$ частку плошчы падлогі. Вокны лепш за ўсё размяшчаць на вышыні паўтара метра ад падлогі. У зімовы час неаб-

ходна ўстаўляць другія рамы. Звычайна прырабляюць іх так, каб знадворная рама прымацоўвалася на петлях верхнім краем, а ніжні свабодна адчыняўся, а ўнутраная рама наадварот—прымацоўвалася ніжнім краем, а верхні аставаўся свабодным. Пры такой будове вакон можна рэгуліраваць прыток свежага паветра ў свінарніках, пры гэтым халоднае паветра не будзе дзейнічаць непасрэдна на свіней. Гэтым мы папярэдзім прастуду жывёл. Для падтрымання цяпла ў свінарніках у зімовы час апрача ацяплення сцен, столі і дзвярэй неабходна пабудаваць печы, якія-б падтрымлівалі роўнамерную тэмпературу ў свінарніках.

Нормальнай тэмпературай у свінарніках лічыцца ад 10° да 12° па Ц для супаросных матак і адʻёмышаў і ад 8° да 10° для астатніх груп свіней.

## Падлогі ў свінарніку

Падлогі ў свінарніках павінны быць цёплыя. Халодныя падлогі вядуць да захворвання свіней, асабліва парасят, на раматус і запаленне лёгкіх. Падлога не павінна ўпітваць у сябе нячыстот, якія, разлагаючыся, робяць паветра ў свінарніках шкодным і едкім. Падлога павінна быць такой, каб яе можна было мыць, чысціць і дэзінфецыраваць. Самай лепшай падлогай, але і самай дарагой, лічыцца бетонная або цагляная,

залітая зверху цэментам, з драўлянымі насціламі. Бетонная або каменная падлога без драўляных насцілаў—халодная і патрабуе затраты вялікай колькасці подсцілу і выклікае захворванне свіней на раматус, запаленне лёгкіх і іншыя прастудныя захворванні.

**Земляная ці глінабітная падлога** для свінарнікаў мала прыгодная. Свінні рыюць у іх ямы, у якіх скапляецца мача і разлагаецца, утвараецца гразь, сырасць, смурод, а адсюль хвароба, падзеж і т. д.

**Лепш драўляная падлога**; яна цёплая, больш трывалая, чым папярэднія, але лёгка загнівае ад мачы, патрабуе частага рамонту, слізкая і цяжка дэзынфецыруецца.

Для таго каб у свінарніках не скаплялася і не затрымлівалася вадкасць, падлогі павінны быць зроблены з невялікім нахілам—ад 2 да 5 *см* на кожныя 2 *см* падлогі, і для таго, каб гноевая вадкасць не аставалася ў свінарніку, уздоўж усіх стойлаў робяць канаўкі, па якіх гэта вадкасць выводзіцца з памяшкання на двор у асобы калодзеж—жыжахавальню.

## Подсціл у свінарніку

Лепшым матэрыялам для подсцілу лічыцца азімая салома: яна цёплая, мяккая і добра ўсмоктвае ў сябе вадкасць. З другіх відаў под-

сцілу ўжываюцца лісці дрэў. Апрача таго для подсцілу ўжываюцца мох і валакністы торф, які добра ўсмоктваюць у сябе вадкасць, а торф ачышчае некалькі паветра.

## Што трэба ведаць калгасніку-брыгадзіру для папярэджвання захворвання свіней

Хваробы, якія ўзнікаюць ад няправільнага догляду, утрымання і кармлення свіней і якія не пераходзяць ад аднэй жывёлы на другую, называюцца незаразлівымі: гэта ўдары, раненні, прастудныя захворванні, а таксама запоры і паносы. Хваробы, якія перадаюцца ад аднэй жывёлы другой—называюцца заразлівымі. Выклікаюцца гэтыя хваробы нябачнымі для вока жывымі істотамі—мікробамі, якіх вельмі многа ў глебе, гнаі, у стаячай і балотнай вадзе і ў паветры. Пранікаюць яны ў арганізм праз параненні скуры, праз рот у страўнік і кішэчнік разам з кормам, а таксама і ў лёгкія. Тут яны размнажаюцца і выклікаюць захворванне і смерць жывёлы. Хворыя жывёлы ўтрымліваюць гэтых мікробаў ва ўсіх сваіх выдзяленнях—у сліне, мачы, крыві—і ў сваю чаргу заражаюць другіх жывёл. Лячыць жывёл, хворых заразнымі хваробамі, вельмі цяжка, і яны прыносяць вялікую страту гаспадарцы. Для таго каб не з'явілася такога захворвання ў га-

ємадарцы, неабходна праводзіць наступныя прафілактычныя папераджальныя мерапрыемствы:

а) **Дэзінфекцыя (абеззаражванне).** Раней чым прыступіць да дэзінфекцыі, неабходна ачысціць памяшканне ад гною, абмясці пыл са столі і сцен, абмыць гарачым шчолакам сцены на вышыні не менш 2 *м* і падлогі і пасля гэтага прамыць або пабяліць дэзінфецыруючым растворам.

**Дэзінфецыруючыя растворы прыгатаўляюцца наступным чынам:**

1. Гарачы шчолак. На вядро гарачай вады бярэцца 2—3 *кг* свежага попелу і гэтым растворам мыюць сцены і падлогі.

2. Нягашаная вапна. На вядро вады бярэцца 2 *кг* нягашанай вапны. Гэтым вапняным малаком робіцца пабелка сцен і падлогі.

3. Хлорная вапна. На вядро вады бярэцца 2 *кг* хлорнай вапны. Атрыманым растворам беляць сцены, столі і перагародкі. Пры дэзінфекцыі хлорнай вапнай жывёла выводзіцца з памяшкання на 1—2 дні.

4. Неачышчаная карболавая кіслата. На вядро вады бярэцца 0,25 *кг* неачышчанай карболавай кіслаты і робіцца апырскванне сцен і падлогі.

б) **Агляд свіней.** Для таго, каб своечасова заўважыць захворванне сярод свіней, неабходна часта рабіць агляд іх як на пашы ў часе прагулкі, так і ў свінарніках пры кармленні іх. Пры аглядзе свіней трэба звяртаць увагу на наступнае: ці няма дзе параненняў, якія могуць

лёгка зэгнаіцца, ці не кульгае свіння, ці няма на ёй чырвоных або сіня-чырвоных плям або пасінення на бруху, на вушох, ці няма паносу, запору. Пры раздачы корму сачыць, ці ўсе свінні ядуць корм.

Пры выяўленні гэтых прызнакаў за выключэннем лёгкіх параненняў і кульгання, хворыя свінні павінны быць выдалены ў асобнае памяшканне—у ізалятар, станкі ачышчаны ад гною і прадэзінфецыраваны. У хворай свінні змяраецца тэмпература. Калі тэмпература будзе павышана, то зараз-жа выклікаць доктара для вызначэння хваробы. **Нармальнай тэмпературай у дарослай свінні** лічыцца тэмпература 39,8—40°, у маладняку і падсвінкаў—да 40°. Змярэнне тэмпературы ў жывёлы робіцца ўстаўленнем тэрмометра ў задні праход.

в) **Карантыраванне.** Пры пакупцы для калгасна свінагоднай фермы новых свіней кожны калгаснік павінен ведаць, што купленыя свінні не дапушчаюцца на ферму ў працягу месячнага тэрміну, а ўтрымліваюцца ў спецыяльна адведзеным карантынным памяшканні. Для таго, каб даведацца, ці няма сярод купленых свіней якіх-небудзь заразлівых захворванняў, трэба штодзённа рабіць агляд, часцей змяраць тэмпературу, і пры першых прызнаках захворвання сярод іх (павышэнне тэмпературы, адказ ад корму, чырвоныя плямы на целе) зараз-жа выклікаць доктара для агляду, а хворую свінню выдаліць у асобнае памяшканне. Для дагляду

за купленымі свіннямі неабходна прызначыць асобых прыбіральшчыкаў і карыстацца асобным абсталяваннем, як та: лапатай, вёдрамі, павозкай для перавозкі корму, тарай і да т. п. Прыгатаўленне корму таксама павінна быць асобна. Пасля месячнага тэрміну, калі сярод купленых свіней захворванняў няма, яны пераводзяцца на ферму.

**г) Прышчэпкі.** Хворым робяцца прышчэпкі—лекавыя, здаровым—папераджальныя. Безнадзейна хворыя свінні па заключэнні доктара забіваюцца. Трупы загінуўшых свіней адпраўляюцца ў асобай павозцы на салатопку; калі такой няма то закопваюцца ў зямлю на жывёламагільніку. Выкідаць трупы на поле нельга, таму што сабакі і птушкі будуць разносіць заразу.

д) Апрача таго неабходна дасылаць у бліжэйшую лабараторыю для даследвання ўнутраных органаў загінуўшай, або прырэзанай свінні селязёнку, лёгкія, ныркі, залозу і трубчатую косць, лепш бядраную. Усё гэта неабходна добра запакаваць.

## ЗАРАЗНЫЯ (ІНФЕКЦЫЙНЫЯ) ЗАХВОРВАННІ

### Чума свіней

Заразная хвароба, выклікаецца яна мікробам, які настолькі малы, што яго нябачна нават пад мікраскопам. Захворваюць на чуму свінні

ўсіх узростаў і парод, ва ўсякі час году. Смяротнасць можа дасягнуць у сярэднім 50—60 проц. калі не прыняты своечасова меры.

Пры захворанні чумой свінні трацят апетыт, але з прагнасцю п'юць ваду, тэмпература павышаецца да 41° і вышэй. Свінні ляжаць, закапаўшыся ў подсціл, неахвотна ўстаюць, паяўляецца слабасць зада і хісткая паходка, голас піскдівы, на скуры паяўляюцца чырвонаватыя кропкі або плямы з кроўю ў сярэдзіне. На 6—8-я суткі пасля захворвання свінні звычайна гінуць. У некаторых свіней хвароба прымае зацяжны характар: паяўляюцца панос, кашаль, запаленне лёгкіх. Гэта паказвае, што ў организм прынікдлі і іншыя мікробы і ўскладнілі чуму. Ускладненні пры чуме заўсёды вядуць да смерці.

Верным прызнакам чумы пры ўскрыцці служыць крывязліццё ў выглядзе кропак і плямак па паверхні органаў і слізістых абалонак (гартань, лёгкія, ныркі, страўнік, кішкі і інш.).

## Як весці барацьбу з чумой і папярэджваць яе

Лячыць хворых чумой свіней вельмі цяжка. Для лячэння хворых і папярэджання захворвання здаровых рабіць прышчэпкі сыраваткай супроць чумы. Безнадзейна хворыя свінні па заключэнню доктара забіваюцца. У сучасны момант ва ўсіх мясцох праводзяцца прышчэпкі

сыраваткай супроць чумы і заразнай крывёю (вірус) ад чумнай жывёлы адначасова. Прышчэпленыя такім чынам свінні лёгка пераносяць хваробу і астаюцца няўспрыймальнымі да чумы на ўсё жыццё. Для папярэджання ўзнікнення чумы на ферме неабходна праводзіць прафілактычныя мерапрыемствы.

## Рожа свіней

На рожу свінні захворваюць ва ўзросце ад 2 да 12 мес., пераважна ўвесну і ўлетку. Увосень і зімой вельмі рэдка. Свінні ад рожы гінуць хутка—у 2—3 дні. Хвароба выклікаецца мікробам рожы—тонкай палачкай, бачнай пад мікраскопам. На рожу можа захварэць і чалавек. Заражэнне адбываецца праз драпіны на скуры. Захворванне ў свіней выражаецца апуханнем суставаў і залоз, а іншы праз паражаецца ўнутраная абалонка сэрца.

Пры рожы хутка наступае ліхарадка, высокая тэмпература 42° і вышэй. Свінні трацяць апетыт, паяўляецца сільная слабасць і яны закопваюцца ў подсціл. Па ўсім целе паяўляюцца прыпухшыя, чырвоныя, бясформеныя плямы, якія зліваюцца між сабой (не крывязліцці) і паступова сінеюць. Скура напруджана, іншы раз лопаецца. Лёгкая форма рожы называецца крапіўнай, або чырвонкай. Пры крапіўніцы замест вялікіх плям на скуры паяўляюцца плямы вуглаватай формы, велічынёй з арэх, яны выпуклыя, ружова-чыр-

вонага колеру, а потым сіня-чырвонага, пры націсканні бляднеюць. Крапіўніца або канчаецца выздараўленнем або пераходзіць у вострую форму і праз 4—5 дзён наступае смерць. Свінні, якія выздаравелі пасля рожы, іншы раз раптам гінуць праз 1—2 месяцы пры з'явах сардэчнага захворвання або кульгання. Калі ў гаспадарцы пасля таго, як усе свінні хварэлі рожай, праз 1—2 месяцы, будуць заўважаны слабыя або кульгавыя свінні пры адсутнасці пашкоджанняў на канцавіне, то гэта значыць, што свінні хворыя на хранічную рожу, яны падлягаюць забою.

## Як лячыць свіней ад рожы

Пры захворванні свіней рожай неабходна зрабіць прышчэпку сыраваткай супроць рожы. Па сканчэнні захворвання для таго, каб зрабіць усё свінапагалоўе няўспрыймальным, яму прышчэпваць вакцыну рожы. Дзе рожа свіней паяўляецца штогодна, там, не чакаючы паяўлення хваробы, у пачатку вясны трэба рабіць прышчэпкі вакцынай.

## Паратыфус свіней

Паратыфус—захворванне маладняку ва ўзросце да 8 месяцаў. Хвароба выклікаецца бацыламі паратыфусу і сустракаецца круглы год. Захворванню спрыяюць бруднае, скучанае ўтрыманне і няправільнае кармленне маладняку.

Пры вострай форме паратыфусу нагляедаецца высокая тэмпература (да 41°), колікі, сударгі іншы раз панос. Пры вострай і хранічнай форме—панос, на скуры экзему; парасё худзее, робіцца брудным, ліпкім, паступова прымае выгляд заморыша. Хвароба цягнецца ад 2 да $2^1/_2$ тыдняў, і парасяты гінуць ад знясілення.

Пры ўскрыцці заўважваецца патаўшчэнне сценак кішак, петлі спаяны між сабой студнявіднай масай. На слізістай абалонцы тоўстага аддзелу кішачніка выяўляюцца язвы і амярцвенне слізістай абалонкі Пад мікраскопам у крыві выяўляюцца мікробы паратыфусу.

## Як весці барацьбу і лячыць ад паратыфусу

1. Не аднімаць ад маткі парасят раней 2-месячнага ўзросту.
2. Сачыць за дачай парасятам свежага добраякаснага корму.
3. Утрымліваць парасят у чыстаце.
4. Выдзяляць парасят, хворых паносам, у асобнае памяшканне.
5. Рабіць часцей дэзінфекцыю памяшканняў.

Пры лячэнні робяць клізму, даюць слізістыя адвары ўнутр з ячменю, ільнянага семя, даюць слабіцельныя (каламель, касторка) адвар жалудоў або дубовых лісцяў. Каб засцерагчы ад захворвання здаровых парасят, прышчэпваюць вакцыну супроць паратыфусу.

## Гемарагічная септыцэмія (заражэнне крыві)

Усе віды жывёл і нават чалавек хварэюць гемарагічнай септыцэміяй. У свіней яна не прымае павольнага характару. Выклікаецца гэта захворванне мікробамі септыцэміі, бачнымі пад мікраскопам.

У свіней пры вострай форме хутка павышаецца тэмпература да 42° і вышэй. Паяўляецца хваравіты і працяглы кашаль, цячэнне з носу, на шыі пад горлам можа паявіцца ацечная пухліна і вялікая колькасць дробных крывязліццяў на целе. Свіння ляжыць, не есць, дыханне ўчашчанае, і смерць наступае ў працягу 1—2 дзён.

Пры менш вострых выпадках павышэнне тэмпературы, хваравіты кашаль са ўсімі прызнакамі запалення лёгкіх (крывязліццяў можа і не быць). Смерць наступае праз 7—10 дзён, а іншы раз можа наступіць і выздараўленне.

Хранічна хворыя свінні працягваюць кашляць, худзеюць і становяцца невыгаднымі для гаспадаркі.

**Ускрыцце.** Пры ўскрыцці загінуўшых свіней ад вострай формы знаходзяць: лёгкія перапоўнены крывёй, у грудной поласці вадкасць чырвонаватага колеру і ва ўсіх органах кропкі крывязліцця.

## Як засцерагчы ад септыцэміі (заражэння крыві)

З прычыны таго што свінні хворыя септыцэміяй рэдка выздараўліваць, то лепш іх заб'ць і спыніць гэтым распаўсюджванне захворвання на другіх свіней. Для засцярогі ад захворвання робяць прышчэпкі сыраваткай супроць септыцэміі, але яна засцерагае 2—3 дні. Лепшым сродкам засцярогі ад захворвання з'яўляецца добрае ўтрыманне ў цёплым і сухім свінарніку з дастатковай колькасцю сухога подсцілу, і старанная дэзінфекцыя памяшканняў.

## Яшчур

Захворанне яшчурам рагатай жывёлы цягне за сабой і захворанне свіней, галоўным чынам парасят. Наглядаецца захворанне большай часткай у цёплы час году.

**Прызнакі.** На слізістай абалонцы рота, пятачку, паяўляюцца пухіркі белаватага колеру. Гэтыя пухіркі могуць быць ля венчыка капытоў і на вымі. Паяўляецца кульгавасць, а іншы раз спадае рагавы башмак. Паступова язвы загойваюцца, і жывёла выздараўлівае. Пры забрудненні язвы могуць быць аскладненні. Смяротнасць у дарослых свіней бывае нязначная. Сысуны гінуць хутка і ў вялікай колькасці. Мікроб яшчура нябачны пад мікраскопам. Яшчур

свіней можа пераходзіць за буйную рагатую жывёлу, коз, авечак і чалавека.

## Сібірская язва

Сібірскай язвай заражаюцца хатнія жывёлы і чалавек. Свінні хвараюць рэдка. Заражэнне адбываецца большай часткай летам, калі свінні пасуцца на пашы, паядаючы трупы загінутых ад сібіркі жывёл, выкінутых у поле. У свіней сібірская язва ў большасці працякае ў выглядзе мясцовага захворання. Апухае звычайна шыя каля глоткі.

Пры сібірскай язве павышаецца тэмпература, глытанне і дыханне затруднена, захворванне цягнецца вельмі доўга, бываюць выпадкі выздараўлення. Смерць іншы раз наступае з прычыны задушэння.

Пры паяўленні захворання ўсім здаровым жывёлам робіцца прышчэпка сыраваткай супроць сібірскай язвы. Персонал, які даглядае хворых жывёл, павінен сцерагчыся, каб не заразіцца самому. Ускрываць западзроных у захворанні сібірскай язвай трупы нельга.

## Кароста

Кароста—заразная хвароба скуры ўсіх хатніх жывёл і чалавека. Выклікаецца гэтая хвароба асобнымі кляшчамі. Кароста хутка пераходзіць з аднэй жывёліны на другую.

Пры паяўленні кароcты скура пачынае чырванець і паяўляюцца пухіркі, якія чэшуцца, вудзяць. Жывёла расчосвае гэтыя месцы аб цвёрдыя прадметы, валасы выпадаюць, і ўтвараюцца язвы і струпы. У свіней кароста бывае на галаве за вушамі, каля вачэй, радзей на шыі і спіне.

Для засцярогі ад захворвання коростай жывёлут рэба трымаць у чыстаце, часцей мыць, чысціць. Пры паяўленні кароcты неабходна ўсю здаровую на выгляд жывёлу выдаліць у другое памяшканне і зараз-жа прыступіць да купання свіней у ванне з шчолаку, адвару і інш., а хворых жывёл апрача таго вмазваць маззю па ўказанні доктара. Мазь складаецца са сродкаў, якія забіваюць кляшчоў, як-та—карболавая кіслата, карасін, ртутная мазь, зялёнае мыла. Пры гэтым неабходна памятаць, што ўсю жывёлу змазваць адразу нельга, яна можа загінуць, змазваюць па частках.

## НЕЗАРАЗЛІВЫЯ ХВАРОБЫ

## Запаленне страўніка і кішак

Першымі прызнакамі гэтага захворвання з'яўляюцца панос або запор, ванітаванне, дрэнны апетыт. Свіння не есць корму, ляжыць на баку, стогне, іншы раз б'ецца. Дакрананне да бруха выклікае боль. Тэмпература вышэй 40°. Гэтыя-ж прызнакі могуць быць і пры заразлівых за-

хворваннях (але тады яны паяўляюцца ў многіх свіней) Хвароба можа паходзіць ад дачы нясвежага, загніўшага, зацвіўшага корму. Да прыбыцця доктара неабходна паставіць клізму, зрабіць расціранне і саграванне жывата, даваць лёгкі корм: баўтушку з мукі, малако.

## Атручванне

Пры паяданні свіннямі атрутных раслін, як хвошч, дзікі мак, кукаль, спарыння, беляна, цыбуля і інш., наступае атручванне. Прызнакамі атручвання служаць: ванітаванне, слінацячэнне, сударгі, іншы раз панос з прычыны запалення страўніка і кішак. Адрозніць атручванне ад заразлівых захворванняў або ад простага запалення страўніка і кішак можна па тым, што захворванне пачынаецца ў многіх жывёл пасля кармлення гэтымі травамі. Лячыць такіх жывёл самаму вельмі цяжка. Трэба зараз жа паклікаць доктара, спыніць пасвінне і кармленне зялёным кормам.

## Запаленне лёгкіх

Захворванне ўзнікае пры ўтрыманні свіней у сырых, халодных свінарніках з халоднай падлогай і пры недахопе падсцілу, пры перавозцы свіней у вагонах у халодны час, пры ўтрыманні свіней на пашы ў часе дажджоў, пры скразняках у свінарніках.

Пры запаленні лёгкіх свінні пачынаюць кашляць, больш ляжаць, тэмпература даходзіць да 41° і вышэй, дыханне затруднена, хрыплае, з носа выцякае слізь. Праз 8—10 дзён наступае смерць або хвароба пераходзіць у хранічную форму, і свінні ўвесь час кашляюць. Такія ж прызнакі бываюць і пры септыцэміі. Адрозніць лёгка: пры септыцэміі захворванне распаўсюджваецца на другіх свіней, чаго няма пры запаленні лёгкіх.

## Ускрыцце

Пры ўскрыцці выяўляюць цвёрдыя ўплатнёныя ўчасткі ў лёгкіх, танучыя ў вадзе. Колер гэтых ўчасткаў ад бледнаружовага да цёмна-чырвонага. Крывязліццяў ва ўнутраных органах няма, што бывае пры септыцэміі.

Пры правільным доглядзе і ўтрыманьні свіней запаленне лёгкіх бывае вельмі рэдка.

Лечаць запаленне лёгкіх шляхам увядзення пад скуру камфорнага масла ў дозе 4 *куб. см* на галаву штодзённа, а ўнутр даюць адхарквалючае: нашатыр, сурму чорную і чырвоную саладковы корань і г. д.

## Сонечны і цеплавы ўдар

Сонечны ўдар бывае ў свіней пры працяглым дзеянні простых сонечных праменняў на арганізм жывёлы. Гэта захворванне здараецца галоўным чынам летам, калі свінні знаходзяцца

на пашы пад адкрытым небам, дзе яны ляжаць або пасуцца на сонцы.

Хвароба праяўляецца раптоўна: дыханне частае, затрудненае, пульс слабы, іншы раз павышаецца тэмпература, вочы наліты крывёй, жывёла непакоіцца, паяўляюцца сударгі, потым параліч і смерць. Падобнае да гэтага захворванне—цеплавы ўдар. Ён большай часткай бывае ў часе перавозак або ўтрымання свіней у гарачых душных памяшканнях, або ў часе шпаркага перасоўвання на вялікія адлегласці.

Прызнакі: павышаная тэмпература, частае дыханне, дрыжанне, потым смерць.

Пры ўтрыманні на пашы ў гарачае надвор'е неабходна пераганяць свіней у зацененыя месцы або пад павеці, пабудаваныя для гэтай мэты. У часе перагону свіней на вялікую адлегласць патрабуюцца астаноўкі праз кожныя 1—2 гадзіны, дастатковае паенне, адпачынак і зноў перагон павольным шагам. Пры ўзнікненні захворвання падскурнае ўвядзенне камфоры 5 *куб. см* на галаву—або кафеін, перавод свіней у прахладнае памяшканне, абліванне халоднай вадой і халодныя клізмы.

## Рахіт

Пры недахопе ў арганізме маладой жывёлы мінеральных соляй, вапны, фосфару наглядаецца захворванне касцей у маладняку, якое завецца рахітам.

Прызнакамі захворвання рахітам служыць вялікая галава, правісшыя сківіцы, скрыўленне ног, патаўшчэнне суставаў на нагах, бочкападобныя рэбры. Свіння кульгае, не падымаецца. поўзае на каленках або валочыць заднія ногі,

Правільны догляд, утрыманае і карменне папярэджваюць паяўленне рахіта сярод маладняку. Хворых рахітам парасят лечаць дачай у дастатковай колькасці мінеральнай падкормкі, унутр—рыб'і тлушч ў дозе 20—50 *куб. см* на галаву і прадастаўленне выгулу з утрыман нем на сонцы.

## Остэамаляцыя

(Размякчэнне касцей). Остэамаляцыя—таксама захворванне касцей, але ў дарослых жывёл. Адбываецца яно пры няправільным усваенні арганізмам мінеральных соляй, якія даюць з кормам жывёле. Жывёла вымушана расходваць свае ўласныя запасы, якія маюцца ў касцях Косць стачаецца, траціць цвёрдасць, становіцца ломкай і ў канчатковым выніку косці не могуць вытрымаць цяжару цела—згінаюцца, а іншы раз ламаюцца, што можа выклікаць смерць жывёлы.

Прызнакі такія, як пры рахіце, толькі няма змен галавы і сківіц. Хвароба цяжка вылячымая. Жывёлы з пераломамі ног падлягаюць забою. Лячэнне такое-ж, як і пры рахіце.

## Раненні

Пры раненні належыць абстрыгчы вакол раны шэрсць, абмыць рану растворам карболавай кіслаты, крэаліну, лізолу і іншымі дэзінфецыруючымі растворамі, змазаць настойкай ёду; калі краі раны вісяць ласкутамі, то іх загадзя трэба абрэзаць. Пры сур'ёзных раненнях выклікаць доктара для налажэння швоў або астаноўкі крывяцячэння. У летні час апрача прамывання і змазвання ёдам паверхня ран прысыпаецца моцна пахнучымі парашкамі з нафталіну, ёдаформу і т. д. для таго, каб не завяліся чарвякі.

## Удары

Пры ўдарах змочваць халоднай вадой або вуксусам ударанае месца. Рэкамендуецца прыкладанне гліны, разведзенай у халоднай вадзе

## Барацьба з вашыма

Пры брудным утрыманні ў свіней паяўляецца шмат вошай на целе, якія непакояць свінню. Знішчэнне вошай вытвараецца чысткай і купаннем у 2-процантным растворы крэаліну або зялёнага мыла адначасова з ачысткай і дэзінфекцыяй памяшкання моцным шчолакам, 2 процантным растворам крэаліну. Апрача таго рэ-

камендуецца змазванне свіней карасінам з маслам, крэалінавай і лізолавай маззю па частках. Па апошніх доследах добра дзейнічае апырскванне свіней 3-працантным растворам хлорыстага натру.

## ГЛІСТНЫЯ ХВАРОБЫ СВІНЕЙ

Апрача заразных захворванняў, якія выклікаюцца мікробамі, ёсць яшчэ хваробы, якія ўзнікаюць з прычыны заражэння свіней паразітамі, бачнымі простым вокам. Гэтыя паразіты называюцца глістамі. З глістных захворванняў свіней часцей за ўсё сустракаецца фіноз і эскарыдоз.

### Фіноз

Захворванне фінозам, або крупкай адбываецца праз заражэнне яечкамі глістоў, так званым салітэрам, якія знаходзяцца ў чалавечых выпражненнях. Свінні вельмі ахвотна паядаюць кал чалевека і такім шляхам разам з імі праглынаюць і яечкі глістоў.

У кішэчніку свінні з яечак развіваюцца лічынкі, якія ў далейшым праз сценкі апошняга пранікаюць у мышцы, г. зн. у мяса. Вызначыць захворванне свінні фінозам пры жыцці вельмі цяжка, таму што лічынкі знаходзяцца ў мясе і выяўляюцца пасля забою свінні шляхам глы-

бокіх разрэзаў мышц задніх канцавін (шынак) і шчок.

У свінні, якая заражана фінозам, у мясцох разрэзаў відаць лічынкі глістоў у выглядзе белых крупінак, размерам у прасянае зерне. Пры наяўнасці такіх крупінак туша бракуецца, таму што пры ўжыванні ў страву заражанага фінозам мяса чалавек заражаецца салітэрам.

Меры барацьбы з фінозам чыста прафілактычныя: трэба папярэдзіць паяданне свіннямі чалавечых выпаражненняў, а для гэтага каля свінарнікаў і на пашы будуюцца добра абсталяваныя прыбіральні, абнесеныя загародкай.

## Аскарыдоз

Аскарыды—гэта глісты даўжынёй да 15 *см*, якія нагадваюць па сваёй форме дажджавога чарвяка. Знаходзяцца яны ў кішэчніку свінні і кормяцца ежай, якую ядзяць свінні, і апрача таго гэтыя глісты выдзяляюць атруты, ад якіх адбываецца захворванне свінні.

Свінні, хворыя аскарыдозам, худзеюць, у іх паяўляецца змена апетыту, колікі, сударгі, ваніты, паносы або запоры. У выпаражненнях іх знаходзяць вышаўшых разам з калам глістоў і апрача таго там-жа ёсць вялікая колькасць яец аскарыд, не бачных простым вокам. Заражэнне аскарыдамі адбываецца пры паяданні калу свінней, хворых аскарыдозам.

Лячэнне праводзіцца пад наглядам вэтдоктара шляхам дачы ўнутр глістагонных і слабіцельных сродкаў, пасля чаго робіцца акуратная ачыстка свінарніка і выгулаў ад гною з наступнай дэзінфекцыяй і абавязковым спальваннем гною.

## Кастрацыя кнуркоў

Пасля дасягнення парасятамі 5—6-тыднёвага ўзросту, усіх кнуркоў, якія не пакідаюцца на племя, неабходна кастрыраваць. Кастрыраваныя жывёлы хутчэй адкармліваюцца і даюць лепшую прадукцыю.

Кастрацыя робіцца наступным чынам: парася падымаецца за заднія ногі галавой уніз або кладзецца на стол на левы бок. Машонка мыецца цёплай вадой з мылам, потым праціраецца спіртам, бэнзынам або якім-небудзь дэзінфекцыруючым растворам і змазваецца настойкай ёду.

Пасля такой падрыхтоўкі кастратар левай рукой захватвае абодва яечкі разам, моцна іх трымае, а правай рукой, у якой знаходзіцца скальпель (нож) робіць два разрэзы на машонцы адпаведна палажэнню яечак.

Пры разрэзе прарэзваецца скура і наступныя за ёй абалонкі да таго часу, пакуль у адтуліну ран не выціснуцца яечкі. Пасля гэтага падразаюцца плёначкі, якія прымацованы да яечак, яечка перакручваюць 2—3 разы і па аднаму яечку адрываюць. Пасля выдалення яечак

раны змазваюцца настойкай ёду і ў гарачы час года засыпаюцца дэзінфецыруючым парашком (ёдаформ, тальк, нафталін). Парасяты з машо-начнай кілой кастрыруюцца пры ўдзеле вэт-доктара.

За $^1/_2$ сутак да кастрацыі парасятам не даецца корм, а непасрэдна пасля кастрацыі іх змяшчаюць у чысты станок са свеж м пад-сцілам і ў працягу 3—5 дзён кастраты абав.зкова выпускаюцца на прагулку, каб уникнуць утварэння ацёкаў.

Кастрыраваць дарослых кныроў без удзелу вэтдоктара не рэкамендуецца з прычыны небяспекі крывацячэння.

---

„Комунізм пачынаецца там, дзе паяўляюцца самаахвярныя, перамагаючыя цяжкую працу клопаты радавых рабочых за павялічэ ие прадукцыйнасці працы" (Ленін).

# XI

## АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ НА СТКФ

### Як правільна арганізаваць брыгаду на СТКФ, каб зжыць абязлічку

Каб ліквідаваць абязлічку ў доглядзе і ўт ры-манні свіней, трэба ўсё пагалоўе фермы разбіць на групы па 21 свінаматцы і 1 кныру, пры ма-

цаваць за брыгадай матак разам з іх прыплодам да канца адкорму і продажу таварнай прадукцыі або да пераводу маладняку ў дарослае матачнае стада. Брыгада свінаводаў абслугоўвае замацаванае за ёй пагалоўе без перадачы другім калгаснікам і на пашы і ў стойлавы перыяд. Інакш кажучы, каб сапраўды выгнаць з фермы абязлічку і павысіць адказнасць свінаводаў за даручаную ім работу, **трэба ўвесці брыгаднае абслугоўванне**, як таго патрабуе **новае палажэнне аб арганізацыі працы** на СТКФ, зацверджанае НКЗ СССР 27 красавіка 1932 г.

Змяняць склад замацаванага за брыгадай пагалоўя свіней нельга апрача выпадкаў выбракоўкі, пастаноўкі на карантын або пераводу свіней у ізалятар фермы пры заразных хваробах.

Група свіней, прымацаваная да брыгады, павінна складацца з 18—21 свінаматкі з іх прыплодам. Вытворчая брыгада, за якой будзе замацавана такая група свіней, складаецца з 3 свінаводаў, адзін з якіх больш вопытны і падрыхтаваны павінен быць брыгадзірам. У брыгадзе з 3 свінаводаў пры брыгадным доглядзе за пагалоўем абязлічкі не будзе.

Брыгада выконвае ўсе работы па догляду за свіннямі: падрыхтоўка корму, своечасовае кармленне і паенне, паша свіней і выпуск на прагулку, уборка і ўтрыманне ў чыстаце станкоў, правядзенне дэзінфекцыі ў памяшканні, чыстка

і купанне жывёл, правядзенне злучкі і прыём парасят, іх падкормка, начное дзяжурства і інш. Работа ў брыгадзе павінна быць арганізавана так, каб у любы час дня і ночы ў свінарніку дзяжурыў адзін са свінаводаў брыгады. Пагалоўе, замацаванае за брыгадай, для лепшага догляду і кармлення размяшчаецца ў станках па ўзросных групах; маткі супаросныя, падсосныя парасяты-ад'ёмышы, рамонтны і адкармачны маладняк.

У пашавы перыяд адзін са свінаводаў брыгады выконвае работу па догляду за супароснымі маткамі апошняга перыяду (за 15 дзён да апаросу), другі корміць і выганяе падсосных матак з парасятамі на прагулку і выпас поблізу свінарніка, а трэці пасе астатніх свіней на пашы воддаль ад свінафермы. У выпадку патрэбы ў дапамогу свінаводу, які пасе свіней водаль ад свінафермы, і асабліва калі свінні астаюцца круглыя суткі на пашы і складаюцца з розных узросных груп, трэба назначыць падпаска.

У невялікіх свінафермах, з пагалоўем менш 18—21 свінаматак, на свінаферме працуюць 2 свінаводы, а ў свінафермах з пагалоўем менш 10 свінаматак на ферме працуе адзін замацаваны свінавод, у дапамогу якому выдзяляецца падростак. Як у першым, так і ў другім выпадках ніякіх змен у складзе замацаванага пагалоўя дапускаць нельга апрача выпад-

каў, паказаных раней (выбракоўка, ізалятар, каранты н).

Кожнай брыгадзе паасобку загадчык фермай павінен устанавіць вытворчае заданне на цэлы год, у якім павінна быць указана: 1) колькасць апаросаў і парасят, атрымліваемых ад кожнай свінаматкі; 2) колькасць патрэбных кармоў; 3) прырост жывой вагі рамонтных падсвінкаў і свіней, якія адкармліваюцца; 4) план продажу дзяржаве таварных свіней; 5) колькасць працадзён, належачых брыгадзе пры выкананні ўсяго вытворчага задання; 6) памер грашовай даплаты па 1 рублю за: а) злучку кожнай маткі, б) зберажэнне кожнага парасяц ва ўзросце $1^1/_2$—$2^1/_2$ месяцы; в) кожны прадааы цэнтнер таварнай прадукцыі дзяржаве; 7) прыкладныя паказанні і разлікі налічэння працадзён за перавыкананне вытворчага задання; 8) размер утрыманняў працадзён за недавыкананне вытворчага задання.

На СТКФ, якія маюць некалькі брыгад, усё пагалоўе фермы размяркоўваецца паміж брыгадамі пароўну. Для гэтага свінні разбіваюцца на групы па пароднасці і якасці (плоднасць, малочнасць і інш.), потым кожная такая група свіней у сваю чаргу разбіваецца на групы: маладняк (парасяты-ад'ёмышы, рамонтныя, адкормачныя)—па ўзросту і вазе, а маткі (супаросныя і падсосныя)—па часу пакрыцця і апаросу. Чыстапародныя маткі і маладняк (калі іх хапае на некалькі брыгад) размяркоў-

ваюцца паміж брыгадамі таксама пароўну з такім разлікам, каб кожная брыгада мела адносна аднолькавы склад маладняку па ўзросту і вазе, аднолькавы склад матак па часу злучкі і апаросу. Пагалоўе гэтых брыгад або аднэй брыгады (калі яго не больш 21 свінаматкі) павінна скласці племянное гняздо ці камбінат. Гэтай разбіўкай вельмі важна выдзеліць чыстапародных матак і маладняк у племянное гняздо, апіраючыся на якое ферма можа і павінна заняцца развядзеннем чыстапародных свіней.

Новыя свінарнікі трэба будаваць так, каб забяспечыць жылой плошчай 21 свінаматку і 1 кныра разам з іх прыплодам да канца вырошчвання і адкорму маладняку. Усе адбудаваныя да сучаснага часу свінарнікі трэба прыстасаваць так, каб у іх можна было размясціць 21 свінаматку з прыплодам. Гэта дапаможа хутчэй зжыць „цэхавы“ спосаб утрымання свіней, знішчыць абязлічку. Пабудову новых і пераабсталяванне старых свінарнікаў трэба рабіць па новаму праекту стандартнага свінарніка № 2, серыі II 1932 г.

Абязлічку таксама трэба зжыць у захаванні і скарыстанні інвентара фермы (бульбазапарнікі, корнярэзкі, макухадрабілкі, пасуда і інш.). Пры адсутнасці адказнасці за захаванне інвентара, за ўтрыманне яго ў чыстаце і парадку, часта інвентар псуецца, здараюцца перабоі ў прыгатаванні кармоў.

## Як арганізаваць здзельшчыну ў СТКФ

Падзённая аплата працы ўжо даўно даказала сваю няпрыгоднасць у калгасах. Толькі пры здзельшчыне можна правільна арганізаваць працу, таму што пры здзельшчыне павышаецца зацікаўленасць калгаснікаў у падняцці прадукцыйнасці сваёй працы і якасці прадукцыі. Правільна наладжаная здзельшчына павышае даход калгаснікаў і даход калгасаў у цэлым. Пры здзельшчыне хто добра працуе, той многа і атрымлівае. Пры добра наладжанай здзельшчыне няма ўраўнілаўкі, няма месца гультаям, рвачам і сімулянтам. А пры падзённай аплаце працы працьвятае ўраўнілаўка, хаваецца за спіной добрасумленна працуючых калгаснікаў рвач, гультай, затрымліваецца ў калгасах многа лішняй рабочай сілы і т. д.

Вельмі часта на СТКФ здзельшчынай лічаць налічэнне працадзён па колькасці абслугоўваемых галоў без вучоту прадукцыі фермы. На самой справе гэта не здзельшчына. У пагоні за працаднямі на шкоду гаспадарцы калгаснікі бяруць непасільную нагрузку па пагалоўі, ад гэтага вялікая колькасць матак астаецца халастымі, пачынаецца падзеж парасят, які даходзіць у некаторых свінафермах да 70 проц., і зусім нікчэмны прырост жывой вагі. ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г. указаў партыйным і калгасным арганізацыям, што „шырокае распаўсюджанне павінна атрымаць пра-

веранай на доследзе лепшых жывёлагадоўчых ферм практыка абслугоўвання ў брыгадзе калгаснікамі пэўнай групы жывёл з тым, каб жывёлагадоўчая брыгада і ўваходзячыя ў яе калгаснікі аплачваліся ў залежнасці ад рэзультатаў іх работы (колькасць выдаенага малака, прырост вагі маладняку, размер прыплоду і т. д.)".

Работа ў калгасах вядзецца на пачатках брыгаднай групавой або індывідуальнай здзельшчыны. У паляводстве часцей за ўсё прыходзіцца весці работу на аснове групавой, а не брыгаднай здзельшчыны, таму што брыгады паляводства звычайна вялікія (30—40 калгаснікаў). На шмат якіх палявых работах (полка, уборка) прымяняецца індывідуальная здзельшчына, калі лёгка даць заданне і ўлічыць работу кожнага асобнага калгасніка. На СТКФ брыгады складаюцца з 3 чалавек, а самы характар работы не дазваляе прымяняць індывідуальную здзельшчыну. Таму неабходна работу на СТКФ праводзіць на пачатках брыгаднай здзельшчыны, г. зн. улічваць і ацэньваць работу ўсёй брыгады ў цэлым, а не кожнага асобнага свінавода.

Наркамзем СССР устанавіў для калгасаў 7 груп работ, розных па ступені цяжкасці і кваліфікацыі, якая патрабуецца для іх выканання. Згодна палажэння аб арганізацыі працы, зацверджанаму НКЗ СССР 27 красавіка 1932 г., работа свінаводаў па догляду за свіннямі ад-

несена ў 4-ю групу цяжкіх работ, якія патрабуюць спецыяльнага вопыту для іх выканання. а работа калгаснікаў па падвозцы корму, вады, подсцілу, вывазцы гною і т. д. аднесена ў 3-ю групу цяжкіх работ. Гэта значыць, што дзённая норма выпрацоўкі свінаводаў ацэньваецца ў 1,25 працадня, а дзённая норма выпрацоўкі калгаснікаў, занятых падвозкай кармоў, подсцілу, вывазкай гною і т. д., ацэньваецца ў 1 працадзень.

Брыгады свінаводаў працуюць на СТКФ пастаянна ў працягу ўсяго году (365 дзён) і самі ўстанаўляюць дзяжурствы па свінарніку дні адпачынку. Кожнаму свінаводу за год павінна быць налічана (1,25 · 365) 456 працадзён Брыгадзіру-свінаводу налічваецца на 50 проц. больш, чым радавому свінаводу, г. зн. 684 працадні. Таму што ў брыгадзе радавых свінаводаў 2, то ацэнка іх работы будзе роўна (456 + 456) 912 працадням, а разам з брыгадзірам ацэнка работы ўсёй брыгады выразіцца 456 + 456 + 684) у 1596, або з акругленне у 1600 працадзён.

Але гэта зусім не значыць, што кожная брыгада за догляд за 21 маткай з прыплодам атрымае 1 600 працадзён. 1 600 працадзён будзе налічана брыгадзе, калі яна выканае сваё вытворчае заданне па захаванні маладняку і выхаду таварнай прадукцыі. Згодна палажэнню аб арганізацыі працы на СТКФ, зацверджанаму НКЗ СССР для 1932 г., устаноўлена ў сярэд-

нім па Саюзу 6,5 парасят 8-месячнага ўзросту ад маткі ў год жывой вагі 70 *кг* кожны падсвінак. Выходзячы з гэтага і лічачы норму нагрузкі на брыгаду ў 21 матку, вытворчае заданне брыгадзе вызначыцца (21 × 6,5) з акругленнем у 135 парасят, а жывая вага прыплоду будзе роўна (135 × 70) 94,5 *ц*. **Толькі пры атрыманні гэтай прадукцыі брыгадзе будзе налічана 1 600 працадзён. Гэта павінен памятаць кожны свінавод.**

Каб брыгада свінаводаў у аднолькавай меры была зацікаўлена ў вырошчванні і захаванні парасят і ў атрыманні пэўнай вагі, **неабходна** з належачай брыгадзе колькасці працадзён за выкананне гадавога вытворчага задання **палову налічыць за захаванне і вырошчванне парасят і палову за іх жывую вагу вырашчанай прадукцыі**, г. зн. з 1 600 працадзён 800 налічыць за вагу і 800 працадзён за атрыманую прадукцыю. Парасяты гінуць галоўным чынам першыя 4 месяцы іх жыцця. Для таго, каб зацікавіць брыгаду ў захаванні парасят да 4 месяцаў, устаноўленыя 800 працадзён для налічэнне за захаванне і вырашчванне неабходна налічыць так: пры апаросе за жывых парасят—30 проц., або 236 працадзён, за давядзенне парасят да 2-месячнага ўзросту—40 проц., або 324 працадні, за давядзенне парасят да 4-месячнага ўзросту—30 проц., або 236 працадзён, а ўсяго будзе 800 працадзён.

Цяпер лёгка разлічыць, як ацаніць адзінку

прадукцыі ў працаднёх, г. зн. ацэнку 1 ц жывой вагі і аднаго парасё ва ўстаноўленым узросце. Для ацэнкі адзінкі прадукцыі, калі лічыць, што ў брыгадзе будзе 135 парасят, то пры апаросе за кожнае жывое парасё брыгадзе трэба налічаць (236 : 135) —1,75 працадні; за захаванне парасят да 2-месячнага ўзросту (324 : 135) — 2,40 працадні; за захаванне парасят да 4-месячнага ўзросту (236 : 135) — 1,75 працадні і за кожны цэнтнер жывой вагі ў 8-месячным узросце (800 : 94,5) — 8,50 працадні.

Пры ўстаноўленай вышэй ацэнцы адзінкі прадукцыі для брыгады пры выкананні ёй вытворчага задання кожнаму радавому свінаводу і брыгадзіру будзе налічана працадзён (гл. таб. на ст. 209)

Каб зацікавіць свінаводаў у захаванні парасят і павышэнні вагі звыш устаноўленых заданняў, палажэннем аб арганізацыі працы на СТКФ устаноўлена, каб за кожнае парасё 4 месяцаў, атрыманае звыш плана, радавым свінаводам дадаткова налічаць па 1 працадню, а брыгадзіру—1,5 працадні і за кожны цэнтнер жывой вагі, атрыманай звыш плана, радавым свінаводам трэба налічаць па 5 працадзён, а брыгадзіру—7 працадзён.

Апрача таго для павышэння зацікаўленасці свінаводаў у вырошчванні парасят, а таксама ў выкананні плана продажа (здачы) таварнай прадукцыі дзяржаве, у кожным калгасе, які мае свінаферму, па рашэнню НКЗ СССР праўленне калгаса абавязана выдаваць брыгадзе

| Назва паказальнікаў | Норма выпрацоўкі брыгады выходзячы з 6,5 спраўных парасят 8-месячнага ўзросту ад маткі ў год | Будзе налічана працадзён за адзінку прадукцыі | | Гадавая выпрацоўка ў працаднёх пры выкананні вытворчага задання. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Кожнаму радавому свінаводу | Старшаму свінаводу (брыгадзіру) | Радавому свінаводу | Старшаму свінаводу (брыгадзіру) | Брыгадзе ў цэлым |
| 1. За кожнае жывое пры апаросе зарэгістраванае парасё ў дзень нараджэння . . . | 135 парасят. | 0,50 | 0,75 | 68 | 100 | 236 |
| 2. За кожнае аднятае 2-месячнае парасё . . | 135 „ | 0,70 | 1,00 | 95 | 135 | 324 |
| 3. За кожнае давядзенае да 4-месяч. узросту парасё . . . | 135 „ | 0,50 | 1,75 | 68 | 130 | 236 |
| 4. За кожны цэнтнер прод. ў жывой вазе ад 135 × 70 — —94,5 ц. . . . | 94,5 ц | 2,50 | 3,50 | 237 | 330 | 804 |
| | — | — | — | 468 | 665 | 1600 |

свінаводаў грашовую дапамогу звыш налічаемых працадзён з разліку па 1 руб. за кожную злучаную матку, па 1 руб. за кожнае парасё, захаванае да $1^1/_2$—$2^1/_2$-месячнага ўзроста і па 1 руб. за кожны цэнтнер таварнай прадукцыі, прададзенай (зданай) дзяржаве. Гэтыя даплаты выдаюцца калгасам свінаводам зараз-жа па дасягненні парасятамі ўстаноўленага ўзроста і пасля кажнай партыі свіней, прададзенай дзяржаве.

Як бачым, пры ўмове захавання пагалоўя выканання плана па прыросту жывой вагі і выхаду таварнай прадукцыі калгаснікі-свінаводы атрымаюць больш высокую аплату за сваю працу, чым калгаснікі, працуючыя ў другіх галінах калгаса. Другая справа будзе тады, калі на ферме дапусцяць падзеж маладняка, калі план не будзе выканан.

Палажэннем аб арганізацыі працы на СТКФ установлена, што за кожнае загінуўшае парасё з радавых свінаводаў спаганяецца ў двайным размеры супроць налічэнняў за захаванне, а з брыгадзіраў у двайным размеры супроць утрыманняў з радавых свінаводаў яго брыгады. За загінуўшае парасё да 2-месячнага ўзроста з радавых свінаводаў павінна ўтрымлівацца па 1 працадню, а з брыгадзіра 2 працадні, за загінуўшае парасё ва ўзросце ад 2 да 4 месяцаў з радавых свінаводаў утрымліваецца па 2,40 працадні, а з брыгадзіра 4,80 працадні, за загінуўшага падсвінка

старэй 4 месяцаў з радавых свінаводаў утрымліваецца па 3,40 працадні, а з брыгадзіра 6,80 працадні.

Праца тэхніка свінавода і веттэхніка, калі яны члены калгаса і працуюць у сваім калгасе, ацэньваецца ў два разы вышэй сярэдняй выпрацоўкі радавых свінаводаў; вызвалены ад работы вучотчык фермы атрымлівае нароўне з брыгадзірам-свінаводам, а брыгадзір абслугоўваючай брыгады атрымлівае па сярэдняй выпрацоўцы радавых свінаводаў.

Таксама павінна быць арганізавана праца і ў **племянных калгасных свінафермах**, за выключэннем здзельнай ацэнкі адзінкі прадукцыі (прыплод, прырост, жывая вага і т. д.).

У звязку з тым, што матачны склад племянных ферм па якасці (плоднасці, малочнасці і інш.) вышэй, чым свінаматкі ў таварных фермах, а племянны маладняк будзе прадавацца ва зросце 4—6 месяцаў, то вытворчае заданне брыгадам у племянных фермах павінна быць большае.

У племянных фермах вытворчае заданне для брыгад павінна ўстанаўляцца, выходзячы з 7,5 спраўных парасят ад маткі ў год установленай якасці і вагі. З атрыманага прыплода павінна быць не менш 24 проц. племянных падсвінкаў першага класа, 46 падсвінкаў другога класа і не больш 30 проц. племяннога браку. Племянны брак павінен быць адкормлены, і жывая вага

падсвінкаў пад канец адкорма павінна быць не менш 80 кг.

Выходзячы з таго, што найбольш цэнным матэрыялам у племянных свінафермах з'яўляюцца парасяты першага і другога класа, то здзельную ацэнку адзінкі продукцыі ў такіх фермах неабходна складці так, каб яна зацікавіла свінаводаў у атрыманні большай колькасці такіх парасят.

Вытворчае заданне брыгадзе ў племянных фермах і здзельная ацэнка адзінкі прадукцыі ўстанаўляецца такім-жа шляхам, як і ў таварных фермах.

Згодна інструкцыі па арганізацыі здзельшчыны ў племянных фермах, зацьверджаннай Свінаводкалгасцэнтрам, здзельная ацэнка для брыгады ўстаноўлена наступная: за кожнае народжанае жывым парасё і зарэгістраванае ў дзень нараджэння—1,75 працадні; за кожнае аднятае 2-месячнае парасё—2,50 працадні; за кожнага падсвінка ва ўзросце 4—6 месяцаў першага класа—8,75 працадні; другога класа—5,25 працадні, за племянны брак—1,75 працадні і за цэнтнер праданай таварнай прадукцыі дзяржаве—3,50 працадні.

Для павышэння зацікаўленасці свінаводаў ў атрыманні большай колькасці племянных парасят звыш налічаемых працадзён брыгадзе ўстаноўлена грашовая даплата ў размеры 2 руб.

за кожнае парасё першага класа і 1 руб. за парасё другога класа.

Калі-ж брыгада дае парасят вышэй першага класа (эліта), то ёй павінна быць выдана на кожнае такое парасё па 4 рублі.

Налічэнне працадзён за перавыкананне вытворчага задання і ўтрыманне за падзеж праводзіцца ў тым-жа парадку і ў тых-жа размерах, як і ў таварных фермах.

Кожны калгас, які мае СТКФ, павінен безадкладна прымяніць гэту здзельшчыну на практыцы. За адказ прымяняць яе праўленні калгасаў і загадчыкі фермамі павінны быць прыцягнуты да адказнасці, як за парушэнне рашэнняў НКЗ Саюза.

Калгаснікі-свінаводы ў сваю чаргу павінны весці барацьбу за ўвядзенне такой здзельшчыны, таму што для іх гэта выгадна, як выгадна і для ўсяго колгаса.

## Устанавіць цвёрды распарадак дня для кожнай брыгады

На СТКФ неабходна ўстанавіць для кожнай брыгады распарадак работ на кожны дзень. Распарадак работ распрацоўваецца заг. СТКФ, абгаварваецца на вытворчай нарадзе фермы і абавязкова зацвярджаецца праўленнем або агульным сходам калгаса.

Распарадак работ вывешваецца на відным месцы ў кожным свінарніку. Выкананне яго кожным калгаснікам свінаводам абавязкова.

Прыкладны распарадак дня для брыгады можа быць наступным:

## I У стойлавы перыод

У стойлавы перыод работа пачынаецца не пазней 5 гадзін раніцы. Брыгады свінаводаў падрыхтоўваць корм для сваёй групы свіней (варка бульбы, запарка паловы, мыццё і рэзка караньплодаў). Свіней кормяць у сталовых. Спачатку кормяць ад'ёмышаў і рамонтны маладняк, пасля дарослых свіней і адкормачных. Паенне свіней праводзяць пасля кармлення.

У час кармлення адзін свінавод чысціць станкі і кладзе свежы подсціл. Пасля кармлення ўсіх свіней чысцяць кармушкі, сталовую і заканчваюць прыборку ўсяго памяшкання, ставяць для парасят у станках скрыні са свежым пяском, драўляным вугалем. Малочную і сухую зерневую падкормку сысуноў праводзіць да кармлення падсосных матак. Работа заканчваецца не пазней 9 гадзін раніцы.

Дзённая работа пачынаецца з 12 гадзін дня. Брыгада гатовіць кармы, корміць парасят і дарослых свіней, пасля кармлення поіць вадой, чысціць кармушкі і сталовыя і выпускае свіней на прагулку. Праз 2—3 гадзіны гатовіць корм

для парасят і корміць іх. Дзённая работа заканчваецца не пазней 4 гадзін дня.

Увечары работа пачынаецца ў 6 гадзін. У вячэрнюю работу ўваходзіць: падрыхтоўка корма і кармленне парасят і свіней, чыстка кармушак, сталовай і станкоў.

## II. У пашавы перыод

Кожная брыгада пасе сваіх свіней асобна; пры гэтым пасвінне можа праводзіць адзін свінавод, у дапамогу якому выдзяляецца падпасак, астатнія 2 свінаводы гатовяць корм, чысцяць станкі і дзяжураць каля матак, што паросяцца,—якія астаюцца ў свінарніку.

Распарадак работ на пашавы перыод наступны: з 5 гадзін свіней выганяюць на пашу; у гэты час робяць уборку памяшкання, у 7 гадзін даюць канцэнтрыраваны корм, пояць і прыбіраюць сталовыя і кармушкі. У 12 гадзін дня даюць канцэнтрыраваны корм падсосным маткам і ад'ёмышам. Калі свінні пасуцца далёка і ўдзень у свінарнік не прыганяюцца, то корм падвозіцца на пашу, пасля кармлення свіней пояць і купаюць, прыбіраюць і чысцяць кармушкі.

Увечары свіней прыганяюць у свінарнік, даюць канцэнтрыраваны корм і чысцяць кармушкі. Як у летні, так і ў зімовы перыод начное дзяжурства па свінарніках праводзяць самі свінаводы на чарзе; пры гэтым дзяжурны сві-

завод праводзіць падкормку парасят пад маткай, наглядае, каб маткі не задушылі парасят, і не дапускае бойкі паміж свіннямі.

Прыкладны распарадак дня можа змяняцца ў залежнасці ад мясцовых умоў, але ўся работа павінна выконвацца шляхам брыгаднага абслугоўвання.

## Ауладаць тэхнікай свінагадоўлі

Раней свінагадоўля была распылена ў аднаасобных сялянскіх, пераважна кулацкіх і заможных гаспадарках. Вялася свінагадоўля некультурна. Развядзенне свіней у буйных калгасных фермах павінна весціся на аснове навейшых даных навукі аб свінагадоўлі.

Каб наладзіць добры догляд за свіннямі і забяспечыць высокую таварнасць фермы, калгаснікам трэба аўладаць тэхнікай свінагадоўлі. Кожны калгас, кожная ферма павінна з дня ў дзен клапаціцца аб павышэнні ведаў свінаводаў. Для гэтага неабходна пасылаць калгаснікаў на курсы па свінагадоўлі. Шырокае прымяненне ў фермах павінна знайсці завочнае абучэнне, якое не патрабуе адрыва ад вытворчасці. Апрача таго ў кожнай ферме павінны быць створаны гурткі па вывучэнню тэхнікі свінагадоўлі. Кіраваць гурткамі павінны тэхнікі, свінаводы, веттэхнікі, ветсанітары або загадчыкі фермамі.

Для выяўлення, наколькі свінаводы ўсвоілі пройдзены курс, неабходна наладжваць праверку ведаў, з тым каб для адстаючых арганізаваць заняткі дадаткова.

Кожны калгаснік, які працуе на свінаферме, павінен цвёрда памятаць, што без ліквідацыі тэхнічнай непісьменнасці, без аўладання тэхнікай свінагадоўлі нельга працаваць на калгаснай свінаферме, не прыносячы шкоды свінагадоўлі. Толькі тады можна стварыць культурную высокатаварную свінагадоўчую гаспадарку, зрабіць яе прыбытковай і выгаднай калгасу і калгаснікам, калі свінаводы будуць працаваць над кнігай, калі іх веды са дня ў дзень будуць павышацца.

У большай меры гэта адносіцца да загадчыкаў фермамі і брыгадзіраў-свінаводаў, якія павінны быць перадавікамі ў гэтай справе.

# XII

## УЛІК І СПРАВАЗДАЧНАСЦЬ

Кожны загадчык свінафермай і брыгадзір-свінавод павінны ведаць, як правільна паставіць вытворчы ўлік на СТКФ.

На кожнай СТКФ робіцца ўлік:

1. Будынкаў.
2. С-г. інвентара, машын і абсталявання.

3. Свінапагалоўя.
4. Вытворства кныроў і матак.
5. Кармоў і матэрыялаў.
6. Працы.
7. Выкананне вытворчага плана.

Улік трэба весці па формах, зацверджаных Наркомземам СССР.

Каб наладзіць правільны ўлік, праўленне і раней за ўсё рахункавод калгаса павінен растлумачыць важнасць ўліку сярод калгаснікаў, а таксама навучыць іх тэхніцы ўліку. Рэвізійныя камісіі калгаса павінны правяраць становішча ўліку і паляпшаць пастаноўку яго.

## Улік будынкаў

На ўсе будынкі, замацаваныя ў калгасе за фермай, як: свінарнікі, свіран для ссыпкі і хавання кармоў, хавальні для корань-клубняплодаў, сілосная вежа, сілосная траншэя або ямы і да т. п. павінен быць заведзен спецыяльны вопіс. Складаецца гэты вопіс па форме № 6. Кожны будынак у вопіс запісваецца асобна.

Падставай для запісаў у гэты вопіс пры прыёмцы будынкаў служыць пастанова праўлення калгаса аб перадачы і замацаванні будынкаў за фермай і потым прыёмачна-здатачны акт, які складаецца спецыяльнай камісіяй пры абавязковай прысутнасці заг. фермай; у гэтым акце абавязкова запісваецца назва будынка з кароткім яго апісаннем (з якога матэрыяла

зроблены сцены, фундамант, дах, размер—даўжыня, шырыня, вышыня, месцазнаходжанне, размер у куб. метрах, змяшчальнасць—на якую колькасць галоў або колькасць тон), з паказаннем у якім парадку будынак паступіў (у парадку абагульнення, куплена, пабудавана калгасам, калі), і нарэшце кошт яго.

Падставай для запіса ў вопіс пры выбыцці служаць акты, якія складаюцца камісіяй з удзелам заг. фермай, аб зносе будынкаў з-за старасці або на матэрыял для новага будаўніцтва, акт аб тым, што будынак згарэў, пастанова праўлення калгаса аб перадачы будынка і т. д.

## Улік с-г інвентара машын і абсталявання

Улік с-г інвентара і абсталявання фермы заг. фермай вядзе па форме № 7.

Усе запісы ў вопіс па форме № 7 робяцца па меры паступлення с-г інвентара і абсталявання на ферму або ў выпадку іх выбыцця з фермы. У старых фермах запісы ў вопісы пачынаюцца падрабязным пералічэннем і апісаннем па становішчу 1 студзеня (штогодна), а ў нова арганізаваных сярод году—з дня фактычнага паступлення маёмасці ў распараджэнне фермы. Для таго каб па запісах ў вопісах устанавіць, якая-ж іменна маёмасць асталася на пачатак года, у канцы паказаных першапачатковых запісаў па ўсёй шырыні

бланка вопіса праводзіца рыса, і потым ужо пад гэтай рысай робяцца ўсе далейшыя записы аб паступленні маёмасці на ферму.

Пры запісах маёмасці ў вопіс уся цэнная маёмасць заносіцца так, каб кожны прадмет быў запісан асобна, малакаштоўныя аднародныя прадметы заносяцца агульнай групай (напрыклад лапаты, граблі, вілы, мяшкі, вёдры і да т. п.).

Запісы ў інвентарны вопіс трэба рабіць ясна, выразна, без памылак, падчыстак і галоўнае своечасова, г. зн. у дзень або па крайняй меры не пазней наступнага дня, калі маёмасць паступіла на ферму або з фермы выбыла.

Штогодна ў канцы года становішча наяўнасці на ферме маёмасці правяраецца спецыяльна прызначанай праўленнем калгаса камісіяй па інвентарызацыі. Калі пры праверцы выявіцца разыходжанне паміж запісамі ў вопісу фермы і запісамі ў праўленні калгаса або разыходжанне паміж фактычнай наяўнасцю маёмасці і тым, што значыцца ў опісах, камісія абавязана высніць прычыну разыходжання і выявіць вінаватага ў гэтым разыходжанні.

Складзены камісіяй акт праверкі зацвярджаецца праўленнем калгаса пасля чаго фактычна выяўленая на ферме маёмасць, як гэта было сказана вышэй, заносіцца ў новы інвентарны вопіс новага года.

Падставы для запіса ў інвентарны вопіс тыя-ж самыя, што і пры ўліку будынкаў.

## Улік свінапагалоўя

Для ўліку змен у складзе свінога стада фермы і выяўлення наяўнага пагалоўя—на ферме павінен весціся вопіс свіней (форма № 8). У вопісу трэба паказаць: лік, калі робіцца запіс, клічку жывёлы, пароду, нумар, пад якім жывёла запісана ў дзяржаўную племянную кнігу (калі толькі яна племянная жывёла і зарэгістравана ў гэтай кнізе), вушны нумар жывёлы, устаноўлены ёй на ферме, узрост, вага, у якім парадку паступіла жывёла на ферму (паступіла з грамаджанага стада калгаса, куплена, паступіла ад прыплода), яе кошт, калі яна куплена; калі-ж жывёла выбыла са склада стада фермы, то ў вопісу трэба паказаць, калі выбыла і нумар дакуманта, які служыць падставай для выключэння жывёлы з вопіса.

Для таго каб улічыць рух і фактычную наяўнасць свінапагалоўя ў кожнай брыгадзе па паказанай форме (№ 8), трэба складаць вопіс асобна па кожнай брыгадзе на тое пагалоўе, якое за кожнай з іх замацавана.

У старых фермах запісы ў вопісах пачынаюцца з пералічэння і апісання свінапагалоўя па наяўнасці на 1 студзеня, якое ўстанаўляецца штогодна шляхам фактычнай праверкі спецыяльна прызначанай праўленнем калгаса камісіяй, а ў новых запісы пачынаюцца з пералічэння свінапагалоўя на дзень арганізацыі фермы. У абодвух выпадках пад гэтымі пачатковымі запі-

самі праводзіцца ва ўсю шырыню бланка вопіса рыса, і пад рысай працягваюць весці запісы аб усіх наступных зменах у складзе стада фермы.

Дарослыя свінні (маткі і кныры) у вопіс заносяцца кожная галава асобна, у адносінах маладняка дапушчаецца запіс цэлай групы з тым, што ў склад групы ўваходзіць маладняк аднаго ўзроста.

Кожны месяц даныя аб колькасці свіней па вопісах правяраюцца, як па дакумантах, на падставе якіх рабіўся запіс, так і па наяўнасці свіней у свінарніку.

Каб палегчыць праверку наяўнасці свіней у свінарніку, над кожным станком вывешваецца дошчачка, на якой брыгадзір-свінавод абавязан штодзённа выпісваць крэйдай наяўнасць дарослых кныроў—клічку, узрост; над станкамі матак—клічку, узрост, колькі халастых, колькі пакрытых, якога чысла пакрытых, калі-ж гэта будзе станок падсобных матак, паказаць: клічку, узрост, калі апарасілася, колькі прывяла парасят, колькі іх лічыцца на апошняе чысло.

## Улік прадукцыйнасці кныроў і матак

Апрача інвентарнага ўліку, свінапагалоўя на кожнай ферме абавязкова ўлічваецца прадукцыйнасць кныроў і матак.

Для ўліку прадукцыйнасці кныра неабходна

на кожнага кныра завесці асобную картку— „Ведомасць злучкі кныра“.

У гэтай картцы ў загалоўку паказваюцца: клічка кныра, парода, узрост, паходжанне (па бацьку, па матцы), адкуль паступіў і і калі паступіў і калі выбыў—час выбыцця, а потым у ніжняй частцы рэгулярна заносяцца даныя аб пакрыцці матак, прычым у адной частцы неабходна паказаць дату злучкі, чарговы нумар злучкі, вушны нумар пакрытай маткі, якую колькасць парасят прывяла матка, якая была ім пакрыта, з іх жывых, нежывых, потым вушны нумар матак, якія асталіся пасля пакрыцця халастымі, і нарэшце ў графе „увага“ прыводзяцца заўвагі заотэхніка і ветдоктара.

Для ўліку продукцыйнасці матак неабходна завесці асобную ведамасць. „Ведамасць злучкі матак, апароса і ад'ёма парасят“ (форма № 43). У гэтай ведамасці паказваецца: вушны нумар маткі, клічка, узрост, месяц і чысло злучкі, вушны № кныра, з якім матка была злучана, месяц і чысло чакаемага апароса, месяц і чысло, калі матка фактычна апарасілася, колькасць нарадзіўшыхся парясят, з іх свінак, кныроў, жывая вага парасят, колькасць нежывых парасят пры нараджэнні і нарэшце колькасць аднятых парасят у 2-мес. узросце асобна свінак і кныркоў, жывая вага іх. Для ўсяго гэтага ў ведамасці для кожнай маткі трэба адзяліць па 6 радкоў, в разліку тры апаросы ў працягу 2 год, усяго на 4 гады, г. зн. на ўвесь тэрмін службы маткі.

## Улік кармоў і матэрыялаў

Пры ўліку кармоў і матэрыялаў могуць быць два выпадкі: 1) калі калгас выдзеліў ферме асобныя кормахавальні і складачныя памяшканні і 2) калі спецыяльна выдзелены кормахавалень і складачных памяшканняў ферме не мае і ўсе кармы і матэрыялы захоўвае ў агульных калгасных хавальнях і складах.

У першым выпадку пытанне яснае: кармы і матэрыялы, выдзеленыя калгасам для фермы, паступаюць у кормахавальні або на складачнае памяшканне фермы, і тут па меры патрэбнасці робіцца водпуск іх з дазволу заг. фермай. Для ўліку кармоў і матэрыялаў у гэтым выпадку на ферме вядзецца таксама і вядзенне запісаў у „Прадуктова-матэрыяльнай кнізе" (форма № 9).

У тым выпадку, калі загадванне кармамі і матэрыяламі на ферме даручана спецыяльна прызначанай асобе—кладаўшчыку,—„Прадуктова-матэрыяльную кнігу" вядзе кладаўшчык; калі-ж для таго на ферме спецыяльнай асобы не выдзелена і таму абавязкі кладаўшчыка фактычна вядзе сам загадчык, то ў гэтым выпадку на яго ўскладаецца таксама і вядзенне запісаў у „Прадуктова-матэрыяльнай кнізе". Для кожнага віда кармоў і матэрыялаў у паказанай кнізе адкрываецца асобны ліцавы рахунак. Звычайна ўсе кармы і матэрыялы ў большасці выпадкаў будуць паступаць на ферму праз праў-

ленне калгаса. Таму запрыходванне паступаючых на ферму кармоў і матэрыялаў будзе рабіцца на падставе накладной, якую ў гэтым выпадку выпісвае праўленне калгаса. Аднак на практыцы магчымы выпадкі паступлення кармоў і матэрыялаў непасрэдна на ферму, абыходзячы склад праўлення калгаса. У такіх выпадках падставай для запрыходвання паступіўшых кармоў і матэрыялаў будуць рахункі або накладныя тых арганізацый, ад якіх яны фактычна паступілі.

## РАСХОДВАННЕ КАРМОЎ І МАТЭРЫЯЛАЎ

робіцца на падставе патрабаванняў (форма № 14), выпісваемых па меры патрэбнасці брыгадзірамі-свінаводамі пасля зацверджання іх загфермай.

Пры выпісцы патрабавання на кармы ў патрабаванні паказваецца дата, калі выпісана патрабаванне на якую колькасць галоў і якія запытваюцца кармы, на які тэрмін. Выпіску кармоў брыгадзе належыць рабіць на тэрмін не больш аднэй дэкады, згодна норм дачы зацверджаных на ферме для асобных груп свінапагалоўя.

Пасля таго як кладаўшчык зробіць выдачу кармоў, колькасць фактычна выданых кармоў паказваецца ў ніжняй частцы патрабавання пад словам „выдана“, потым у карашку „распіска

ў атрыманні" бярэцца распіска асобы, якая атрымала кармы.

У канцы месяца асоба, у веданні якой знаходзяцца зернехавальня і складскія памяшканні па ўсіх адкрытых у „Прадуктова-матэрыяльнай кнізе“ рахунках, абавязана зрабіць і скласці ведамасць абаротаў (па прыходу і расходу) і рэштак кармоў і матэрыялаў. Складаецца ведамасць у двух экземплярах, адзін астаецца пры справах фермы, а другі—адсылаецца ў праўленне калгаса.

У тым выпадку, калі ферма сваіх асобных хавальняў не мае і кармы і матэрыялы знаходзяцца на хаванні ў агульных складачных памяшканнях калгаса, у мэтах устанаўлення строгага ўліку матэрыялаў і кармоў асоба рэкомендуецца ўстанавіць наступны парадак:

1. Забраніраваныя за фермамі матэрыялы і кармы, а роўна і кармы, якія паступілі ад ураджаю з замацаваных за фермай кармавых плошчаў, змяшчаюцца асобна ад іншых кармоў і матэрыялаў, якія знаходзяцца на складзе.

2. Ніхто, апрача загфермай не мае права на распаражэнне кармамі і матэрыяламі фермы.

3. Кладаўшчык калгаса ў „Прадуктова матэрыяльнай кнізе“ на ўсе віды кармоў і матэрыялаў фермы адкрывае асобныя рахункі.

4. У канцы месяца кладаўшчык прадстаўляе ферме месячную „Ведамасць абаротаў і астачы“ аб кармох і матэрыялах фермы.

Для ўліку кармоў, фактычна скормленых у

# ВЕДАМАСЦЬ

па налічэнні працадзён кіруючым работнікам і абслугоўваючаму персоналу (апрача свінаводаў) на свінагадоўчай ферме пры .................................................... калгасе таварнай племяной ........................................................ за ................................ 193........... г

| № па чарзе | Прозвішча, імя і па бацьку | Назва выконваемай работы | Сярэдняя выпраоўка працадзён за месяц | | Налічана працадзён кіруючаму і абслугоўваючаму персоналу | | Выдана прэмій | | Адзнака ў працоўную кніжку. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Брыгадзір свінавод | Радавых свінавод. | За месяц | З пачатку году | Грашыма (сума) | Праматвары (на суму). | |
| | | | | | | | | | |

асобных брыгадах, брыгады складаюць і прадстаўляюць загфермай месячную ведамасць (форма № 19). Само сабой зразумела, што ў тым выпадку, калі на невялікай ферме загфермай фактычна выконвае і функцыі брыгадзіра,— абавязак скласці гэтую ведамасць ляжыць на ім.

## Улік працы

Улік працы на ферма мае мэтай устанавіць колькасць і якасць работы брыгад свінаводаў па выкананню імі вытворчага задання і на аснове гэтага вызначыць колькасць працадзён і грашовай даплаты, якія падлягаюць налічэнню на долю кожнай брыгады і ў брыгадзе на долю кожнага калгасніка.

Па новым палажэнні аб арганізацыі працы на СТКФ, зацверджаным НКЗ СССР, кожнай ферме даецца вытворчае заданне на цэлы год; таму месячныя нарады-заданні для кожнай брыгады цяпер не патрэбны. Улік працы трэба рабіць па наступнай форме, якая ўводзіцца замест ранейшага нарада (гл. таб. на стр. 299).

Такая картачка адкрываецца на кожную брыгаду асобна. У верхняй частцы формы, як бачым, трэба паказаць прозвішчы, імёны і па бацьку асоб, уваходзячых у брыгаду, потым устаноўленыя нормы вытворчага задання, нормы кармоў і нормы аплаты працы.

У ніжняй частцы формы робяцца ўжо самыя запісы па налічэнні працадзён і грашовай

## Вы т орчае заданне і налічэнне працадзён брыгадзе №.........................

| Удзельнікі брыгады: імя прозвішча, аддзел | Уступіў у склад брыгады (дата) | Самазамацаваўся на які тэрмін | Выбыў (дата) | Выключан (дата) | Прэміраван (сума) | Вытворчае заданне брыгадзе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Калі ўстаноўлена | Кольк. абслуг. матак | Найменне паказчыкаў |
| 1. | | | | | | | | Пакрыць матак . . . |
| 2. | | | | | | | | Атрымаць апаросаў . . |
| 3. | | | | | | | | Атрымаць парасят пры . |
| 4. | | | | | | | | Захаваць да 2-м. узроста |
| 5. | | | | | | | | Захаваць да 4-м. узроста |
| 6. | | | | | | | | Здаць продукц. жывой вагі |
| 7. | | | | | | | | Прадаць таварнай прадук. |
| | | | | | | | | Разам . . . . |

| Кольк-касць галоў | Будзе налічана працадзён | | | Грашовая даплата | Адпушчана кармоў | Назва кармоў | Колькасць цэнтнераў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Свінаводу | Брыгадзіру | Брыгадзе | | | | |
| | | | | | | | |

даплаты па ўсіх паказчыках выканання вытворчага задання, а таксама тут-жа робіцца запіс аб утрыманнях за падзеж і надбаўках за перавыкананне норм вытворчага задання. Запісы ў картачку робяцца зараз-жа пасля выканання той ці іншай часткі вытворчага задання. Пры кожным запісу ў першай строчцы трэба паказваць колькасць налічаных працадзён, а таксама грашовай даплаты па ўсёй брыгадзе, у наступных радкох паказваецца, колькі іменна налічаецца кожнаму ўдзельніку брыгады ў паасобку.

## Улік выканання вытворчага плана

Улік выканання вытворчага плана вядзецца па двух формах: 1) па кнізе здачы таварнай прадукцыі і 2) кнізе месячнага выканання вытворчага плана. У кнізе „Улік таварнай прадукцыі" адкрываецца асобны рахунак, на адкормы сальных, паўсальных, бэконных свіней.

У гэтай кнізе паказваецца: 1) якую колькасць валавой прадукцыі мяркуецца атрымаць па плану і колькі фактычна атрымана; 2) каму вызначана прадаваць прадукцыю, у якой колькасці і ў якія тэрміны; 3) дата запіса, нумар дакумантаў, ад якой брыгады прадукцыя атрымана і ў якой колькасці; 4) каму здадзена прадукцыя, у якой колькасці і вага, колькі прадана ў лік плана і заключаных дагавароў, проценты выканання плана і дагавароў і нарэшце сума выручкі ад продажу таварнай прадукцыі.

У кнізе „Месячны ўлік вытворчага плана“ паказваюцца месячныя вынікі па выкананні вытворчага задання кожнай брыгадай свінаводаў у паасобку. У гэтай форме патрабуецца паказаць наступнае:

1. Колькасць галоў, абслугоўваемых кожнай брыгадай.

2. Агульная колькасць выхадаў на работу.

3. Колькасць затрачаных працадзён і калі была затрата ў конскай сіле, то і конядзён (па плану і фактычна).

4. Колькасць кармоў, асобна—грубых, сільных, сакавітых (па плану і фактычна).

5. Колькасць валавой прадукцыі (па плану і фактычна) і здача таварнай прадукцыі (па плану і фактычна) процант выканання вытворчага плана.

Потым у гэтую кнігу заносяцца на аснове месячнай справаздачнай ведамасці звесткі па расходванні кармоў і нарэшце на аснове прыёмачна-здатачных актаў або другіх замяняючых іх дакумантаў або здачы таварнай прадукцыі.

## Справаздачнасць

Для СТКФ установлена 2 формы справаздачнасці: адна—дэкадная картачка да тэлеграфнай справаздачнасці і другая—месячная справаздача. Абедзве формы ўзгоднены з НКЗ СССР і зацверджаны Цэнтральным кіраўніцтвам народнагаспадарчай справаздачы СССР. Дэкадная

| Чысло і месяц. | Прозвішча, імя і па бацьку | Налічана працадзён | | | | | | | | Усяго налічана працадзён | Налічана за перавыканапне | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | За маладняк пры нараджэнні | | За захаванне парасят да 2 мес. | | За захаванне парасят да 4 мес. | | За жывую вагу маладняка да 8 мес. | | | Парасят да 4 мес. | | За цэнтнер жывой вагі | |
| | | Колькасць галоў | Налічана працадзён | Колькасць галоў | Працадзён | Колькасць галоў | Працадзён | Колькасць галоў | Працадзён | | Галоў | Працадзён | Цэнтнераў | Працадзён |
| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | | | | | | | | | |

| Усяго налічана працадзён | Утрымана за падзеж | | | | | | Усяго ўтрымана працадзён | Налічана працадзён у працоўн. кніжку | Выдана грашовай даплаты | | | Выдаткавана кармоў | Назва кармоў | Колькасць цэнтнераў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Парасят да 2 мес. | | Парасят ад 2 да 4 мес. | | Маладняка старэй 1 мес | | | | | | | | | |
| | Галоў | Працадзён | Галоў | Працадзён | Галоў | Працадзён | | | За парасят—$2^1/_2$ мес. | За цэнтнер таварнай прадукцыі | За супаросную матку | | | |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | | | | | | | | | | | | |

справаздачнасць складаецца фермай на 1, 10 і 20 чыслы кожнага месяца і прадстаўляецца раёну ў тэрмін, устаноўлены райжывёлаводкалгасаб'яднаннем. Месячная справаздача складаецца ў канцы кожнага месяца і прадстаўляецца ў райземаддзел упаўнаважанаму не пазней 5 чысла наступнага за справаздачным месяца.

# XIII

## ПРОДАЖ ТАВАРНЫХ СВІНЕЙ У ЛІК ДЗЯРЖАЎНАГА ПЛАНА ЖЫВЁЛАЗАГАТОВАК І АРГАНІЗАЦЫЯ КАЛГАСНАГА ГАНДЛЮ

### Як скласці план і заключыць дагавор на продаж таварных свіней дзяржаве

План продажу (здачы) свіней вызначаецца заданнем, якое складаецца райжывёлаводкалгасаб'яднаннем на аснове ўліку наяўнага пагалоўя свіней і роста гэтага пагалоўя на працягу года па даных вытворчага плана СТКФ.

План продажу (здачы) таварнай продукцыі складаецца абавязкова згодна галоў і жывой вагі з падраздзяленнем на свіней бэконных,

сальных, паўсальных і мясных. Планы продажу (здачы) складаюцца памесячныя, пакваргальныя і гадавыя Перад пачаткам кожнага месяца ферма павінна складаць каляндарны план продажу (здачы) свіней на наступны месяц.

Складзены заг. фермай план продажу (здачы) таварных свіней правяраецца і дэталёва абгаварваецца на вытворчых нарадах фермы.

Пасля гэтага план паступае на зацверджання праўлення і агульнага схода калгаса.

Зацверджаны калгасам план продажу (здачы) таварнай прадукцыі неадкладна пасылаецца ў райземаддзел на зацверджанне.

Калі ў калгасе няма каму распрацаваць і скласці план продажу (здачы) таварных свіней, то трэба звярнуцца за дапамогай у раён.

План продажу (здачы) таварных свіней фермы ўваходзіць у агульны план продажу жывёлы дзяржаве, які даецца калгасу сельсоветам і раённымі арганізацыямі.

Уся работа па распрацоўцы, складанні і зацверджанні плана продажу (здачы) таварных свіней як правіла павінна быць скончана перад пачаткам новага года, г. зн. у снежні.

Пасля атрымання з раёна плана продажу (здачы) кожны калгас павінен заключыць з раённай канторай Заготжывёлы кантрактацыйны дагавор на продаж (здачу) таварных свіней.

## Якасць свіней, якія прадаюцца дзяржаве

Якасць свіней, якія прадаюцца на забой, павінна адпавядаць наступнаму стандарту, устаноўленаму Камітэтам па стандартызацыі ў чэрвені 1931 г.

## Мясныя свінні

### а) Бэконныя

1. Парода—культурныя, чыстапародныя свінні метысы.
2. Жывая вага ва ўзросце ад 6 да 10 месяцаў ад 75 да 120 *кг* уключна, оптымальная вага—100 *кг*.
3. Знадворны выгляд—спіна доўгая, роўная, лапатка лёгкая і шчыльна прылягаючая да тулава, жывот не адвіслы, з роўнай ніжняй лініяй, тонкі касцяк, тонкая, але без складак скура.
4. Таўшчыня шпіка—ад 2 да 6 *см* уключна у хрыбтовай частцы між 6 і 7 рэбрамі.
5. Забойная вага са скурай—ад 72 да 77 проц.
6. Выхад бэкона—не ніжэй 57 проц. жывой вагі.
7. Для вытвара бэкона не дапушчаюцца: некастрыраваныя самцы, кныркі, кастрыраваныя ва ўзросце старэй 4 месяцаў, маткі ў другой палавіне супароснасці, падсосныя

маткі, маткі, якія хоць-бы адзін раз апарасіліся, падсвінкі позняспелых некультурных простых свіней, падсвінкі з траўматычнымі пашкоджаннямі (рубцамі, слядамі ад ўдара, пабояў і да т. п.).

### б) Разрубачныя (небэконныя)

1. Парода—культурныя, чыстапародныя свінні пры вымушанай прырэзцы і свінні мясцовых непалепшаных, позняспелых парод.
2. Жывая вага ва ўзросце ад 6 да 12 месяцаў—ад 75 да 100 *кг.* уключна.
3. Таўшчыня шпіка—ад 2 да 5 *см.*
4. Забойная вага без скуры—ад 62 да 75 проц. і са скурай—ад 70 да 75 проц.

## Паўсальныя свінні

### а) Жывая вага

1. Жывая вага культурных, частапародных свіней і метысаў ва ўзросце ад 10 да 15 месяцаў—звыш 120 да 116 *кг* уключна.
2. Жывая вага простых непалепшаных позняспелых свіней ва ўзросце ад 12 да 18 месяцаў звыш 100 да 130 *кг* уключна.

### б) Знадворны выгляд

1. Для культурных парод свіней і метысаў знадворныя формы цела круглыя, спіна шырокая, шыя таўстая зліваючаяся з галавой,

ляжкі круглыя, часта спускаюцца да скакальнага сустава. Скура на тулаве добра напоўнена падскурным тлушчам, роўная без складак. Пры прашчупванні рукой шпік цвёрды.

Скура з цяжкасцю захопліваецца пальцамі, бруха роўнае, не падцягнутае.

2. Для мясцовых простых свіней—тыя-ж прызнакі, але слабей выражаны.

в) **Таўшчыня шпіка**—для ўсіх парод і атроддзяў свіней у хрыбетнай частцы ад 5 да 7 *см.* уключна.

г) **Забойная вага** без скуры ад 65 да 72 проц., са скурай ад 75 да 80 проц.

## Сальныя свінні

### а) Жывая вага

1. Жывая вага культурных парод свіней і метысаў ва ўзросце ад 15 месяцаў і старэй—звыш 160 *кг.*
2. Жывая вага простых познаспелых свіней ва ўзросце ад 18 месяцаў і старэй—звыш 130 *кг.*

б) **Знадворны выгляд**—тыя-ж прызнакі, што і для паўсальнай свінні, але значна больш выражаны.

в) **Таўшчыня шпіка** для ўсіх свіней—звыш 7 *см.*

г) **Забойная вага** для ўсіх свіней без скуры—звыш 72 проц., са скурай—звыш 80 проц.

Забойнай вагой лічыцца вага тушы без унутранасцяй, але з галавой, унутраным тлушчам і нагамі.

Продаж свіней з паніжанымі супроць стандарта кондыцыямі можа рабіцца толькі з дазволу раённай канторы свінаводкалгассаюза.

## Цэны на свіней, якія прадаюцца дзяржаве

Згодна пастановы Комітэта цэн пры СПА ад 15 лютага 1932 г. з 1 лютага 1932 г. за свіней, якія прадаюцца ў лік плана жывёлазагатовак, на пункты Заготжывёлы ўстаноўлены такія цэны (ў капейках) за кілограм жывой вагі:

1. У Маскоўскай, Ленінградскай, Іванава-прамысловай вобласцях, ЗСФСР, сярэдняазіяцкіх рэспублік і Карэльскай АССР бэконныя і сальныя—118, паўсальныя—107, мясныя—88.
2. У БССР, Заходняй і Уральскай вабласцях, ДУК, Паўночным краі, Якуцкай АССР, Кіргізскай АССР і Паўднёвым Казакстане бэконныя і сальныя—100, паўсальныя—90 і мясныя—76.
3. У УССР, ЦЧВ, Паўночным Каўказе, Сярэдняволскім і Ніжняволскім краёх АССР немцаў Паваложжа, Ніжнягародскім краі, Татарскай АССР, Башкірскай АССР і Крым-

скай АССР бэконныя і сальныя—90, паўсальныя—80 і мясныя—66.

4. У Казакскай АССР (паўночныя раёны), Заходнясібірскім і Ўсходнясібірскім краёх бэконныя і сальныя—76, паўсальныя—65 і мясныя—56.

Пры здачы таварных свіней на пункты Заготжывёлы фермам павінны выплачвацца спецыяльныя надбаўкі:

а) пры здачы свіней непасрэдна на пункты Заготжывёлы—у размеры 3 проц з асноўнай іх цаны;

б) пры продажу бэконнных свіней жывой вагой ад 70 да 80 *кг* па 2 рублі, жывой вагой ад 80 да 100 *кг*.—па 5 руб. за кожную галаву, жывой вагой ад 100 да 120 *кг*—па 3 руб.;

в) за дастаўку на пункт здачы ад 50 да 70 *км*—па 5 проц. ад асноўнай цаны свінні за кожныя 15 *км* дастаўкі.

Разлік за праданых свіней робіцца канторай Заготжывёлы з фермамі зараз-жа (не пазней 48 гадз. пасля прыёмкі свіней); сумы, якія прылічваюцца калгасу, пераводзяцца на бягучы рахунак калгаса ў бліжайшы да апошняга райбанк.

За пратэрміноўку выплаты грошай ферме за зданых свіней канторай Заготжывёлы павінна плаціць ферме пені па 0,1 проц. за кожны пратэрмінованы дзень, а пасля 10 дзён—няўстойку ў размеры 3 проц. з невыплачанай у тэрмін сумы.

## Дастаўка свіней на загатпункты

Пры дастаўцы з фермы свіней на загатпункт неабходна захоўваць такія правілы:

1. Павозка або сані ўсцілаюцца дастатковым слоем саломы.
2. Ногі свіней трэба перавязваць мяккай вяроўкай калі перавозка свіней робіцца не ў спецыяльна абсталяваных, а на звычайных павозках ці санках.
3. Пры далёкіх перавозках зімой у маразы свіней трэба ўкрываць саломай і пакрываллам.
4. Летам у гарачы час перавозіць трэба ўночы, раніцай або ўвечары.
5. Здаровых лёгкіх на вагу свіней (да 80 *кг* вагой і не вышэй паўсальнай укормленасці) можна дастаўляць гонам, пры чым хуткасць гону не павінна быць вышэй 4—5 *км* у гадзіну.
6. Перад адпраўкай свінні абавязкова аглядаюцца ветдоктарам, які выдае праважніку свіней пасведчанне і маршрут.

Дастаўленыя на прыёмны пункт свінні павінны прымацца зараз-жа. У тым выпадку, калі свінні дастаўлены на адлегласці да 25 *км*, дапушчаюцца скідкі з фактычнай жывой вагі не больш 3 проц. Пры вялікіх адлегласцях ніякія скідкі недапушчаюцца.

## Продаж сыравіны і ўтылю ад жывёлы

Побач з продажам жывых таварных свіней фермы абавязаны прадаваць дзяржаўным і каа-

перацыйным арганізацыям свіныя скуры, шчаціну (хрыбетная і лінка) і трупы загінуўшых свіней.

Згодна закона са ўсіх забітых і загінуўшых свіней павінны здымацца скуры. Парушэнне гэтага закона караецца ў крымінальным парадку. Свіныя скуры прадаюцца па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах. Трупы загінуўшых свіней адпраўляюцца на бліжэйшую салатопку або пераапрацоўваюцца на тэхнічнае сала, мясакасцяную муку на ўласных салатопках.

## Як арганізаваць продаж таварнай прадукцыі калгаса на рынак

Апрача продажу таварнай прадукцыі ў лік выканання дзяржаўнага плана жывёлазагатовак кожны калгас, і ў тым ліку калгас, які мае свінаферму, павінен наладзіць гандаль сваімі прадуктамі па **канвенцыйных цэнах**. Рашэннем ЦК партыі і СНК СССР 10 мая 1932 г. і рашэннем ЦВК і СНК СССР ад 20 мая кожнаму калгасу, калгасніку і аднаасобніку—працоўнаму сялянству прадстаўлена права без перашкоды гандляваць прадуктамі жывёлагадоўлі пры ўмове акуратнага выканання планаў здачы (продажу) жывёлы дзяржаве ў лік дзяржаўнага плана мясазагатовак.

Гэтымі рашэннямі калгасам, калгаснікам і аднаасобным працоўным сялянам прадстаўлена рад ільгот па гандлі—зменшан падатак з аба-

рота, устаноўлен невялікі збор пры продажу прадуктаў з вазоў і латкоў і г. д.

Калгасны гандаль мае **вялізарнае значэнне** для пашырэння і ажыўлення тавараабароту ў краіне, **для лепшага снабжэння працоўных горада** с-г прадуктамі. Калгас можа прадаваць сваю прадукцыю на любым рынку, на любым прадпрыемстве, на вакзале чыгункі з вазоў або з ларкоў або нарэшце може арганізаваць свой магазын. Калгас мае права прадаваць таварных свіней або жывымі або бітымі тушамі арганізаванаму пакупніку, напрыклад любому рабочаму каапэратыву і т. д. У гэтых адносінах ніякіх абмежванняў няма і быць не можа.

У сваіх ларках і магазынах калгасы могуць гандляваць не толькі свінінай, але і ўсімі другімі с-г прадуктамі—малаком, гароднінай і г. д. Праз свае ларкі і магазыны кожны калгас абавязан арганізаваць продаж не толькі аграмаджанай калгаснай прадукцыі, але і прадукцыі, якая належыць калгаснікам. З гэтай мэтай калгас можа купляць за грошы або браць на камісію прадукцыю сваіх членаў і прадаваць па рыначных цэнах. Калгас таксама мае права купляць прадукцыю ў другіх калгасаў. Само сабой зразумела, што ў гэтым выпадку калгас павінен гандляваць так, каб цалкам пакрыць свае расходы па гандлі.

Калгасныя магазыны і ларкі можна ствараць некалькімі калгасамі сумесна. У такіх выпадках адзін калгас выступае арганізатарам магазына,

заключаючы з астатнімі дагавары на дастаўку сваёй прадукцыі. Даходы ад гандлю ў такіх выпадках размяркоўваюцца паміж калгасамі па кошту праданай прадукцыі кожным калгасам.

Вельмі важна, каб свінафермы прадавалі парасят калгаснікам для вырошчвання. Цэны на парасят, якія прадаюцца для калгаснікаў, павінны быць **даступнымі**: гэтыя цэны ўстанаўляе праўленне калгаса па свайму пагляду.

Кожны калгас павінен памятаць, што яго абавязкам з'яўляецца таксама дапамога дзяржаве ў выкараненні прыватніка-гандляра, перакупшчыка і спекулянта, а для гэтага трэба ўсур'ёз заняцца арганізацыяй гандлю самых калгасаў, выдзяліўшы для гэтай мэты найбольш растаропных і добрасумленных калгаснікаў.

---

# ДАДАТКІ

**№ 1**

## Аб развіцці свінагадоўлі

**Пастанова Совета народных комісараў Саюза ССР № 80 ад 29 студзеня 1932 г.**

У мэтах заахвочвання развіцьця свінагадоўлі ў калгасах, соўгасах, спажывецкай кааперацыі, у калгаснікаў, а таксама ў аднаасобнікаў і маючы на ўвазе палепшанне снабжэння мясам у карацейшы тэрмін, Совет народных комісараў Саюза ССР **пастанаўляе**.

1. Паставіць задачай калгасаў, соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў, а таксама спажывецкай кааперацыі павысіць агульнае пагалоўе свіней за 1932 г. не менш чым на 35 проц., з тым каб стада свіней ў таварных фермах Свінаводкалгасцэнтра давесці да 4,5 млн. галоў (павелічэнне ў два разы), у Свінавадаб'яднанні—да 2,9 млн. галоў (павелічэнне ў тры разы), не аграмаджанае стада калгаснікаў і аднаасобнікаў—да 9 млн. галоў і стада спажывецкай кааперацыі (адкорм свіней)—да 1,5 млн. галоў.

2. Абавязаць Свінаводкалгасцэнтр. Свінавадаб'яднанне і спажыўкааперацыю на аснове такога развіцця свінагадоўлі забяспечыць у 1932 г. здачу (продаж) таварнага свінога мяса;

а) па Свінаводкалгасцэнтру—у размеры 114 тыс. *т* (2 млн. галоў);

б) па Свінаводаб'яднанню—100 тыс. *т* (1,7 млн. галоў);

в) па спажыўкааперацыі—40,8 тыс. *т* (709 тыс. галоў), не лічачы тых, якія здымаюцца з адкорму.

Абавязаць Калгасцэнтр і Цэнтрасаюз арганізаваць у кожным калгасе, якія не маюць свінагадоўчых ферм, і ў кожным сельпо калектыўнае вырошчванне і калектыўную здачу (продаж) дзяржаве свіней у адкормленым выглядзе ў лік плана загатовак.

3. Павысіць загатоўчыя цэны на свіней, даводзячы іх да 80 кап. за кілограм жывой вагі ў сярэднім.

4. Вызваліць у 1932 г. ад якіх бы там ні было падаткаў свінагадоўлю як у калгасах так і ў аднаасобнікаў, а таксама вызваліць ад абкладання ўсю каштоўнасць кармоў, якія калгасы перадаюць свінагадоўчым таварным фермам.

5. Абавязаць НКЗ СССР адпусціць Свінаводкалгасцэнтру з бюджэтных і крэдытных сродкаў НКЗ СССР у 1932 г. на патрэбы капітальнага будаўніцтва ў свінагадоўчых таварных фермах, на заатэхнічныя мерапрыемствы, на падрыхтоўку кадраў і інш. 119 млн. руб.

6. Паставіць на 1932 г. перад свінагадоўчымі соўгасамі і калгасамі ў якасці асноўнай здачы стварэнне ўстойлівай кармавой базы для свінагадоўлі, у прыватнасці арганізацыю штучных паш. З гэтай мэтай:

а) абавязаць Калгасцэнтр СССР у працягу лютага 1932 г правесці масавую праверку выдзялення калгасамі для сваіх таварных ферм неабходных ім канцэнтрыраваных і другіх кармоў, дабіваючыся давядзення кармавых фондаў да размераў, адпавядаючых прынятаму плану развіцця свінагадоўлі;

б) прапанаваць НКЗ і Калгасцэнтру СССР у веснавую пасеўкампанію 1932 г. прыняць меры да таго, каб у калгасы, якія маюць свінагадоўчыя таварныя фермы, замацавалі за гэтымі фермамі спецыяльныя плошчы кармавых культур, якія-б поўнасцю забяспечылі свіное стада ферм канцэнтрыраванымі і сакавітымі кармамі;

в) абавязаць усе свінагадоўчыя соўгасы, калгасы і СТФ, а таксама спажыўкааперацыю ў максімальнай ступені мабілізаваць усе маючыяся ўнутрыгаспадарчыя кармавыя рэсурсы, скарыстаць для адкорма свіней адыходы харчавання, адыходы і адкіды бліжэйшых с-г. прадпрыемстваў

і ўвесці самую жорсткую эканомію і расходванне кармоў;

г) прапанаваць НКЗ-у і Калгасцэнтру Саюза ССР прэміраваць перадавыя соўгасы і калгасы, якія праявяць найбольшую інцыятыву і прадпрыймальнасць у справе скарыстання дадатковых кармоў для свінагадоўлі і экаиомнага расходвання кармоў.

7. Прапанаваць Наркамснабу СССР адпусціць у лік установленага плана з дзяржаўнага фонда для дапамогі свінагадоўчым таварным калгасным фермам 150 тыс. *т* канцэнтрыраваных кармоў.

8. Прапанаваць Наркамснабу СССР правесці кантрактацыю свіней на асоба ільготных умовах для калгасных таварных ферм, калгасаў і калгаснікаў з тым, што:

а) таварнасць СТКФ і пры калектыўным адкорме свіней у калгасах устанаўляецца ў размеры 70 проц. з астаўленнем у карыстанні калгаснікаў 30 проц. прадукцыі;

б) кантракцыя ў калгаснікаў і аднаасобнікаў падлягае не больш 1—2 парасяці ад апароса, а астатняя частка прыплода застаецца ў поўным распараджэнні гаспадаркі;

в) выдача авансу на свінню, якая кантрактуецца, устанаўляецца ў разьмеры 20 руб. і на бэконную свінню— у размеры 25 руб.

Даручыць Наркамснабу СССР у адпаведнасці з планам загатовак свіней забяспечыць завоз дэфіцытных прамтавараў у асноўныя свінагадоўчыя раёны для продажу здатчыкам свіней.

9. Абавязаць Свінаводаб'яднанне ў працягу 1932—1933 г поўнасцю забяспечыць свінагадоўчыя калгасныя фермы племяннымі вытворнікамі для забяспечання скараспеласці калгаснага свінога стада.

10. Адмяніць усе існуючыя абмежаванні забою свіней, за выключэннем матачнага стада і вытворнікаў.

Адмяніць у сельскіх мясцовасцях абавязковасць забою свіней уласнага спажывання на бойнях і боеньскіх пунктах.

11. Прапанаваць Дзяржбанку СССР фінансаваць пакупку парасят свінафермамі і калгасамі не супроць ра-

хунка, а па абавязацельствам калгасаў з наступным прадстаўленнем рахункаў па закупцы парасят.

12. Прыраўняць агранамічны, заатэхнічны і ветэрынарны персанал свінагадоўчых соўгасаў у адносінах снабжэння іх прамтаварамі да інжынераў прамысловасці.

Прапанаваць НКСнабу і НКПрацы СССР цвёрда забяспечыць у першым квартале 1932 г. водпуск Свінаводаб'яднанню для свінароў неабходную колькасць цёплай вопраткі, спэцвопраткі і абутку.

13. Адзначаючы высокі процант ялавасці матачнага састава і падзяжа парасят у соўгасах і СТФ в прычыны галоўным чынам нездавальняючага правядзення злучнай кампаніі і дрэннага ўтрымання, кармлення і догляда за маладняком, абавязаць Наркомзем СССР па Свінаводаб'яднанню, Свінаводкалгасцэнтру, Цэнтрасаюз і ЦК саюза работнікаў жывёлагадоўчых соўгасаў дабіцца ў 1932 г. рашучага палепшання ў справе вырошчвання і захавання маладняка. У гэтых мэтах устанавіць такую сістэму аплаты працы свінароў і заавэтперсонала ў соўгасах і СТФ, пры якой размер аплаты працы залежаў-бы ад выхада таварнай прадукцыі, змяншэння ялавасці і захавання маладняка.

Старшыня Совета народных комісараў
Саюза ССР **В. МОЛАТАЎ (СКРАБІН)**,
Нам. кіраўніка справамі Совета народных комісараў
Саюза ССР **І. МІРОШНІКАЎ**.

(„Известия“, 30 студзеня
1932 г., № 29).

**№ 2**

## Аб прымусовым абагульненні жывёлы

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка 1932 г.

У радзе раёнаў наглядаецца практыка абагульнення каровў і дробнай жывёлы ў пасобных калгаснікаў фактычна прымусовымі спосабамі, што самым грубым чынам парушае неаднаразовыя ўказанні Цэнтральнага комітэта партыі і статут сельскагаспадарчай арцелі.

Цэнтральны камітэт УсеКП(б) з усёй рашучасцю падкрэслівае, што толькі ворагі калгасаў могуць дапушчаць прымусовае аграмаджанне кароў і дробнай жывёлы ў асобных калгаснікаў.

Цэнтральны комітэт растлумачвае, што практыка прымусовага адбора ў калгаснікаў каровы і дробнай жывёлы не мае нічога агульнага з палітыкай партыі. Задача партыі заключаецца ў тым, каб у кожнага калгасніка былі свая карова, дробная жывёла, птушка. Далейшае пашырэнне і развіццё калгасных ферм павінны праходзіць толькі шляхам вырошчвання фермамі маладняка або пакупкі імі жывёлы.

Цэнтральны комітэт УсеКП(б) прапануе ўсім партыйным, савецкім і калгасным арганізацыям:

1) прыпыніць усякія спробы прымусовага абагульнення кароў і дробнай жывёлы ў калгаснікаў, а вінаватых у парушэнні дырэктывы ЦК выключаць з партыі;

2) арганізаваць дапамогу і садзенічанне калгаснікам, якія не маюць каровы або дробнай жывёлы ў пакупцы і вырошчванні маладняка для ўласных патрэб.

**ЦК УсеКП(б)**

**3**

*Зацверджана калегіяй НКЗ СССР 27 красавіка 1932 г.*

## Палажэнне аб арганізацыі працы ў свінагадоўчых таварных калгасных фермах

### 1. Арганізацыйная структура фермы

1. Свінагадоўчая ферма з'яўляецца асноўнай вытворчаадзінкай калгаса, якая займаецца выключна свінагадоўляй. развядзенне, вырошчванне, забяспечанне гаспадарчымі будынкамі, стварэнне кармавой базы, адкорм свіней і здача таварнай прадукцыі

2. У межах зацверджанага калгасам вытворчага плана свінагадоўчая ферма вядзе сваю вытворчую работу самастойна. Ферма ўзначальваецца загадчыкам фермай, як

дзейнічае на аснове адзінаначалля і нясе персанальную адказнасць за ўсю гаспадарчую дзейнасць фермы ў адпаведнасці з зацверджаным палажэннем аб загадчыку фермай.

Прызначэнне і зняцце з работы загадчыка фермай, тэхніка-свінавода і ветэхніка робіцца праўленнем калгаса з абавязковым зацверджаннем загадчыкам райканторай або райупаўнаважаным Свінаводкалгасцэнтра. Усе астатнія калгаснікі свінаводы выдзяляюцца праўленнем калгаса з удзелам загадчыка фермай, а здымаюцца з работы выключна па пагляду загадчыка фермай.

Тэхнік свінавод у свінафермах адначасова з'яўляецца памоцнікам загадчыка фермай і разам з ім нясе адказнасць за ўсю гаспадарчую дзейнасць свінафермы.

3. У мэтах правільнай арганізацыі працы **і пастаноўкі ўсёй работы на ферме пад адзіным кіраўніцтвам** загадчыка фермай пагалоўе свінагадоўчай фермы разбіваецца на асобныя групы з самастойным і закончаным абаротам стада ў складзе не больш 21 свінаматкі, 1 кныра і прыплода ад іх да поўнага вырошчвання маладняка, г. зн. да здачы (продажу) яго ў адкормленым выглядзе або перадачы ў матачнае стада.

Для абслугоўвання кожнай такой групы свіней выдзяляецца самастойная брыгада з пастаянным складам калгаснікаў-свінаводаў у колькасці не менш 3 чалавек.

4. Перамяшчэнне пагалоўя з адной групы ў другую не дапушчаецца (апрача выпадкаў пастаноўкі свіней у агульны ізалятар фермы пры заразных хваробах), чым і дасягаецца поўная ліквідацыя абязлічкі ў доглядзе за пагалоўем і забяспечваецца сапраўдная адказнасць брыгады за выкананне вытворчых заданняў.

## II. Арганізацыя свінагадоўчай брыгады і ліквідацыя абязлічкі

5. „Шырокае распаўсюджванне павінна атрымаць праверанная на вопыце **лепшых жывёлагадоўчых калгасных ферм** практыка абслугоўвання працуючымі ў брыгадзе калгаснікамі пэўнай групы жывёл з тым, каб жывёлагадоўчая брыгада і ўваходзячыя ў яе калгаснікі

аплачваліся ў валежнасці ад рэзультатаў іх работы (колькасць выдаенага малака, прырост вагі маладняка, размер прыплода і т. п.) (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 года).

У адпаведнасці з гэтым у кожным калгасе, які мае свінагадоўчую таварную ферму, павінны быць створаны спецыяльныя свінагадоўчыя брыгады з пастаянным складам калгаснікаў для пастаяннага абслугоўвання кожнай асобай групы свіней.

6. Для абслугоўвання свінога пагалоўя кожнай групы арганізуецца самастойная брыгада ў складзе 3 свінаводаў, з якіх адзін з'яўляецца старшым свінаводам (брыгадзірам), які працуе разам з другімі свінаводамі брыгады і які нясе адказнасць за правільную расстаноўку сіл і размеркаванне работ унутры брыгады.

Брыгада ў цэлым нясе поўную адказнасць за выкананне месячнага, квартальнага і гадавога плана здачы (продажу) таварнай прадукцыі, за становішча і захаванне стада, за яго фарміраванне ў адпаведнасці з абаротам стада, устаноўленым вытворчым заданнем для брыгады.

У тых свінафермах дзе ўмяшчальнасць маючыхся свінарнікаў большая, чым пагалоўе, замацаванае за брыгадай, свінарнік можа быць разбіты на некалькі груп, для чаго ў свінарніку неабходна зрабіць адпавядаючае раздзяленне. Пры гэтым размер замацаванага за брыгадай пагалоўя таксама не павінен перавышаць 21 маткі з прыплодам і 1 кныра-вытворніка.

У калгасах, свінафермах, якія маюць 21 маткі, наяўнае пагалоўе матак замацоўваецца для абслугоўвання за двумя калгаснікамі з усім абаротам стада. У гэтым выпадку, калі на ферме менш 10 матак, яны прымацоўваюцца да аднаго калгасніка, якому даецца ў дапамогу падростак.

7. Для кожнай брыгады ў паасобку (а ў выпадку, калі пагалоўе менш 21,—для выдзеленых калгаснікаў) устанаўліваецца гадавое вытворчае заданне, у якім павінна быць паказана:

а) колькасць апаросаў і парасят, атрымліваемых ад кожнай свінаматкі ў адпаведнасці з планам злучкі і апаросаў;

б) прырост жывой вагі рамонтных падсвінкаў і адкармліваемых свіней, колькасць свіней для адкорма і здачы ў якасці таварнай прадукцыі;

в) нормы і парадак кармлення;

г) колькасць і склад кармоў;

д) заатэхнічныя і ветэрынарна-санітарныя і другія мерапрыемствы, абавязковыя да выканання свінаводамі і другімі працаўнікамі фермы па павялічэнні і павышэнні якасці прадукцыі, а таксама па барацьбе з захворваннем;

е) здзельная ацэнка адзінкі прадукцыі і колькасці налічваемых працадзён за выкананне ўсяго вытворчага задання і т. д.

8. У абавязкі брыгады ўваходзіць поўнае абслугоўванне ўсяго даручанага ёй свіного пагалоўя:

а) падрыхтоўка кармоў;

б) своечасовае кармленне і паенне;

в) выпуск на прагулку і пашу;

г) уборка і ўтрыманне ў чыстаце станкоў ад свайго пагалоўя;

д) чыстка і мыццё жывёл;

е) начное дзяжурства;

ж) выяўленне прыходзячых у ахвоту матак і правядзенне злучкі;

з) прыём парасят пры апаросак і іх падкормка і т. д.

У мэтах наглядання за становішчам і трыманнем пагалоўя, замацаванага за брыгадай, у свінарніку як правіла павінен знаходзіцца заўсёды ўдзень і ўночы (без адлучкі) адзін з свінаводаў брыгады і заменай другім у часе яго абеда.

У перыяд масавых апаросаў матак, замацованых за брыгадай, у свінарніку павінна быць два свінаводы.

Уся работа вядзецца брыгадай у строгай адпаведнасці з ветэрынарна заатэхнічнымі патрабаваннямі і ўстаноўленымі правіламі ўнутранага распарадка.

9. Для выканання ўсіх падсобных работ (падвозка вады, корма, подсціла і паліва, адвозка гною і т. д.) арганізуецца самастойная брыгада або група для абслугоўвання ўсёй фермы, выходзячы прыкладна з разліку аднаго калгасніка на 50 свінаматак з прыплодам, з улікам адлегласці падвозкі.

10. У пашавы перыод абслугоўваюць свінное пагалоўе, замацаванае за брыгадай, тыя-ж свінаводы, што і ў стойлавы перыод. Змены ў складзе свіней, замацаваных за кожнай брыгадай, у пашавы перыод не дапушчаюцца.

## III. Здзельшчына

11. У мэтах стварэння матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў і спецыялістаў, працуючых на свінаферме, у справе безумоўнага выканання і перавыканання плана здачы (продажу) таварнай прадукцыі, вырошчванне і фарміраванне стада, а таксама ўстанаўлення ацэнкі работы, у залежнасці ад рэзультатаў усе работы на ферме арганізуюцца на аснове **брыгаднай здзельшчыны.**

12. Для правільнага правядзення здзельшчыны работа свінаводаў, у тым ліку і працуючых у ізолятары па непасрэдным абслугоўванні пагалоўя свінафермы—адносяцца да 4 групы цяжкіх і патрабуючых спецыяльнага вопыта работ з ацэнкай гэтай групы ў 1,25 працадні.

13. Выходзячы з установленай у калгасе ацэнкі гэтай групы работ, налічэнні працадзён робяцца кожнай брыгадзе асобна, прычым работа старэйшага свінавода (брыгадзіра) ацэньваецца на 50 проц. вышэй, чым радавога свінавода яго брыгады (гл. табл. 253 стр.).

Выходзячы з гэтага, пры выкананні брыгадай вытворчага задання кожнаму з працуючых у брыгадзе радавому свінаводу і брыгадзіру будзе налічана працадзён (гл. табл. 254 стр.).

Гэтая прыкладная здзельная ацэнка работы ў працаднёх адносіцца да таварных ферм. У племянных фермах яна павінна прымяняцца з улікам асаблівасцяй іх вытвару.

14. Запіс працадзён робіцца кожны раз пры нараджэнні парасят пасля рэгістрацыі іх у дзень нараджэння, пры дасягненні імі 2-месячнага і 4-месячнага ўзроста і пры кожнай здачы (прадажу) таварнай прадукцыі або пераводзе ў матачнае стада.

15. За перавыкананне ўстаноўленага вытворчага задання робіцца налічэнне працадзён брыгадзе ў двайным размеры за кожнае парасё ў 4-месячным ўзросце, атрыманае звыш

## Прыкладная ацэнка работы ў працаднях брыгады

| №№ па чарзе | Назва паказальнікаў | Норма выпрацоўкі брыгады, выходзячы з 6,5 спраўных парасят 8-месячнага ўзросту ад маткі ў год | Ацэнка адзінкі прадукцыі ў працаднёх для брыгады ў цэлым | Гадавая выпрацоўка брыгады пры выкананні вытворчага задання |
|---|---|---|---|---|
| 1. | За кожнае жывое пры апаросе зарэгістрыраванае парасё ў дзень нараджэння . . . . . . . | 135 парасят | 1,75 | 236 |
| 2. | За кожнае аднятае 2-месячнае парасё . . . . . . . . . . | „ „ | 2,40 | 324 |
| 3. | За кожнае даведзенае да 4-месячнага ўзросту парася . . . . . | „ „ | 1,75 | 236 |
| 4. | За кожны цэнтнер прадукцыі ў жывой вазе ад 135 × 70 = 94,5 . . | 94,5 ц | 8,50 | 804 |
| | Разам . . | — | — | 1 600 |

| Назва паказальнікаў | Норма выпрацоўкі брыгады, выходзячы з 6,5, спраўных парасят 8 месячнага ўзроста ад маткі ў год | Будзе налічан за адзінк. прад. у працаднёх | | Гадавая выпрацоўка ў праца днёх пры выкананні вытворчага з дання | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Кожнаму радавому свінаводу | Старэйшаму свінаводу (брыгадзіру) | Радавога свінавода | Старэйшага свінавода (брыгадзіра) | Брыгады ў цэлым |
| 1. За кожнае жывое пры апаросе зарэгістраванае парасё ў дзень нараджэння | 1 35 парасят | 0,50 | 0,75 | 68 | 100 | 236 |
| 2. За кожнае аднятае 2-месячнае парасё . . . . | „ „ | 0,70 | 1,00 | 95 | 135 | 324 |
| 3. За кожнае даведзенае да 4-месячнага ўзроста парасё. . . . . . . . | „ „ | 0,50 | 0,75 | 68 | 100 | 336 |
| 4. За кожны цэнтнер прад. у жывой вазе ад 135 × 70 = 94,5 . . . . . . . | 94,5 ц | 2 50 | 3,50 | 237 | 330 | 804 |
| Разам . . | — | — | — | 468 | 665 | 1600 |

устаноўленай колькасці,—кожнаму радавому свінаводу па 1 працадню і старшаму свінаводу 1,5 працадні; за кожны цэнтнер прадукцыі жывой вагі, атрыманай звыш-плана радавым свінаводам налічаецца па 5 працадзён, а старшаму свінаводу 7 працадзён.

16. За кожнае загінуўшае парасё з народжаных і зарэгістраваных у дзень нараджэння ўтрымліваецца з радавых свінаводаў у два разы больш, чым за захаванне парасят, а са старшага свінавода (брыгадзіра) у два разы больш супроць утрымання з радавога, г. зн. за падзеж парасят да 2-месячнага ўзроста з кожнага радавога свінавода ўтрымліваецца па 1 працадню, а са старэйшага свінавода—2 працадні; за падзеж парасят ва ўзросце ад 2 да 4 месяцаў з радавых свінаводаў утрымліваецца па 2,4 працадні, а са старэйшага свінавода—4,8 працадні; за падзеж парасят ва ўзросце старэй 4 месяцаў з радавых свінаводаў утрымліваецца па 3,4 працадні, а са старэйшага свінавода—6,8 працадні.

17. Работа калгаснікаў, якая ўваходзіць у склад абслугоўваючай брыгады (падвозка корма вады і т. д.), адносіцца да 3-й групы цяжкіх работ з ацэнкай гэтай групы ў адзін працадзень. Брыгадзір гэтай брыгады атрымлівае сярэднюю выпрацоўку радавых свінаводаў фэрмы.

18. Ва ўсіх свінафермах, якія маюць больш 21 свінаматкі, выдзяляецца загадчык фермай, вызвалены ад другіх работ, які таксама як тэхнік свінавод і веттэхнік (калі яны члены аднаго калгаса), атрымліваюць працадні ў два разы больш сярэдняй выпрацоўкі радавых свінаводаў усёй фермы, а асоба, якая вядзе ўлік фермы атрымлівае сярэднюю выпрацоўку старэйшых свінаводаў (брыгадзіраў).

> **Увага.** На фермах, якія маюць пагалоўе да 21 свінаматкі, старшы свінавод (брыгадзір) адначасова з'яўляецца і загадчыкам фэрмай.

19. „Ацэнка працадня калгасніка павышаецца або зніжаецца ў залежнасці ад паспяховасці работы брыгады" (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 193[illegible] г.).

20. У мэтах павышэння зацікаўленасці свінаводаў у захаванні і вырошчванні маладняка і поўнага выканання

плана здачы (продажу) таварнай прадукцыі. брыгадзе ўстанаўляецца грашовая даплата звыш налічаемых працадзён у размеры па 1 руб. за кожнае выгадаванае парасё да $1^1/_2$—$2^1/_2$ месячнага ўзроста і па 1 руб. за кожны цэнтнер зданай таварнай прадукцыі дзяржаве.

Выдача гэтай грашовай даплаты павінна разбірацца праўленнем калгаса зараз-жа пасля дасягнення маладняком паказанага ўзроста і пры кожнай здачы (продажу) таварнай прадукцыі.

21. Па кожнай брыгадзе ў паасобку ўстанаўляецца абавязковы вытворчы ўлік, згодна формам дэкаднай і месячнай справаздачнасці, зацверджанай Свінаводкалгасцэнтрам. Для вядзення гэтай справаздачнасці на фермах, якія маюць больш 42 свінаматак, выдзяляецца вучотчык, вызвалены ад другіх работ. У тых-жа фермах, у якіх менш 42 свінаматак, работу па ўліку выконвае загадчык фермай.

22. На кожнай свінаферме абавязкова павінны быць арганізованы вытворчыя нарады, на якія запрашаюцца калгаснікі і спецыялісты, працуючыя на ферме. Кіраўніцтва і адказнасць за работу вытворчых нарад ускладаецца непасрэдна на загадчыка фермай.

23. Для заахвочвання лепшых калгснікаў-ударнікаў, якія даюць сістэматычнае перавыкананне вытворчага задання, захоўваючых эканомію ў расходванні кармоў і якія беражліва адносяцца да маёмасці і жывёлы фермы, у кожнай свінагадоўчай ферме арганізуецца спецыяльны грашовы фонд для прэміравання ў размеры не менш 3 проц. валавога дахода фермы. Гэтыя проценты адлічаюцца праўленнем калгаса па дагавору з Свінаводкалгасцэнтрам. Прэміі павінны выдавацца зараз-жа пасля выяўлення рэзультатаў работы.

**У сувязі з увядзеннем гэтага палажэння аб арганізацыі працы на свінагадоўчых таварных калгасных фермах, праўленне Свінаводкалгасцэнтра СССР прапануе ўсім загадчыкам канторамі, абласным, краявым і рэспубліканскім Свінаводкалгассаюзам і аддзяленнем Свінаводкалгасцэнтрам забяспечыць у карацейшы тэрмін сапраўднае правядзенне ў жыццё арганізацыі працы згодна гэтага палажэння.**

# Аб абавязковай пастаўцы мяса дзяржаве ў 1934 г.

## Пастанова Совета народных камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага камітэта УсеКП(б)

Совет народных камісараў Саюза ССР і Цэнтральны камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

1. Устанавіць на 1934 г. (з 1 студзеня па 31 снежня) наступныя сярэднія па рэспубліках, краям і абласцям нормы абавязковай, маючай сілу падатка, пастаўцы мяса дзяржаве па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах, паасобна для калгасных двароў у калгасах, не маючых таварных жывёлагадоўчых ферм, паасобна для калгасных двароў у калгасах з таварнымі жывёлагадоўчымі фермамі і паасобна для аднаасобных сялянскіх гаспадарак:

| | Для калгасных двароў у калгасах, не маючых жывёлагадоўчых таварных ферм | Для калгасных двароў у калгасах з жывёлагадоўчымі таварнымі фермамі | Для аднаасобных сялянскіх гаспадарак |
|---|---|---|---|
| | У кілограмах жывой вагі | | |
| 1. Заходняя вобласьць . . <br>2. Маскоўская вобласьць . <br>3. Горкаўскі край . . . <br>4. Башкірская АССР . . <br>5. Татарская АССР . . <br>6. Заходня-сібірскі край . <br>7. Усходнясібірскі край . <br>8. Якутская ССР . . . | 32 | 25 | 50 |

| | Для калгасных двароў у калгасах, не маючых жывёлагадоўчых таварных ферм | Для калгасных двароў у калгасах з жывёлагадоўчымі таварнымі фермамі | Для аднаасобных сялянскіх гаспадарак |
|---|---|---|---|
| | У кілорамах жывой вагі | | |
| 9. Беларуская ССР . | 32 | 25 | 50 |
| 10. Паўночны край. . . | | | |
| 11. Ленінградская вобласць. . . . . . | | | |
| 12. Іванаўская вобласьць . | | | |
| 13. Уральская вобласьць . | | | |
| 14. Сярэдняволжскі край . | 30 | 20 | 45 |
| 15. Цэнтральначарназёмная вобласць . . . | | | |
| 16. Крымская АССР . . | | | |
| 17. Кіргізская АССР. . . | | | |
| 18. Карэльская АССР . . | | | |
| 19. Ніжня-волжскі край . | | | |
| 20. Паўночна-каўказскі край | | | |
| 21. Казакская АССР. . | | | |
| 22. Кара-калпакская АССР | | | |
| 23. Далёка-ўсходні край . | 25 | 15 | 40 |
| 24. Ўкраінская ССР . . | | | |
| 25. ЗСФСР . . . . . . | | | |
| 26. Узбекская ССР . . | | | |
| 27. Туркменская ССР . | | | |
| 28. Таджыкская ССР . . | | | |

2. Устанавіць наступныя каляндарныя тэрміны здачы мяса дзяржаве аднаасобнымі гаспадаркамі і калгаснымі дварамі па рэспубліках, краях і абласцях у процантах ад гадавой нормы:

| | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал |
|---|---|---|---|---|
| 1. Паўночны край. . . | 35 | 10 | 20 | 35 |
| 2. Карэльская АССР. . | | | | |
| 3. Сярэдня-волжскі край. | | | | |
| 4. Паўночна-каўказскі край | | | | |
| 5. Ніжня-волжскі край . | | | | |
| 6. Казакская АССР . . | | | | |
| 7. Кіргізская АССР . . | | | | |
| 8. Далёка-ўсходні край . | | | | |
| 9. Крымская АССР . . | | | | |
| 10. УССР. . . . . . | | | | |
| 11. ЗСФСР . . . . . | | | | |
| 12. Узбекская ССР. . . | | | | |
| 13. Туркменскkя ССР . . | | | | |
| 14. Таджыкская ССР . . | | | | |
| 15. Ленінградская вобласць | 40 | 10 | 20 | 30 |
| 16. Маскоўская вобласць . | | | | |
| 17. Іванаўская вобласць . | | | | |
| 18. Уральская вобласць . | | | | |
| 19. Цэнтральна - чарназёмная вобласць . . . | | | | |
| 20. Усходня-сібірскі край. | | | | |
| 21. Заходняя вобласць. . | 45 | 10 | 20 | 25 |
| 22. Горкаўскі край . . . | | | | |
| 23. Башкірская АССР . . | | | | |
| 24. Татарская АССР . . | | | | |
| 25. Заходня-сібірскі край . | | | | |
| 26. БССР. . . . . . | | | | |
| 27. Якуцкая АССР. . . | — | 50 | 50 | — |
| 28. Кара-калпакская АССР | | | | |

3. Для жывёлагадоўчых таварных ферм і аграмаджанага стада калгасаў устанавіць наступныя нормы абавязковай маючай сілу падатка, пастаўкі мяса дзяржаве ў кілаграмах жывой вагі:

па буйнай рагатай жывёле 30 *кг* з кожнай каровы і нецел;

па свіннях 120 *кг* з кожнай маткі;

па авечках 8 *кг* з кожнай маткі і яркі.

Па Ўзбекскай ССР, Туркменскай ССР, Таджыкскай ССР, Кара-калпакскай АССР, Казакскай АССР Далёка-усходняму краю і ЗСФСР устанавіць для таварных ферм і аграмаджанага стада калгасаў паніжаныя нормы пастаўкі мяса дзяржаве:

па буйнай рагатай жывёле—20 *кг* і па свіннях—80 *кг*.

Размер пастаўкі мяса вызначаецца па наяўнасці жывёлы на 1-е верасня 1933 г.

Пры вылічэнні падлягаючай здачы мясной прадукцыі на калгасных фермах не прымаецца ў равлік племянная жывёла, занесеная ў племянныя кнігі (запісы).

4. Устанавіць наступныя каляндрныя тэрміны выканання гадавых абавязацельстваў па здачы мяса дзяржаве кожным калгасам (у процантах ад гадавой нормы):

| | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал |
|---|---|---|---|---|
| Па буйнай жывёле . . | 35 | 10 | 25 | 30 |
| Па свіннях. . . . . | 30 | 15 | 20 | 35 |
| Па авечках . . . . | 25 | — | 35 | 40 |

5. Абавязаць советы народных камісараў саюзных і аўтаномных рэспублік, краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты, выходзячы з норм, устаноўленых у артыкулах

1 і 3, устанавіць розныя (дыферэнцыраваныя) нормы пастнаўкі мяса па паасобных раёнах, забяспечыўшы безумоўнае выканаанне гадавога плана па рэспубліцы, краю і вобласці і, па зацверджанні Наркомснаба СССР, апублікаваць устаноўленыя нормы не пазней 1 кастрычніка 1933 г.

Безумоўна забараняецца мясцовым органам улады змяняць устаноўленыя параённыя нормы здачы мяса дзяржаве для калгасных ферм, аграмаджанага стада калгасаў, калгасных двароў і аднаасобных гаспадарак.

6. Устанавіць, што калгасныя двары і аднаасобныя гаспадаркі могуць выконваць свае абавязацельствы па пастаўцы мяса дзяржаве любым відам жывёлы і птушкі але абавязкова ў жывым выглядзе. Здатчыкі могуць аб'ядноўвацца ў групы для сумеснага выканання сваіх абавязацельстваў.

Калгасы могуць выконваць свае абавязацельствы любым відам жывёлы, аднак, свінні павінны здавацца па ўстаноўленых нормах без замены іншай жывёлы.

7. Калгасы, калгасныя двары і аднасобныя гаспадаркі, не выканаўшы ва ўстаноўленыя законам тэрміны сваіх абавязацельстваў па пастаўцы (здачы) мяса дзяржаве падвяргаюцца грашаваму штафу ў размеры рынкачнага кошту недавыкананай часткі абавязацельстваў з із'яццём падлягаючай задачы жывёлы ў бясспрэчным парадку.

8. За скрыццё сапраўднага пагалоўя жывёлы ў аграмаджаным стадзе калгасаў і ў калгасных таварных фермах устанавіць крымінальную (па арт. 62-м Крымінальнага Каадэкса РСФСР і па адпаведных артыкулах крымінальных кодэксаў іншых рэспублік) адказнасць старшынь, праўленняў калгасаў і загадчыкаў жывёлагадоўчымі таварнымі фермамі калгасаў.

9. Практычнае правядзенне ў жыццё гэтай пастановы, ўскласці на Наркомснаб СССР і на яго ўпаўнаважаных у рэспубліках, краях і абласцях.

10. Калгасам, калгасным дварам і аднаасобным гаспадаркам, поўнасцю выканаўшым свае абавязацельствы па пастаўцы мяса дзяржаве па абавязацельствах, устаноўленых пастановай ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 23 верасня 1932 г. на перыод з 1-га кастрычніка 1932 г. на

21 студзеня 1934 г., прадаставіць права выконваць уста ноўленыя гэтай пастановай абавязацельствы, шляхам датэрміновай пастаўкі мяса, пачынаючы з 1 кастрычніка 1933 г. у лік гадавых абавязацельстваў 1934 г.

11. Безумоўна забараніць мясцовым органам улады, а таксама загатоўчым арганізацыям накладаць на калгасныя таварныя фермы і грамаджанае стада калгасаў, на калгаснікаў і аднаасобнікаў абавязацельствы па здачы мяса дзяржаве ў размерах перавышаючых нормы здачы, апублікованыя ў адпаведнасці з гэтай пастановай. Забараніць таксама даваць дадатковыя або сустрэчныя планы па здачы мяса гаспадаркам, датэрмінова выканаўшым свае абавязацельствы, забяспечыўшы акуратным здатчыкам поўную магчымасць свабодна распараджацца лішкамі сваёй прадукцыі па свайму погляду.

Папярэдзіць усе партыйныя і савецкія арганізацыі, што асобы, вінаватыя ў дачы сустрэчных планаў, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня СНК Саюза ССР

**В. МОЛАТАЎ** (Скрабін)

Сакратар Цэнтральнага камітэта УсеКП(б) **І СТАЛІН**

28 жніўня 1933 г.

## ЗМЕСТ

*Стар.*

## V. Развядзенне свінней



## VI. Арганізацыя і правядзенне злучнай кампаніі ў СТКФ

## VII. Адкорм свіней



## IX. Машыны на свінагадоўчых калгасных фермах



## X. Заагігіена, прафілактыка і першая дапамога

## Дадаткі

